перакосы. Пад уздзеяннем атэізму, вульгарнага матэрыялізму і жорсткага прагматызму чалавецтва, не выключаючы славянства, беларусаў у тым ліку, прымае лінейную схему руху як абавязковую і аптымальную. Мы ўжо не шукаем іншых мадэляў развіцця, толькі "крочым", толькі "наперад", безаглядна сцвярджаючы, што цывілізацыйныя змены — прагрэс, а ўсё нязменнае — калі не свядома наўмысна, дык аб'ектыўна — тармозіць самыя важныя і перспектыўныя працэсы. У розных сферах жыцця таксама схема напаўняецца па-свойму. Але відавочна, што ў адносінах да духоўна-культурнай спадчыны яна проста заганная. Пры любым падыходзе. Асабліва ж калі падразумяваюцца ўстоі. Як метафара тут дарэчы вось якое бачанне руху: без устояў, апор не можа стаяць мост; прычым устоі патрэбны трывалыя, сталыя, каб надоўга забяспечваўся на мосце рух туды, куды трэба. І назад таксама, бо назад — гэта да зыходу, пачатку, роднага котлішча, першаіснасці. Як без усяго такога?

Ды, апроч усяго, схемай павінен улічвацца яшчэ адзін кірунак — угару. Нельга выпускаць з-пад увагі, што царкоўнаславянская мова ствáралася дзеля выканання адначасова, у неразрыўнасці, сакральнай і ідэнтыфікацыйнай функцый. Таму далёка не рытарычнае пытанне, як можа спраўляцца з абедзвюма функцыямі сучасная беларуская мова з яе шматстагоддзевым статусам абмежаванага ўжытку.

Задачы нацыянальнай ідэнтыфікацыі, вядома, на цяперашнім этапе выглядаюць інакш, як у эпоху Кірылы і Мяфодзія, і, адпаведна, патрабуюць вырашэння, абумоўленага новымі рэаліямі. Ды гэта зусім не азначае, што раптам, уміг можа быць заменена мова ў сферы сакральнай, нават калі ў прынцыпе ўсе без выключэння будуць згодны, што такая замена патрэбная і магчымая наогул. Хоць і тут несправядліва абвінавачваць ва ўсім царкву, а канкрэтней — іерархаў.

Паказальным — асабіста для мяне ён значны як паказчык народнай мудрасці — адказ беластоцкіх мужыкоў (цяперашніх, якія захавалі веру продкаў, у адрозненне ад нас, не як "помнік

культуры, які ахоўваецца дзяржавай") іхняму паслу ў сейме на пытанне, ці хочуць яны, каб у царкве служылі на мове паўсядзённага ўжытку: "Э не, так я на скаціну гукаю, на жонку сваруся, з суседам лаюся ..." Патрэбны каментарыі?

Рэзка выпіраюць вострыя куты і ў працэсе перакладу.

Тэарэтычных спрэчак аб тым, перакладаць ці не перакладаць Святое пісанне, святаайцоўскую, жыційную, духоўна-асветную літаратуру, амаль што няма. З цікавасцю сустракаюцца ўсе напрацоўкі гэтага плана. Разам з тым не знойдзена яшчэ агульнапрымальнай канцэпцыі, як перакладаць, па якіх мерках ацэньваць перакладзенае. Прыслухаемся да меркавання Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Аляксія II: "... Калі дапускалася паспешлівасць у багаслоўскіх перакладах, справе Царквы гэта шкодзіла вельмі сур'ёзна. Дастаткова згадаць раскол з Армянскай Царквою з-за недакладнага перакладу дзеянняў IV Усяленскага сабора. Тут патрэбна не проста ўдумлівасць, а малітоўная ўдумлівасць. Патрэбна глыбокая царкоўнасць" [Вестник Белорусского экзархата 2/1991.— №7.— С.31]. І гэта не нова. Рыгор Хадкевіч у прадмове да Евангелля вучыцельнага [Заблудаў, 1569] пісаў: "И совещаша ми люди мудрые в том письме ученые, иже прекладаніем з давных пословиц на новые помылка чинится немалая". Толькі гэта ўлічваючы, патрабаванні да царквы, каб яна як мага хутчэй брала з перакладаў усё запар, канструктыўнымі назваць нельга. Павінен улічвацца комплекс рэальных умоў, а дзе якія з іх — прымацца ва ўсёй складанасці. Звернем увагу на некаторыя.

Атэістычная свядомасць наогул не збіраецца адрозніваць сферы агульнага карыстання ад тых, куды са сваімі ўстанаўленнямі лезці па меншай меры нетактоўна, калі нават няма шыльды "Пабочным уваход забаронены". Усё, што датычыцца веры,— кампетэнцыя толькі тых, хто яе вызнае, саміх вернікаў. Інакш кажучы, яно не павінна быць прадметам безадноснай рыторыкі, тым больш палітычных спекуляцый. Для царквы і ўцаркоўленага люду — гэта пытанні кананічныя, выверан ыя шматстагоддзевай традыцыяй і абгрунтаваныя багаслоўем.

Ды і памяркоўная пазіцыя неўцаркоўленага аматара "вырашаць глабальныя праблемы" патрабуе ўвагі вось да якога моманту: справа датычыць мовы, на якой людзі звяртаюцца да Бога і Бог звяртаецца да людзей; таму, калі аднаму накірунку сувязі могуць і павінны спрыяць усе, незалежна ад узроўню, проста кажучы, "без спецыяльнай падрыхтоўкі", дык сувязь адваротная дагэтуль і на ўсе часы мае спецыфічныя прынцыпы. А хіба гэтага мала, каб задумацца над складанасцю задач, усвядоміць адказнасць за патрабуемыя змены, адкінуць побытавыя ці актуальна-палітычныя меркі?

Вельмі важны тут яшчэ псіхалінгвістычны аспект. Каб праілюстраваць думку, дазволім сабе невялічкае адступленне з прыкладам. Калі рыхтаваўся перапіс насельніцтва СССР у 1970 годзе, студэнты звярнуліся да аўтарытэтнага прафесара-лінгвіста з пытаннем, як пры двухмоўнасці вызначаць мову родную. І ў адказ пачулі, што з шэрага іншых крытэрыяў не апошні такі: раднейшая мова тая, на якой лічыш сам сабе, не ўголас, не задумваючыся. Своеасабліва кладзецца гэтая разумная парада на прадмет нашай гаворкі. Прынамсі, на тое, што датычыцца мовы малітоўнай. Чалавек, навучаны ад роду маліцца пацаркоўнаславянску, звыклы да такой менавіта малітвы пры любых умовах — і ў саборных, і, што яшчэ важней, асабістых зваротах да Бога — наўрад ці пяройдзе на іншы моўны варыянт. Залежыць гэта не толькі і не столькі ад свядомаснай устаноўкі.

Недаравальна таксама, што прыхільнікі раптоўнага і канчатковага пераводу царквы на сучасную беларускую мову адрознасць яе ад спаконвечнай царкоўнай бачаць і ўсім тлумачаць павярхоўна, толькі паводле запасу слоў з адпаведнай стылістычнай нагрузкай, тады як стыль, склад царкоўнаславянскай мовы характарызуецца адметнасцю фанетыкі і марфалогіі, сінтаксісу і рытміка-інтанацыйнага ладу, роўна як і сваімі асаблівасцямі (функцыянальнай) графікі, а таксама і дадатковых правілаў аздаблення. Усё разам гэта служыла таму, каб узвысіць, нагадаць пра свет горні, святло з нябёсаў. А мы цяпер узялі адваротны кірунак — на зніжэнне, каб звесці Боскае

да звычайнага, паўсядзённага, засяродзіць у свеце дольнім — ”хлеб насущный” замяніць “хлебам штодзённым”. Асабістыя звычкі і патрэбы такога характару — выбар самой асобы, яе права. Ды справа ж не ў гэтым, а ў лёсе мовы, якая з’яўляецца іншабыццём калектыўна-этнічнага быцця.

Не лішне яшчэ раз да чужога вопыту звярнуцца: чамусьці ў Індыі мова “Ведаў” недатыкальная ўжо чатыры тысячагоддзі; як мова богаслужэння зменам не падлягае арабская; да нашых дзён у старажытным выглядзе як богаслужбовыя дайшлі і грэчаская, і лацінская, старагрузінская.

За падобнае стаўленне да славяншчыны якраз аддаваў “пахвалу міжвольную рускаму (“заходняга краю”, значыць, беларускаму ў сучасным разуменні.— І.Ч.) духавенству” ў свой час З.Даленга-Хадакоўскі, падкрэсліваючы, што яно “маліла бога ў славянскай мове”, у адрозненне ад палякаў [гл.: Dolega-Chodakowski Z. O Slawianszczyznie przed chrzescijanstwem oraz inne pisma i listy. Warszawa, 1967.— S.26].

Сапраўды, мову і ўсю спадчыну святых Кірыла і Мяфодзія зберагала найбольш праваслаўная царква. На працягу тысячагоддзя. А далей? Варта як след задумацца. Усім, хто не жадае, каб хісталася ад узрушэнняў захавальніца скарбаў і не прапаў сам скарб.

Заклік славіць Бога “сваёй уласнай мовай” мае сэнс. І трэба прыкласці ўсе намаганні, каб мова беларуская стала “роўнасвяшчэннай” ці хоць наблізілася да таго. Але трэба ведаць таксама, што выраз: “Дух бодрствует, плоть же немощна”,— перакладаўся і так: “Віскі моцны, а мяса не прыдатнае для спажывання”.

Усё нібыта правільна.

**Крыванос Ф.**, *святар, клірык*
*Свята-Духава кафедральнага сабора*
(Мінск)

# РАГНЕДА-АНАСТАСІЯ

Шырокае распаўсюджванне на Беларусі славянскага пісьменства, якое мы назіраем у мінулыя стагоддзі, было перш за ўсё звязана з дзейнасцю праваслаўнай царквы. Менавіта дзякуючы ёй мы сёння праз жывое Слова, калісьці вымаўленае, а потым пакладзенае на паперу, маем магчымасць даведацца аб нашым гістарычным мінулым.

Ва ўлонні царквы заўсёды дзейнічалі пэўныя людзі, якія подзвігам сваёй самаахвярнай працы спрыялі пашырэнню сярод свайго народа благавесція Хрыстова.

Нам хочацца засяродзіць увагу на постаці Рагнеды-Анастасіі, полацкай князёўны, што жыла 1000 гадоў назад і пакінула пра сябе незабыўны, яркі след у роднай гісторыі тым, што адной з першых далучылася да веры Хрыстовай.

Звесткі аб прыняцці Рагнедаю хрысціянства змешчаны ў Цвярскім (XVI ст.) і Густынскім (XVII ст.) старажытных летапісах.

У прыватнасці, Густынскі летапіс распавядае, што пасля прыняцця хрысціянства "... посла Володимер к жене своей Рогнеде, глаголя: "Аз убо отнелиже крещен есмь и приях веру и закон христианский, подобает ми едину мети жену, юже ныне поях во християнстве; ты же избери себе от вельмож моих, его же хощеши..." Она же отвечавши рече ему: "Егда ли тебе требе есть Царства Небеснаго, мне же не требе его? К сему бывши княгинею, како могу стерпети у слуги твоего раба быти? Но прошу уневести мя своему Христу, и да прииму святый ангельский иноческий образ". Еже любо бысть Володимеру. Сын же ея Ярослав хром сый от чрева матери своея, иже бе при ней сидя, егда услыша сия словеса, возблагодари Бога о разуме и добром изволении ея; и абие здрав бысть и начать

ходити, доселе не ходив. Рогнедь же пострижеся во иночество, и наречено имя ей Анастасия".

Некаторыя гісторыкі, спасылаючыся на пазнейшае паходжанне названых летапісаў, лічаць гэтыя звесткі адвольнымі ўстаўкамі пазнейшых аўтараў, плёнам іх фантазіі і таму ставяцца да іх скептычна. Звесткі Цвярскога і Густынскага летапісаў сапраўды легендарныя, з'яўляюцца паданнем, аднак адсюль не вынікае, што яны наогул не заслугоўваюць уважлівага, удумлівага разгляду. Да іх варта звярнуцца, бо і ў самым легендарным паданні могуць захоўвацца зярняты ісціны.

Такому вываду спрыяе цэлы шэраг довадаў. Кожны з іх падаецца нам даволі слушным.

Пачнем з таго, што са старажытных летапісаў дакладна вядомая адна незвычайная, вельмі цікавая акалічнасць, якую нельга абысці ўвагаю. Справа ў тым, што з прыняццем хрысціянства на Русі ў княска-дружынным асяроддзі не знайшлося ніводнай асобы, якая б належала да сацыяльных вярхоў грамадства і адмовілася ад хрышчэння. Актыўнае супрацьдзеянне новай рэлігіі аказвалі выключна вешчуны — прадстаўнікі жрэцкага саслоўя, што перыядычна імкнуліся ўзначаліць народныя выступленні супраць княскай улады, каб скіраваць незадаволенасць людзей пераважна ў бок хрысціян. Зразумела, што і сам народ яшчэ не адно стагоддзе трымаўся шматлікіх паганскіх павер'яў і абрадаў. Але нават у тым становішчы ніводны з князёў Старажытнай Русі ніколі, нідзе, ні пры якіх палітычных абставінах не ўзняў паганскага сцяга ў барацьбе за ўладу, не скарыстаў прыхільнасці простага люду ў своекарыслівых мэтах. Юліяна Адступніка нашы продкі не ведалі.

У сувязі з гэтым заканамерна ўзнікае пытанне: калі ўсе ўсходнеславянскія князі, пачынаючы з Уладзіміра, у тым ліку полацкія, прымалі хрысціянства і з іх колаў не выйшла нікога, хто адмовіўся б ад хрышчэння, дык чаму Рагнеда павінна быць выключэннем з агульнага правіла? Усё ж такі яна была жонкаю князя, які хрысціў Русь...

Вядомы рускі гісторык Дзм.Ілавайскі выказваў слушную думку аб тым, што падчас існавання Старажытнай Русі да распаўсюджвання хрысціянства ў значнай ступені прычыніліся жанчыны з княскага асяроддзя. "В числе Владимировых жен,— пісаў ён,— упоминаются чехиня, болгарыня и гречанка, которые без всякого сомнения были усердными миссионерками в семье русского князя и продолжали дело бабки Владимировой Ольги". Ад сябе дададзім, што тую ж справу працягвала Рагнеда-Анастасія.

Разам з хрышчэннем, як паведамляюць Цвярскі і Густынскі летапісы, Рагнеда прыняла імя Анастасія, што ў перакладзе з грэчаскай мовы значыць "уваскрэсшая". Дзіўнае, прыгожае імя набыла полацкая князёўна, у якім, быццам у люстэрку, адбілася самая значная з тых ідэй, што хрысціянства ўнесла ў чалавечае жыццё. Ці было вядома гэтае імя Уладзіміру і тым святарам, якія ў 988 г. прыйшлі на Русь з пропаведдзю ідэалаў новай культуры? "Повесть временных лет" дазваляе асвятліць узнятае пытанне станоўча. З яе пэўна вядома пра Анастасія Карсуняніна, што дапамог князю Уладзіміру ўзяць прыступам грэчаскі горад Карсунь (Херсанес), дзе валадар Кіеўскай Русі хрысціўся асабіста. Пазней гэты Анастасій быў святаром у заснаванай Уладзімірам Дзесяціннай царкве. Можа ён і паўплываў на Уладзіміра, каб Рагнедзе было дадзена імя ў памяць аб грэчаскай святой — мучаніцы Анастасіі? Што вельмі цікава, дагэтуль у Херсанесе (Карсуні) захаваўся надмагільны крыж, высечаны з каменя; на ім прачытваецца надпіс, зроблены на грэчаскай мове: "Памяці святой мучаніцы Анастасіі". Той крыж датуецца археолагамі V—VI стст. пасля Р.Х. Значыць, у Карсуні існаваў пэўны культ св.мучаніцы Анастасіі. У гонар яе і магла атрымаць сваё новае імя Рагнеда.

І пазней мы сустракаем гэтае імя ў шэрагу старажытнарускіх імёнаў. Дачка кн.Яраслава Мудрага Анастасія брала шлюб з венгерскім каралём Андрэем. Жонка менскага князя Глеба Усяславіча, таксама Анастасія, ахвяравала шмат залатых і сярэбраных грыўнаў на карысць Кіева-Пячэрскага манастыра.

У цэлым цыкле былін, што распавядаюць пра сватаўство Уладзіміра, узгадваецца багатырша Настасія. На апошні прыклад у свой час звяртаў увагу гісторык фальклору Б.Сакалоў. Па яго меркаванні, "христианское имя Рогнеды — Анастасия — сохранено устным путем былинами о женитьбе Владимира".

Прыняццю хрысціянства Рагнедаю магло спрыяць і тое, што яшчэ ў дзявоцтве, да шлюбу з Уладзімірам, яна павінна была мець нейкае ўяўленне аб новай рэлігіі. Усё ж такі полацкая князёўна жыла ў адным з буйнейшых усходнеславянскіх гарадоў, што гандляваў з Візантыяй і краінамі Скандынавіі, неаднаразова бачыў замежных купцоў, якія наведвалі яго па сваіх справах. Без сумніву, сярод тых купцоў сустракаліся і хрысціяне па веравызнанні. Першымі прыхільнікамі хрысціянства на Русі былі купцы варажскага паходжання, якія бойка гандлявалі ад Балтыйскага да Чорнага мора. Цяжка ўявіць сабе, каб князёўна з Полацка нічога не чула пра веру некаторых з іх.

Наступная дэталь. Як сведчаць розныя летапісныя крыніцы, спачатку да Рагнеды сватаўся не Уладзімір, а ягоны брат Яраполк, пазней забіты дружыннікамі Уладзіміра. Згодна В.Тацішчаву, гэты князь спагадліва ставіўся да першых хрысціян Рускай зямлі. "Ярополк же бе муж кроткий и милостивый ко всем,— адзначае В.Тацішчаў,— любяше христианы, и асче сам не крестися, народа ради, но никому не претяше". Прыведзеныя звесткі дапаўняюцца паведамленнем з Ніканаўскага летапісу аб прыёме Яраполкам пасольства з Рыма: "Того же лета приидоша к Ярополку из Рима послы",— гаворыць летапісец. Пацвярджэннем прыхільнасці Яраполка да новай веры можа з'яўляцца той факт, што пры жыцці Яраслава Мудрага яго рэшткі былі перазахаваны па хрысціянскім абрадзе. Сумніцельна, каб Рагнеда нічога не ведала пра сімпатыі Яраполка, які прапанаваў ёй шлюб.

Думку аб верагоднасці хрышчэння Рагнеды падмацоўвае і тая акалічнасць, што яе дзеці: Ізяслаў і Яраслаў — увайшлі ў гісторыю як абаронцы, асветнікі хрысціянства.

Цікавы лёс напаткаў яе першага і найбольш любімага сына Ізяслава. Пры ім у Полацкім княстве ўзнікла пісьменства. Археолаг Ул.Янін на пачатку 50-х гг. у выніку раскопак Ноўгарада знайшоў актавую пячатку Ізяслава, на якой грэчаскімі літарамі выціснута яго імя. У свой час яна лічылася старажытнейшым помнікам усходнеславянскага пісьменства. Параўноўваючы эмблему пячаткі з княскімі знакамі на манетах Уладзіміра, Ул.Янін вызначыў, што яна бытавала ў канцы X ст., калі ў землях усходніх славян княжыў толькі адзін Ізяслаў — сын Рагнеды-Анастасіі. Паколькі пашырэнне пісьменства было звязана ў канцы X ст. з працэсам хрысціянізацыі, Ізяслаў мог выступаць не толькі ў якасці асветніка, але і непахіснага прыхільніка новай веры. НездармаНіканаўскі летапіс наступным чынам характарызуе Ізяслава: "Бысть же сий князь тих и кроток, и смирен, и милостив, и любя зело и почитая священнический чин иноческий, и отвращаяся от суетных глумлений, и слезен, и умилен, и долготерпелив".

Апрача Ізяслава, заслугоўвае ўвагі і другі сын Рагнеды Яраслаў. Аб роднаснай сувязі паміж імі пад 1000 годам прама кажа "Повесть временных лет". Калі Рагнеда памерла, кіеўскі летапісец нездарма паведаміў : "В се же лето преставися Рогнедь, мати Ярославля". Падобныя паведамленні не робяцца беспадстаўна. Запіс гэты заслугоўвае даверу, бо адносіцца да ліку "погодных"— найбольш старажытных. Ён не можа не здзіўляць нас, калі мець на ўвазе, што Рагнеда памерла ў Заслаўі (ці ў Полацку), а летапісец адзначыў гэта, знаходзячыся ў Кіеве! Бяскрайнія абшары лясоў, балот і рэк, што падзялялі іх, не перашкодзілі яму зафіксаваць падзею яе смерці. Гэта, безумоўна, сведчыць аб значнай вядомасці, якой карысталася Рагнеда пры жыцці. На Полаччыне яе запомнілі як маці Ізяслава, на Кіеўшчыне — як маці Яраслава.

З дзейнасцю кн.Яраслава Мудрага быў звязаны моцны ўздым хрысціянства ў Кіеўскай Русі. Пры ім узвялі першы Сафійскі сабор, дзякуючы яго намаганням узнікла летапісанне, з'явіліся кнігасховішчы, узрасла колькасць школ па навучанні

грамаце. Не выключана, што першыя паважлівыя словы аб хрысціянстве Яраслаў пачуў ад сваёй маці — Рагнеды-Анастасіі.

Нельга не звярнуцца да таго эпізода цытаванага намі падання, у якім мы бачым Яраслава зусім маленькім, калі ён цудоўна папраўляецца пры словах Рагнеды аб жаданні прыняць новую веру. Праведзеныя ўрачом Д.Рохліным у 1940 г. анатамічныя даследаванні рэштказ кн.Яраслава сведчаць аб тым, што ў дзяцінстве ён сапраўды дрэнна хадзіў, бо меў ад нараджэння вывіх, ад якога дзеці нярэдка з узростам збаўляюцца, асабліва пры нейкіх надзвычайных узрушэннях.

Нарэшце, ускосна верагоднасць прыняцця Рагнедаю хрысціянства пацвярджаюць некаторыя назвы мясцовасцей горада Заслаўя, у якім яна была паселена кн.Уладзімірам.

Да цяперашняга часу дзве маленькія рачулкі, што працякаюць праз горад, называюцца Княгінькай і Чарніцаю. Калісьці, яшчэ ў XIX—пачатку XX ст., прыкметнае ўзвышша над Чарніцаю (праваруч Менскага шляху) жыхары горада называлі Чорнай гарой, расказвалі, што ў мінулым на ёй месціўся манастыр, у якім жыла Рагнеда.

Цікава, што і сёння, нават у канцы XX ст., ад старажылаў Заслаўя можна пачуць асобныя звесткі пра Рагнеду. Так, у снежні 1989 г., наведваючы іх, мы трапілі да Марыі Вашкевіч, жанчыны, якой тады споўнілася 103 гады. Яна расказала адно паданне, простае, але вельмі жывое, што прыйшло да нас з глыбіні стагоддзяў. На пытанне: "Бабуля, а можа Вы чулі пра Рагнеду?"— наша субяседніца спачатку разгубілася і проста-сардэчна адказала: "Ну чула, чула, але ж з ёй не размаўляла..." А потым у працяг сказанага дадала: "Непадалёку ад нашай дзеравушкі,— людзі гаварылі,— тут Рагнеда праязджала і пацярала грабяшок, цераз, там такі роў бальшы, дык там, гаворань, яна на кані вярхом праязджала і пацярала грабяшок. Гэта ўсягда, усе гаварылі, успаміналі". І ўслед назвала вёскі: "Между Сяляўшчынай і Лабэншчынай". Абедзве вёсачкі побач з Заслаўем. Паданне М.Вашкевіч мы запісалі на магнітафон.

Супастаўленне звестак з розных гістарычных крыніц, уважлівы разгляд іх схіляюць да меркаванняў, што, нягледзячы на легендарнасць захаваўшагася да нашых часоў паведамлення Густынскага і Цвярскога летапісаў аб затворніцтве ў манастыры знакамітай Рагнеды-Анастасіі, яно мае пад сабой пэўны грунт, сведчыць аб прыняцці полацкай князёўнай веры Хрыстовай, далучэнні яе да святой праваслаўнай царквы, з якой непарыўна звязана пашырэнне пісьменства, а значыць, асветніцтва на нашай зямлі.

**Штыхаў Г.В.,** *докт.гіст.навук,*
*Інстытут гісторыі*
*НАН Беларусі*

## СЛАВЯНСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА Ў ПОЛАЦКУ (КАНЕЦ X—XIII стст.)

Для вывучэння пачаткаў славянскага пісьменства на тэрыторыі Беларусі важнае значэнне мае даследаванне старажытнага пісьменства ў Полацку, бо гэта самы старажытны горад нашай Бацькаўшчыны, якому сёлета спаўняецца 1135 гадоў (адлічваючы ад 862 г.). Зразумела, плённым будзе вывучэнне пастаўленага пытання ў кантэксце з'яўлення і распаўсюджвання пісьменства ва ўсім славянскім свеце. І тут мы шчыльна павінны судакрануцца з дзейнасцю знакамітых славянскіх асветнікаў Кірыла і Мяфодзія.

Мова, на якую Кірыл і Мяфодзій перакладалі кнігі з грэчаскай мовы, у навуцы дагэтуль не мае адзінай назвы. Адны лінгвісты называюць гэтую мову старацаркоўнаславянскай, другія — старабалгарскай, трэція — старaславянскай. Больш прымальнай з'яўляецца назва "старaславянская мова", бо яна ўключае паняцце першай літаратурнай мовы славян і сведчыць пра лінгвістычнае значэнне гэтай мовы для вывучэння гісторыі славянскіх моў [Ёлкіна, 1960].

У навуцы добра вядома, што стараславянскія помнікі напісаны дзвюма азбукамі — глаголіцай і кірыліцай. Узораў пісьма, выкананых глаголіцай, у Беларусі не выяўлена. Помнікі, якія да нас дайшлі, напісаны кірыліцай.

Кірыліца ўяўляе складаную і творчую перапрацоўку грэчаскай (візантыйскай) азбукі. З усіх 43 літар кірыліцы ў візантыйскім алфавіце 19 літар адсутнічалі, і яны былі ўключаны ў кірылаўскую азбуку з улікам асобнага гукавога складу стараславянскай мовы. У выніку дасканалага ўліку фанетычнага складу стараславянскай мовы кірылічны алфавіт меў усе літары, неабходныя для правільнай перадачы гэтай мовы [Істрын, 1963]. Прыдатны быў кірылічны алфавіт і для дакладнай перадачы мовы ўсходніх славян, дыялекты якой ужо ў IX—X стст. некалькі адрозніваліся ў фанетычных адносінах ад стараславянскай мовы. Адпаведнасць кірылічнага алфавіта мовам усходніх славян (рускай, украінскай, беларускай) пацвярджаецца тым, што за тысячу гадоў у гэты алфавіт спатрэбілася ўвесці толькі некалькі новых літар (й, ё, ў).

Пісьмовая традыцыя Полацкай зямлі ў X—XIII стст. развівалася, дзякуючы агульнакультурнаму ўздзеянню Візантыі і Балгарыі. Ужо ў канцы X ст. у Полацку існавала пісьменства, у якім выкарыстоўвалася кірыліца. Доказам гэтаму служыць пячатка полацкага князя Ізяслава (памёр у 1001 г.). Гэтая була (свінцовая пячатка) прывешвалася на раменьчыку да пісьмовага дакумента, напісанага на пергаменце. Знойдзена яна пры археалагічных раскопках у Ноўгарадзе (1953 г.). Полацкі князь Ізяслаў накіраваў у Ноўгарад нейкую грамату, змацаваную гэтай пячаткай. На вонкавым баку булы — выява знака Рурыкавічаў і навокал знака надпіс кірылічнымі літарамі "Ізас/лав/ос"— грэчаскае гучанне імя Ізяслаў [Янін, 1970].

Полацкая пячатка вядомая як першы па старажытнасці ўзор славянскага пісьменства пасля гнёздаўскай знаходкі. У Гнёздаве, каля Смаленска, у 1949 г. знойдзена амфара з выдрапаным на ёй не зусім зразумелым кірылічным надпісам "горушна" (гарчыца) ці "гарухша" (імя), які адносяць да

сярэдзіны X ст. Але такое дataванне недастаткова аргументавана. У гнёздаўскім кургане было выяўлена 5 арабскіх дырхемаў. Найбольш позні з іх выбіты ў 907—908 гг. [Аўдусін, 1977]. Час "вандравання" дырхемаў, пакуль яны дасягнулі Верхняга Падняпроўя з мусульманскага Усходу, мог складаць да 100 гадоў, як звычайна лічаць нумізматы. Таму трэба гаварыць пра больш шырокую дату ўзвядзення гэтага кургана — другая палова X ст. Не выключана, што надпіс на амфары балгарскага паходжання.

Вядомыя іншыя раннія надпісы на пячатках з Полацка. На пячатцы Еўфрасінні Полацкай зроблены надпіс кірылічнымі літарамі: "Господі, помози рабе своеи Евфросини нарицаемои". На другім баку пячаткі выява шматфігурнай кампазіцыі Прэабражэння з рэшткамі грэчаскага надпісу МЕТА (МОР) Ф (О) С (1С), як яго вызначае В.Л.Янін [Янін, 1970].

Пры рэстаўрацыйных работах у Полацкай Сафіі выяўлены надпіс на плінфе — цэгле, якая выкарыстоўвалася для муравання сцен у 50-я гады XI ст. Будавалі Полацкую Сафію, як Кіеўскую і Наўгародскую, візантыйскія дойліды, але ў прыгатаванні цэглы і іншых работах удзельнічалі мясцовыя майстры. На адной цагліне па сырой гліне быў зроблены надпіс. У надпісе прысутнічаюць два знакі, якія з'яўляюцца літарамі-лічбамі: "Ч" пад цітлам азначае 90 і "фіта", якая мае лічбавае значэнне 9. Без названых лічбаў надпіс чытаецца "а явно". Надпіс, несумненна, славянскі, зроблены ён кірылічнымі літарамі, а мог быць і грэчаскі. Справа ідзе аб колькасці плінфаў. На 99 цагліне зроблены надпіс-метка, г.зн. наступная — сотая. Надпіс мае будаўнічы характар [Штыхаў, 1978].

Знойдзены яшчэ другі надпіс XI ст. у Сафійскім саборы ў Полацку. На вялікім плоскім камяні ў падмурку выдрапаны імёны людзей, якія будавалі сабор: "Давидъ, Тоума, Микоула", а таксама "Петърь, Воришъ" [Булкін, Раждзественская, 1984].

Вывучыўшы надпісы на чатырох камянях у рэчышчы Заходняй Дзвіны, вучоныя прыйшлі да згоды, што яны былі зроблены па загаду полацкага князя Барыса (памёр у 1129 г.).

Яго прыкладу пазней паследаваў сын Рагвалод-Васіль. У 1171 годзе ён загадаў высечы крыж і надпіс на велізарным камяні вышынёй каля трох метраў. Гэтыя помнікі добра вядомы ў навуцы [Рыбакоў, 1964].

У надпісе на сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве: "Воинегъ писалъ Журяговиць полоцянинь",— вызначана месца жыхарства яе аўтара — Полацк і адчуваюцца прыметы мясцовага дыялекту (Высоцкі, 1966). Да полацкага пісьменства адносіцца доўгі надпіс, які зроблены на пласцінах крыжа Еўфрасінні Полацкай. Тут паведамляецца год падаравання крыжа Еўфрасінняй Спаскай царкве (6669-ы, ці 1161-ы па нашым злічэнні), кошт матэрыялу (100 грыўняў) і працы (40 грыўняў). У другой частцы надпісу запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спаскай царквы. Унізе змешчаны дробны надпіс з імем майстра: "Г(оспод)и помози рабоу своемоу Лазорю нареченомоу Богъши съделавъшемоу крьсть сии црькви святаго Спаса и Офросиньи" [Аляксееў, 1966].

У распаўсюджванні пісьменства сярод славянскіх народаў вельмі істотную ролю адыграла сярэднявечная Балгарыя. З прыняццем хрысціянства ў Кіеве (988 г.), а затым у іншых гарадах усходніх славян, у тым ліку ў Полацку, з'явіліся кнігі, якія былі складзены на стараславянскай мове. На гэтай мове, а фактычна на яе македонска-балгарскай аснове ў IX—X стст. развілася літаратура, спачатку выключна царкоўная. Вось тады, у канцы X ст., славянскае пісьменства трапіла ў Полацк.

Даследчыкі ў пачатку XX стагоддзя прыйшлі да высновы, што шляхам паступовага пераўтварэння царкоўнаславянскай мовы ў выніку яе абрусення ўзнікла старажытнаруская літаратурная мова пры выкарыстанні літар царкоўнаславянскай (старабалгарскай) мовы. Заснавальнік беларускай філалогіі Я.Ф.Карскі пісаў: "Первая письменность на Руси явилась вместе с принятием христианства в X веке. Так как языком богослужебных книг был язык церковнославянский, зашедший к нам от болгар, то естественно, что он лег в основу русского литературного языка... К XIV веку на народной основе уже

выработался довольно сильный, с своеобразными русскими особенностями, литературный язык" [Карскі, 1912].

Буйнейшы спецыяліст у галіне рускага мовазнаўства А.А.Шахматаў у шэрагу сваіх прац выказаў і абгрунтаваў думку аб тым, што "руская" літаратурная мова па сваім паходжанні не руская, што яна ўзнікла на базе царкоўнаславянскай кніжнай мовы і з'яўляецца ў першааснове сваёй мовай старабалгарскай. На рускай глебе ў выніку гістарычнага развіцця гэтая мова падверглася "русіфікацыі", іншымі словамі, ператварэнню ў літаратурную мову пад уздзеяннем мовы "рускага народа". А.А.Шахматаў пісаў: "... по своему происхождению русский литературный язык — это перенесенный на русскую почву церковнославянский (по происхождению своему древнеболгарский) язык, в течение веков сближавшийся с живым народным языком и постепенно утрачивавший свое иноземное обличие" [Шахматаў, 1941].

Сучасныя вучоныя даказваюць, што ў Кіеўскай Русі былі дзве пісьмовыя літаратурныя мовы: першая старaславянская (царкоўнаславянская), другая — старажытнаруская [Гаршкоў, 1987]. Аднак прымет, паводле якіх гэтыя мовы адрозніваюцца паміж сабой, адзначаюць настолькі мала, што беларускі даследчык І.Ласкоў прапанаваў наступны пасаж: "Старажытнарускай мовы ніколі не існавала, ні пісьмовай, ні гутарковай. Былі гаворкі палянаў, драўлянаў, крывічоў і г.д. А тое, што нам засталося ад Кіеўскай Русі на паперы, напісана на царкоўнаславянскай, мове Бібліі" [Ласкоў, 1994].

Каштоўным помнікам сярэднявечнай літаратуры Полацка з'яўляецца "Повесть жития" асветніцы найпадобнейшай Еўфрасінні (каля 1104—1167 гг.). У ім даецца паслядоўнае апісанне жыцця святой: "како родися", "въспитася", "възрасте", што звычайна для падобных літаратурных твораў у іх кананічнай форме выкладання. Аўтар жыція быў знаёмы з жыціем Еўфрасінні Александрыйскай (V ст.) і ў значнай ступені наследаваў яму. Жыцію Еўфрасінні Александрыйскай наследавала і князёўна Прадслава (у манастве Еўфрасіння) з Полацка.

Верагодна, князь Георгій запрасіў для выхавання дачкі настаўніка-святара ці мніха, які абучыў князёўну грамаце і Свяшчэннаму Пісанню. У Прадславы з'явілася патрэба "начат книги писати своима рукама". У створаным Еўфрасінняй манастыры яна заснавала школу, дзе навучала дзяўчынак грамаце. Тут існавала бібліятэка, утвораная з кніг, прынесеных з Сафійскага сабора.

Жыціе Еўфрасінні Полацкай напісана на стараславянскай мове, відаць, манахам полацкага мужчынскага манастыра ў канцы XII ці пачатку XIII ст. Прынамсі ў канцы XII ст. была створана служба святой Еўфрасінні, сціхіра з якой добра захавалася [Кніга жыцій, 1994]. Стараславянская мова з'явілася для аўтара "Жыція" невычарпальнай крыніцай гатовага лексіка-фразеалагічнага матэрыялу, асобных сінтаксічных канструкцый, а таксама іншых стылістычных сродкаў асабліва ў выпадках, калі неабходна было надаць апісанню адценне ўзнёсласці, урачыстасці: "не заморить Господь гладом душа праведных", "се собрах вы, яко кокош под креле свои", "учаша сестры своя... а множае разумети", "епископа сущаго тогда, нарицаемого Илью", "блажени людие, жывущеи во граде том" і інш.

У адносна больш раннім спісе "Жыція" тройчы выкарыстаны тэрмін "боляры", які вызначаў прадстаўнікоў вышэйшага слоя знаці — баяр. Гэты тэрмін у форме "болярин" характэрны для больш даўняй літаратуры. Але "Жыціе Еўфрасінні Полацкай" дайшло да нашага часу ў пераробках XVI—XVII стст. (усяго больш за 100 спісаў), у значнай ступені русіфікаваных.

У заключэнне хочацца адзначыць, што літаратурнай мовай у раннім сярэднявеччы валодалі нямногія адукаваныя людзі. На ёй простае насельніцтва не размаўляла. На тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст. у кожнай этнічнай супольнасці — дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў-палачан, на аснове якіх сфарміраваліся беларусы,— існавалі свае ўласцівасці мовы, племянныя дыялекты, свая гутарковая мова.

**Шматаў В.Ф.**, *доктар мастацтвазнаўства, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі*

# РАЗВІЦЦЁ МЕДЗЯРЫТУ ВА ЎСХОДНЕСЛАВЯНСКІХ СТАРАДРУКАХ (кан.XVI—XVIII стст.)

Украінскія даследчыкі (У.Січынскі, Я.Ісаевіч, Д.Сцепавік, А.Запаска), а следам за імі рускія (А.Сідараў, С.Клепікаў і інш.) сцвярджаюць, што адна з найбольш дасканалых і адмысловых тэхнік гравюры — медзярыт — на ўсходнеславянскіх землях узнік ва ўкраінскім друкарстве, а пазней з Украіны пашыраўся ў Расіі. Беларусь, яе майстры металагравюры ў гэтых даследаваннях не згадваюцца.

Тым часам тэхніка гравюры на метале з'явілася на Беларусі задоўга да таго, як з ёю пазнаёміліся ўкраінскія і рускія майстры. Больш таго, як убачым далей, менавіта беларускія майстры перанеслі медзярыт ва ўкраінскія і рускія старадрукі.

Добра вядома, што развіццю медзярыту ва ўсіх краінах папярэднічала гравюра на дрэве [Кристеллер П. История европейской гравюры XV—XVIII вв. М., 1939; Журов А.П., Третьяков Е.М. Гравюра на дереве. М., 1977]. У адрозненне ад заходнееўрапейскіх краін (найперш Нямеччыны), дзе дрэварыты напачатку распаўсюджваліся ў выглядзе лубкоў рэлігійнага зместу, на ўсходнеславянскіх землях яны пашыраліся разам з кнігадрукаваннем (як ілюстрацыя). Ужо ў Бібліі Ф.Скарыны (1517—1519) — першай друкаванай кірыліцкай Бібліі ў свеце (!) — прадстаўлены ўсе віды і жанры ілюстрацый: партрэт, сюжэтна-тэматычныя выявы, застаўкі, канцоўкі і інш.

З Захаду (дакладней з чэшскай Прагі) Скарына адначасна з друкарствам пераносіць тэхніку гравюры (запазычаную ў Нямеччыне і Чэхіі) на ўсходнеславянскія землі. У першым

віленскім выданні “Малой падарожнай кніжкі” (20-я гг. XVI ст.) асобныя ілюстрацыі адціснуты з дошак, рэзаных для славутай нюрнбергскай “Сусветнай хронікі” Г.Шэдэля (1493). Яны хутчэй за ўсё належаць настаўніку Дзюрэра Міхаэлю Вольгемуту.

Пасля Скарыны дрэварыт трывала ўвайшоў у беларускія старадрукі, аздобіўшы выданні Вільні, Заблудава, Куцеіна, Супрасля, Магілёва і інш. [З прычыны адсутнасці публікацый па дадзенай тэме вымушаны спасылацца на сваю кніжку “Беларуская кніжная гравюра XVI—XVII стагоддзяў”. Мн., 1984].

З Беларусі ілюстрацыя-дрэварыт крочыць у Маскву, а пазней на Украіну. У першым маскоўскім дакладна датаваным выданні — Апостале — друку Івана Фёдарава і Пятра Цімафеева Мсціслаўца (1564) франтыспіс з выявай апостала Лукі выкананы не без удзелу Пятра Цімафеева Мсціслаўца, які, паводле шэрага аўтараў (Е.Галубкіна, Т.Ільяшэвіч), у маладыя гады працаваў у віленскай друкарні Ф.Скарыны [Сидоров А.А. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951.— С.111—113].

Цалкам пад уплывам Беларусі развівалася тэхніка гравюры ва ўкраінскім друкарстве. Пераехаўшы з Заблудава ў Львоў, Іван Фёдараў перавёз туды з Беларусі (але зусім не з Масквы, як пішуць многія аўтары) друкарскае абсталяванне, у тым ліку дошкі гравюр на дрэве. Ён выкарыстаў іх ужо ў першынцы ўкраінскага друкарства — львоўскім Апостале (1574). На франтыспісе (самай ранняй гравюры на Украіне) тут бачым тую ж, выкананую Пятром Мсціслаўцам (паводле першаўзору нямецкага майстра Эрхарда Шона), рамку з выявай трыумфальнай брамы, якая раней аздобіла згаданы маскоўскі Апостал (пазней гэтая ж рамка ўпрыгожыла тытул славутай астрожскай Біблії 1581 г. і адно з найбольш ранніх выданняў на літоўскай мове — “Пасцілу” Даўкшы, 90-я гг. XVI ст.). На адвароце ж першага ліста львоўскага Апостала адціснута дрэварытная ілюстрацыя —герб Хадкевіча, якая раней друкавалася ў заблудаўскім Псалтыры (1570) [Запаско Я. Мистецтво книги

на Украіні XVI—XVIII стст. Львів, 1971.— С.40—42]. На франтыспісе ж ранняй астрожскай “Кнігі аб постнічастві” (1594) адціснута выява евангеліста, рэзаная Пятром Мсціслаўцам для віленскага Евангелля (1575). У астрожскім выданні, аднак, евангеліст фігуруе ў якасці Васіля Вялікага.

Факты ўздзеяння беларускай гравюры на дрэве на рускую і ўкраінскую лёгка памножыць. І гэта зразумела. Пасля Майнца, дзе Іаган Гутэнберг здзейсніў найвялікшы пераварот у гісторыі цывілізацыі — вынайшаў друкарства,— гравюра на дрэве пашыраецца ў розных гарадах і краінах (Бамберг, 1458; Страсбург, 1461; Кёльн, 1464; Аўгсбург і Базель, 1468; Нюрнберг, 1470), а затым у Італіі (1465), Чэхіі (каля 1468) і інш.

Як зазначана вышэй, з Захаду Скарына перанёс тэхніку гравюры на беларускія і літоўскія землі. Новаўвядзенне вялікага палачаніна не магло заставацца незаўважаным: рускія і ўкраінскія майстры “чорнага друкарства” хутка зразумелі перавагі новай тэхнікі тыражавання відарыса — дасканалага сродку распаўсюджвання мастацкіх вобразаў, ідэй.

Аналагічная з’ява адбывалася і ў развіцці самай ранняй тэхнікі гравюры на метале — медзярыту.

Звязаная генезісам з чаканкай і злотніцтвам, рознымі тэхнікамі апрацоўкі металу, гравюра на метале пачала шырока прымяняцца ў заходнееўрапейскім друкарстве толькі з другой паловы XVI ст. Асобныя спробы ўжыць яе ў інкунабульны перыяд — карты ў працах Птагамея, выпушчаныя ў Рыме ў 1478 г., адзінкавыя ілюстрацыі ў надрукаваным у 1488 г. “Падарожжы ў Святую зямлю” і інш.— мелі эпізадычны характар [Фуке Ф. Книговедение. М., 1982.— С.218]. З сярэдзіны XVI ст. медзярыт усё часцей ужываецца ў ілюстраванні (найбольш у Італіі), а ў XVII ст. гэтая тэхніка гравіравання дамінуе ў друкарстве заходнееўрапейскіх краін. Перад гравіроўкай на дрэве яна мела шэраг істотных пераваг. Так званы падоўжны, ці “абразны”, дрэварыт, які з часоў Скарыны панаваў у беларускай кнізе, ужо не мог паспяхова выконваць складаныя жыццёвыя задачы.

Узнікненне новых жанраў (картаграфіі, відаў гарадоў, панегірычных гравюр з вялікімі тэкстамі і інш.) патрабавала ад мастакоў больш дасканалай тэхнікі.

Медзярыт спрыяў шырокаму ўжыванню перакрыжаванай штрыхоўкі, багатай танальнай мадэліроўкі формы, рэалістычнай перадачы рэфлексаў, святлаценяў і паўтонаў. Іменна ў гравюры на медзі ў XVII ст. найбольш ярка выявіліся новыя пошукі мастакоў у перадачы прасторы, засваенні класічнай спадчыны.

Да таго ж рыхлыя лініі дрэварыту не адпавядалі барока з яго імкненнем да пышнасці формаў, багацця святлоценявых эфектаў, дынамічнасці і экспрэсіўнасці.

Прымяненне медзярыту ў ілюстраванні было звязана са значнымі цяжкасцямі. У адрозненне ад гравюры на дрэве ён адносіцца да глыбокага друку. Таму медзярыт амаль немагчыма выкарыстаць адначасна з друкаваннем тэксту, які ажыццяўляецца метадам высокага друку. Вось чаму медзярыты напачатку звычайна друкаваліся на асобных лістах і ўклейваліся ў кнігу (у той час як гравюры на дрэве арганічна ўваходзілі ў набор і друкаваліся адначасна з тэкстам).

Тут няма неабходнасці аналізаваць тэхніку металагравюры з яе мноствам разнавіднасцей (“сухая іголка”, афорт, пункцірная гравюра і інш.). Адзначым толькі, што гэтая тэхніка больш складаная, чым тэхніка дрэварыту; яна патрабуе асобнага абсталявання, спецыяльнага станка, разцоў (так званых “грабштыхелей”) і інш.

Трэба аддаць належнае майстрам беларускай кнігі, якія пераадолелі немалыя цяжкасці на шляху засваення медзярыту і ўсталявалі яго ў беларускую кнігу. Ёсць падставы меркаваць, што першыя вопыты гравюр на метале на беларускія тэмы яшчэ ў другой палавіне XVI ст. рабіліся за мяжой — у Італіі, Германіі, Галандыі. У 1568 г. быў выкананы медзярыт, які паказвае прыём каралём Сігізмундам Аўгустам у 1567 г. іншаземных паслоў у Гродне. Гравюра зроблена вядомым майстрам М.Цюнтам па малюнку Г.Адэльгаўзера, створанаму, як лічыў Э.Раставецкі, у Гродне.

У 1579 г. у Італіі награвіраваны "Карта Полацкай зямлі" і "План Полацка". Малюнак выканаў Станіслаў Пахалавецкі, пісар канцылярыі караля Стэфана Баторыя. Гравіраваў карту і план Полацка вядомы італьянскі майстар Батыста Кавалерыс.

У канцы XVI—пачатку XVII ст. медзярыт актыўна ўвайшоў у беларускую кніжную графіку. У Вялікім княстве Літоўскім да медзярыту адным з першых звярнуўся нясвіжскі мастак Тамаш Макоўскі. Гравёр, друкар і картограф, ён працаваў у Нясвіжы пры двары князя Мікалая Радзівіла Сіроткі. Паводле Ю.Калачкоўскага, Макоўскі жыў у 1575—1630 гг. У некаторых даследаваннях сцвярджаецца, што тэхніку медзярыту Макоўскі ўпершыню прымяніў у 1604 г. у Панегірыку братоў Скарульскіх. На самой жа справе першыя медзярыты Макоўскага датуюцца 1601 г. Гэта тытульны ліст кнігі "Вандраванні князя Мікалая Радзівіла Сіроткі ў замежныя краіны", якая выйшла ў Брунсбергу ў 1601 г. Тытул кнігі аздоблены гравіраванай на медзі рамкай з малюнкам Іерусалімскага крыжа. Устаноўлена: Макоўскі ездзіў у Брунсберг (гравёр выехаў туды з Нясвіжа 10 ліпеня 1600 г.) і знаходзіўся там да выхаду кнігі. Гравюры для брунсбергскіх выданняў рабіліся ў Нясвіжы напярэдадні выхаду кнігі з друку. Адсюль вынікае, што першыя працы гравёра ў тэхніцы медзярыту выконваліся ў канцы XVI ст.

У "Вандраваннях" змешчаны і даволі пасрэдны партрэт Сіроткі — у авальнай рамцы ў пышным княжацкім адзенні.

З імем Макоўскага звязана і выкананне першай капітальнай карты Вялікага княства Літоўскага, на якой адзначана звыш 312 населеных пунктаў на тэрыторыі Беларусі.

Прыгадаем і іншыя медзярытныя ілюстрацыі Т.Макоўскага: да "Гіпікі" К.Дарагастайскага (канец XVI ці пачатак XVII ст.; тытульны ліст да "Панегірыка Казіміру", выпушчанаму ў 1610 г. друкарняй Віленскай акадэміі. [Здаецца, гэта першы выпадак прымянення гравюры на метале ў акадэмічных выданнях.]

Такім чынам, факты сведчаць, што гравюры на метале на ўсходнеславянскіх землях напачатку засвоілі беларускія майстры кнігі (да Тамаша Макоўскага нам не вядомы ніводны выпадак прымянення медзярыту на Украіне і ў Расіі). У першай палове XVII ст. у Вялікім княстве Літоўскім у гэтай тэхніцы працавалі Аляксандр і Лявонцій Тарасевічы (браты?), Мікола Шымкевіч, Максім Вашчанка, Інакенцій Шчырскі, Лявонцій Кршчановіч, а таксама замежныя майстры: Конрад Гётке, Томас Шнопс, Лаўрэнцій Вілатц, Іаган Энгельгардт, Даніель Пельцэльда, Абраам ван Вестэрфельд.

Большасць іх ілюстравалі выданні Віленскай езуіцкай акадэміі. Нельга не зазначыць, што тэхнікай медзярыту значна часцей ілюстраваліся польска-лацінскія кнігі, а ў кірыліцкай дамінаваў дрэварыт, які да канца XVIII ст. развіваўся адначасна з медзярытам. І яшчэ: апошні паводле тэматыкі і стылю больш шчыльна, чым дрэварыт, звязаны з заходнееўрапейскай мастацкай традыцыяй [Шматаў В.Ф.Беларуская кніжная гравюра...— С.116—133].

Сярод твораў XVIII ст. адзначым унікальную серыю партрэтаў (звыш 160) выпушчанага ў Нясвіжы альбома "Выявы роду князёў Радзівілаў". Большасць металагравюр прыпісваюць Гершку Ляйбовічу, які, верагодна, паходзіў з Міра. Падобных манументальных выданняў Польшча, Украіна і Расія ў тыя часы не ведалі.

Прааналізаваць тут гравюру на метале ў старадруках Беларусі і Літвы немагчыма. Гэта асобная вялікая праблема, якая можа і павінна стаць тэмай грунтоўнай манаграфіі. Прыгадаем найбольш значныя выданні: "Разарыум" з гравюрамі Аляксандра Тарасевіча, рэзанымі каля 1672 г., магчыма, у Глуску; ягоныя ж медзярыты да выпушчаных у Вільні "Жыццій святых" (1693) [Степовик Д. Олександр Тарасевич. Київ, 1973.— С.13—37]; тытульны ліст да кірыліцкага (!) "Летургікона", альбо "Служэбніка" (Вільня — Супрасль. 1692—1695), выкананы Лявонціем Тарасевічам (брат Аляксандра Тарасевіча ?), ілюстрацыі да "Манархіі Турэцкай" (Слуцк, 1678)

з гравюрамі — паводле подпісаў яны рэзаліся ў Магілёве — Максіма Вашчанкі і інш. [Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра...— С.116—133.] Гэтыя і іншыя творы пераконваюць, што ў канцы XVI—першай палове XVII ст. (перыяд найбольш плённага развіцця нашага медзярыту) майстры Беларусі і Літвы засвоілі практычна ўсе віды і жанры медзярытнай ілюстрацыі: партрэт, сюжэтна-тэматычную і панегірычную выявы, так званыя "тэзісныя" гравюры (іх яшчэ называюць "канклюзіямі" або "падпіснымі гравюрамі").

З Беларусі беларускія майстры кнігі пераносяць металаграфію на Украіну, прымяняюць яе ва ўкраінскіх стараддруках. Доўгі час лічылася, што ўпершыню на Украіне металаграфію прымяніў магілёўскі друкар Спірыдон Собаль у кіеўскім Апостале (1628) [Зернова А.С. Белорусский печатник Спиридон Соболь // Книга. Исследования и материалы: Сб.10. М., 1965.— С.129, 135]. Аднак у 70-я гады ўкраінскі даследчык Я.Ісаевіч выявіў некалькі львоўскіх кніг з медзярытамі, якія ў 1616 г. надрукаваў Хрыстафор Вольбрам [Исаевич Я.Д. Первые гравюры на меди в книгах типографий Украины // Памятники культуры. Новые открытия: Ежегодник. Л., 1979.— С.301—302]. Да пераезду ў Львоў ён займаўся друкарствам у Вільні. Паводле меркавання Я.Ісаевіча, Вольбрам даручыў ілюстраванне згаданаму намі вышэй віленскаму майстру Конраду Гётке. [Там жа.— С.305.]

Такім чынам, не толькі кіеўскія, але і больш раннія за іх львоўскія выданні на Украіне ілюстраваліся выключна майстрамі Беларусі і Літвы.

Тое ж самае назіраем і пазней. У буйной украінскай Ноўгарад-Северскай друкарні медзярыт (выява Багародзіцы Чарнігаўскай) быў ужыты ўпершыню ў 1676 г. у кнігах Лазара Барановіча. [Клепиков С.А. Оформление книг, изданных Новгород-Северской типографией Барановича в 1674—1679 гг.// Книга и графика. М., 1972.— С.148. Аўтар памылкова меркаваў, што гэта самае ранняе прымяненне медзярыту.] Як і Х.Вольбрам, у ранні перыяд ён быў звязаны з Вільняй

[Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра... С.141]. Адтуль ён запрасіў у Чарнігаў (сюды ў 1679 г. была пераведзена Ноўгарад-Северская друкарня) згаданых вышэй майстроў металагравюры Л.Тарасевіча, І.Шчырскага і Л.Кршчановіча, а Аляксандр Тарасевіч, які разам з Лявонціем Тарасевічам быў самым адмысловым майстрам медзярыту, пераехаў у Кіеў. З Літвы і Беларусі яны перанеслі на Украіну не толькі ўсе асноўныя віды і жанры металагравюры, але і яе абсталяванне. Цікава, што Л.Кршчановіч ужо ў тыя часы сам не без гонару пісаў, што на Украіне зрабіў "тщаніе і початок... конклюзій (асобны від гравюры на метале.— В.Ш.) і афикций тут перед тим в Малой России нигди не бывалых..." [Летопись событий в юго-восточной России в XVII веке // Сост. С.Величко. Киев, 1855.— С.418].

Факты красамоўна сведчаць, што ўсе самыя выдатныя гравюры на метале на Украіне (напрыклад, "Кіева-Пячорскі патэрык" з найвыдатнейшымі ілюстрацыямі Лявонція Тарасевіча, 1702) выканалі мастакі Беларусі і Літвы. Таму недарэчнымі ўспрымаюцца меркаванні Д.Стэпавіка пра ўкраінскае паходжанне гравёраў віленскіх выданняў канца XVII ст. [Степовик Д.В. Украинские гравёры-иллюстраторы виленских изданий конца XVII ст.// Федоровские чтения 1982 г. М., 1987.— С.127—140]. Ніякіх дадзеных для падобных высноў у прыродзе не існуе. Першыя медзярыты ў Маскве (і ў Расіі наогул) з'явіліся ў 80-я гг. XVII ст. у выданнях Сімяона Полацкага, надрукаваных у так званай Верхняй друкарні: "Псалтыр рыфмаваная" (1680), "Гісторыя пра Варлаама і Іасафа" (1680) і інш. [Да Сімяона Полацкага толькі адно выданне было ўпрыгожана медзярытамі: "Вучэнне і хітрасць ратнай будовы пяхотных людзей" (1647—1649). Медзярытныя ілюстрацыі да яго выконваліся ў Галандыі (Гусева А.А. Оформление изданий Симеона Полоцкого...// Взаимодействие древнерусской литературы и изобразительного искусства. М., 1985.— С.457—475).] Іх рэзаў Афанасій Трухменскі па малюнках Сімяона Ушакова. Ініцыятарам быў Сімяон Полацкі,

які валодаў малюнкам (у ягоных рукапісах ёсць выявы). Паводле А.Сідарава, яму належыць не толькі ідэя ілюстравання маскоўскіх кніг медзярытамі (Сімяон Полацкі пазнаёміўся з гэтай тэхнікай хутчэй за ўсё ў Вільні), але таксама кампазіцыя медзярытаў [Сидоров А.А. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951.— С.273]. Асобныя ілюстрацыі ствараліся па ўзоры больш ранніх беларускіх. Так, кампазіцыя медзярыту "Варлаам і Іасаф" зроблена паводле аналагічнай ілюстрацыі — дрэварыту з куцеінскага выдання "Гісторыя пра Варлаама і Іасафа" (1673); маскоўскія майстры цалкам запазычылі кампазіцыю, што прызнае і А.Сідараў.

Станковая гравюра таксама прыйшла ў Маскву з Беларусі: першым творам быў "Партрэт рускай царыцы Соф'і", выкананы каля 1689 г. ужо вядомым нам Лявонціем Тарасевічам.

Пасля Сімяона Полацкага медзярыт не атрымаў у Маскве распаўсюджання. Але ў XVIII ст., калі Пётр I пацвердзіў, што "без живописца и градировального (гравіравальнага.— В.Ш.) мастера обойтися невозможно будет..." [цыт. па кн.: Русская гравюра XVI—XIX вв. М., 1950.— С.7], і запрасіў у Расію з-за мяжы адмысловых майстроў, тэхніка металаграфіі зноў пачала прымяняцца ў рускіх выданнях. На Беларусі ж пасля далучэння да Расіі спынілі сваю дзейнасць амаль усе беларускія друкарні, яе развіццё паступова пачало занепадаць. [У гэты перыяд медзярыт прымяняўся ў станковай графіцы, асабліва ў выкананні лубкоў.]

Нашы назіранні дазваляюць вызначыць храналогію і геаграфію развіцця металагравюры ва ўсходнеславянскіх старадруках. У канцы XVI ст. Тамаш Макоўскі ў Нясвіжы выконвае медзярыты да згаданага брандэнбургскага выдання "Падарожжа...", якое выйшла ў 1601 г. Наступным па часе быў нясвіжскі "Панегірык братоў Скарульскіх" (1604). У 1615 г. з'яўляюцца львоўскія выданні з медзярытамі віленскага гравёра Конрада Гётке, а ў 1628 г. убачыла свет ілюстраванае медзярытам першае кіеўскае выданне — "Актоіх", якое ажыццявіў беларускі друкар Спірыдон Собаль; у 1679—

1683 гг. Сімяонам Полацкім надрукаваны першыя маскоўскія выданні з медзярытнымі ілюстрацыямі.

**Коган І.Л.**, *суіскальнік,*
*Беларускі універсітэт культуры*

## СВЯТЫЯ БРАТЫ КІРЫЛ І МЯФОДЗІЙ
(да пытання пра нацыянальную ідэю)

Шматлікія ацэнкі атэістычна настроеных аўтараў ролі св.Кірыла і Мяфодзія ў станаўленні славянскай культуры заўсёды мелі адзін велізарны недахоп, які зводзіў на нішто жаданне атрымаць уласнае ўяўленне пра сувязь місіі гэтых святых са славянскім этнасам. Складанне св.Кірылам для славянскай мовы адметнай азбукі —"глаголіцы" (кірыліцы) — у лепшым выпадку суадносіцца з фарміраваннем на гэтай аснове сучаснай базы многіх славянскіх моўных формаў. Але яшчэ ні адзін аўтар (наколькі нам вядома) не звярнуў сур'ёзнай увагі на тое, з якой мэтай складалася гэтая азбука, а фактычна — славянская моўная форма. Праўдзівей, якая сувязь існуе паміж місіяй св.братоў і найглыбейшымі пластамі нацыянальных і культурна-гістарычных ідэй народаў. Пераклад Бібліі на славянскую мову з'яўляецца толькі знешняй, г.зн. гістарычнай, мэтаю місіянерства св. Кірыла і Мяфодзія. Нас жа цікавіць схаваная за ёй метагістарычная задача, якая рэалізоўвалася ў гісторыі і якая, мяркуючы па ўсім, складае адзін з важнейшых бакоў нацыянальнай ідэі славянскага этнасу, і ў прыватнасці Беларусі.

Св. Кірыл і Мяфодзій, што гаварылі з дзяцінства на славянскай мове, доўга рыхтавалі, а потым ажыццявілі місію хрысціянскай "асветы" многіх славянскіх народаў, такіх як Балгарыя на чале з ахрышчаным царом Барысам, Маравія, Польшча, Чэхія, Кіеўская Русь, Валынь. Выклікана гэтая місія была складаным палітычным становішчам, у якім апынулася

Візантыя ў IX стагоддзі, калі адначасова нарманы (варагі) і славяне (рускія) напалі на Царград (860 г.). Пачаткам місіянерскай дзейнасці грэчаскіх святых была абрана Хазарыя.

Верацярплівыя хазары і асабіста хазарскі каган добразычліва прынялі святых і дазволілі хрысціцца кожнаму, хто пажадае. За час іх знаходжання ў Хазарыі адбыліся шматлікія багаслоўскія спрэчкі з іудзеямі і мусульманамі. Талент пераконвання і прывабнасць рэлігійнага вучэння хрысціянства садзейнічалі звароту да яго не толькі грэкаў альбо хазараў, але і славянаў, што жылі ў суседстве з Хазарыяй. Пасля вяртання ў Канстанцінопаль, уласна, і была праароблена асноўная праца па перакладзе Свяшчэннага Пісання на славянскую мову. Якія ж бачныя прычыны стаялі за такім не зразумелым, на першы погляд, крокам? Спроба знайсці саюзнікаў сярод хазараў, якіх і накіраваліся адукоўваць святыя браты па даручэнні патрыярха Фоція? Але хазары ўжо замацаваліся на поўначы ад Церака, і іх клопаты не пашыраліся на заваёву новых зямель або на палітычную і ваенную дапамогу іншым народам, асабліва Візантыі. Бо вядома, што яўрэйскае насельніцтва Візантыйскай імперыі перасялілася на Каўказ, аб'яднаўшыся з мясцовым народам — хазарамі; значыць, іх інтарэсы наўрад ці маглі палягаць у далёкім і чужым для іх грэка-рымскім напрамку. Наадварот, Хазарыя актыўна ўключылася ў сістэму міжнароднага гандлю, перавозячы з Кітая на Захад караваны з шоўкам. Мяняць жа камфортнае існаванне, якое ім забяспечваў мірны гандаль, на неспакойнае, поўнае страт і смерцяў (у выпадку вайны) жыццё было б вяршыняй безразважнасці.

Сярод магчымых прычын такой "камандзіроўкі" святых Кірыла і Мяфодзія ў Хазарыю ў дні іншаземнай аблогі называлі адну, больш ці менш праўдападобную з рэлігійнага пункту гледжання, хаця надта спрэчную з пункту гледжання свецкага. Выратаванне хрысціянскай веры — вось такой магла б быць сапраўдная прычына, якая кіравала свядомасцю візантыйскага патрыярха, што назіраў наўкол смерць і разбурэнне хрысціянскай цытадэлі. Аднак нам вядома, што вельмі рэдка

свядомая прычына ўчынку, што выклікала тую ці іншую значную гістарычную падзею, з'яўляецца таксама і метагістарычнай прычынай. Што б ні кіравала свядомасцю, напрыклад, князя Уладзіміра, які хрысціў Кіеўскую Русь, само метагістарычнае значэнне гэтага грандыёзнага акта ў наяўнасці. Чым бы ні кіраваўся Сталін у вайне супраць Гітлера, якія б фантасмагорыі ні наведвалі яго розум і душу, ён аказаўся ўдзельнікам і выразнікам метагістарычных сіл, скіраваных на выратаванне расійскага народа ад нацысцкага рабства. Так і ў нашым выпадку. Патрыярх Фоцій, пры ўсёй сваёй адукаванасці і гарачай веры, не мог бачыць усіх перспектыў славянскага схілення да хрысціянскай веры. Балгарыя, якая з велізарным энтузіязмам прыняла праваслаўе, апынулася пад уладай лацінянаў і каталіцкага абраду; спробы схіліць іншыя славянскія народы таксама скончыліся няўдачай, і хаця многія простыя людзі паспелі паверыць у праваслаўе, напрыклад у Маравіі, Чэхіі або Польшчы, пазней панскія легаты ўвялі ў гэтых краінах каталіцызм на лацінскай мове. Так што ж, усе намаганні св.братоў аказаліся дарэмнымі, а смерці іх вучняў і шматлікія ахвяры з боку іх паслядоўнікаў нічога не вартымі? Няўжо ўся значнасць іх місіі зводзілася толькі да станаўлення славянскіх моў?

Але і ў дадзеным выпадку, беручы пад увагу магчымую прычыну неабходнасці выратавання хрысціянскай веры, застаецца незразумелай адна дзіўная акалічнасць. Справа ў тым, што за некалькі стагоддзяў панавання хрысціянства на шматлікіх памесных і ўсяленскіх саборах былі выпрацаваны правілы і статуты багаслужбы. Іх парушэнні былі звязаны з небяспекай адлучэння ад царквы або аддання анафеме такога парушальніка царкоўных законаў. Сярод такіх непарушных правілаў было ўстанаўленне праводзіць багаслужбы на грэчаскай або лацінскай мове. Толькі з вышэйшага дазволу можна было адважыцца на падобны крок па правядзенні багаслужбаў на роднай мове мясцовых народаў, а акрамя таго, такі аб'ём працы па перакладзе Свяшчэннага Пісання і богаслужбовых кніг быў

сапраўды вялікі; але ж тады падрабязнае апісанне ўсяго гадавога цыкла багаслужбаў і ўсе кананічныя кнігі на грэчаскай і лацінскай мовах ужо даўно былі ва ўжытку свяшчэннаслужыцеляў усяго хрысціянскага свету. Праўда, вышэйшы дазвол быў атрыманы: канстанцінопальскі патрыярх Фоцій і рымскі папа Адрыян ІІ не толькі ўхвалілі гэтае пачынанне па асвеце славянскіх народаў, але і ўсяляк спрыялі яго поспеху. Аднак асмеліцца на тое, каб увесці багаслужбу ў славянскіх краінах на роднай мове мясцовага насельніцтва, было занадта буйной задачай, увесь цяжар і маштаб якой наўрад ці ўсведамлялі нават непасрэдныя выканаўцы свяшчэннай місіі — Кірыл і Мяфодзій.

Пасля таго як большасць адукаваных народаў апынулася пад уладай папскіх легатаў, якія замянілі багаслужбу на славянскай мове абрадам на лацінскай мове, надзей на захаванне царкоўных службаў па-славянску амаль не засталося. І калі б не Кіеўская Русь і Валынь, якія ўспрынялі грэчаскі ўплыў, дык місію Кірыла і Мяфодзія спасцігла б поўная няўдача. Зярняты, пасеяныя святымі братамі ў ІХ стагоддзі, узышлі праз сто гадоў, калі кн. Уладзімір прыняў візантыйскі абрад і хрысціў Русь.

Ідэя стварэння адзінага культурнага славянскага свету пасля Кірыла і Мяфодзія аказалася разбуранай у самым пачатку сваёй рэалізацыі. Так, прынамсі, характарызуе становішча спраў місіянерскай дзейнасці двух братоў энцыклапедычны слоўнік "Хрысціянства". Аднак ці так на самой справе? Ці ўсе бакі гэтай гістарычнай сітуацыі былі прынятыя пад увагу? Таму што, калі зыходзіць з логікі таго, што місія Кірылы і Мяфодзія заключалася, галоўным чынам, у стварэнні ўмоў для яднання і развіцця адзінага культурнага славянскага свету, дык, з аднаго боку, гэтую частку сваёй задачы святыя браты выканалі, а з другога — поспех данай гістарычнай справы так і не быў дасягнуты.

Падобная супярэчнасць (паміж рэальнай мэтай візантыйскіх місіянераў і яе сапраўдным ажыццяўленнем) заключаецца, перш за ўсё, у няпоўным бачанні ўсіх магчымых

вынікаў і сапраўдных звышлагічных (метагістарычных) прычын іх дзейнасці. Паспрабуем разабрацца ў сутнасці праблемы і разгледзець максімум магчымых гістарычных тэндэнцый, якія паўсталі ці маглі б паўстаць у выніку адукацыі Кірылам і Мяфодзіем славянскіх народаў.

Усвядомленая мэта, якая кіравала дзеяннямі патрыярха Візантыі Фоція і яго вестунамі, заключалася ў рэлігійнай асвеце "язычніцкіх" народаў, якімі былі славяне з іх грознымі бажаствамі Перуном, Дажбогам і іншымі. Асабліва страшным быў Пярун, якому прыносіліся чалавечыя ахвяры. Як мы памятаем, у час акта хрышчэння Русі кн.Уладзімірам быў знішчаны культ усіх язычніцкіх багоў, ідал жа Перуна прывязалі да хваста каня і ўтапілі ў рацэ. Так пахавалі на толькі язычніцкіх багоў, але і язычніцкую культуру.

Рэлігійная асвета і хрышчэнне, г.зн. схіленне да сваёй веры народаў, з'яўлялася адным з важнейшых відаў служэння хрысціянскай царквы Богу на працягу ўсяго перыяду яе існавання, бо сам Хрыстос запавядаў Сваім вучням ісці і прапаведаваць Слова Божае. Паводле летапіснага падання, яшчэ апостал Андрэй Першазваны наведаў поўдзень Расіі — калі ўзняўся ўверх па Дняпры да той гары, на якой ён устанавіў Крыж. У далейшым на гэтай гары ўзнік Кіеў, якому апостал прадказаў вялікую будучыню. Таму сам факт місіянерскай дзейнасці свяшчэннаслужыцеляў не з'яўляецца нечым неардынарным; наадварот, толькі ў такім падзвіжніцкім жыцці маглі выявіць сваю любоў да Бога сапраўдныя святыя і праведнікі. Але пытанне аб рэальнай мэце канкрэтнага місіянерскага паходу Кірыла і Мяфодзія да хазараў, а потым у Маравію, Балгарыю і Чэхію зусім справядліва ставіцца ў сувязь з тым, што палітычная і рэлігійна-культурная сітуацыя склалася на той момант занадта неспрыяльна для візантыйскага праваслаўя.

На Усходзе разрастаўся і разліваўся праз край мусульманскі суперэтнас. Арабы пастаянна ўяўлялі ваенную пагрозу для Канстанцінопаля, і хаця сам "вялікі горад" выстаяў, аднак

шматлікія бедствы ісламскага "разліву" былі спрычынены ўсяму хрысціянскаму свету. Тры з чатырох патрыярхатаў апынуліся пад уладай арабскіх правіцеляў; Антыёхія, Дамаск, Іерусалім і Александрыя, гэтыя гістарычныя культурныя цэнтры старажытнасці, сталі абарачацца ў арбіце ісламскай культуры, а Карфаген быў поўнасцю разбураны (698 г.). Экспансія арабаў у Еўропу спынілася толькі дзякуючы каралю франкаў Карлу ў 732 г., хаця частка Іспаніі была занятая арабскімі заваёўнікамі.

Да 800 г. усталявалася велізарная новая магутная імперыя Карла Вялікага — Свяшчэнная Рымская імперыя германскай нацыі. Эпоха перасялення народаў завяршылася гэтым магутным утварэннем, а ў свядомасці Карла Вялікага і яго паплечнікаў малявалася карціна аднаўлення Старажытнага Рыма. Прыблізна ў гэты ж перыяд вызначыліся і вылучыліся асноўныя славянскія плямёны і народы, якія засялілі вялізную тэрыторыю: ад Віслы да Візантыі. Такім чынам, да пачатку дзевятага стагоддзя склаліся тры велізарныя імперыі з ужо вызначанымі культурнымі рысамі і ўсталяванымі дзяржаўнымі і сацыяльнымі формамі кіравання. Толькі славянскія плямёны былі раз'яднаным мноствам дробных народаў, з няпэўнымі культурнымі формамі і язычніцкай рэлігіяй, якая ў вачах народаў, што вызнавалі хрысціянства і іслам — вышэйшыя сусветныя рэлігіі,— з'яўляліся адсталымі і патрабуючымі рэлігійнай асветы.

Таму сітуацыя на самой справе з'яўлялася дастаткова выразнай і пэўнай з этнічнага пункту гледжання (які амаль ніколі не ўсведамляецца, выяўляючыся адно ў культурных і рэлігійных уяўленнях і стэрэатыпах паводзін народа). Арабская экспансія прыпала на VII—IX стагоддзі, пік яе быў у канцы VII—пачатку VIII стагоддзяў, г.зн. сіла мусульманскага "разліву" пачала спадаць і амаль што звялася на нішто да таго моманту, калі Кірыл і Мяфодзій выправіліся ў Хазарыю. Арабы, зусім натуральна, кінуліся заваёўваць моцную і культурна развітую Візантыйскую імперыю, таму што выбух этнагенезу штурхае зноў узніклы этнас на заваёвы найбольш прываблівых і развітых формаў культуры і рэлігіі. Да моманту пропаведзі Мухамеда,

г.зн. у першай палове VII стагоддзя, славянская еднасць толькі яшчэ займалася рассяленнем на вялікіх прасторах — ад Балтыкі да Чорнага мора, і ні пра якую развітую яе культуру не магло быць і гаворкі. Канечне ж, такая здабыча, у параўнанні з бліскучай культурай Візантыі, была занадта непрывабнай для агрэсіўнага арабскага суперэтнасу.

Імперыя Карла Вялікага апынулася на самым пачатку свайго станаўлення, і першыя дзесяцігоддзі — больш за сто з лішкам гадоў — у яе пайшлі на ўнутраную барацьбу за культурную і рэлігійную дамінацыю, на падпарадкаванне яшчэ не далучаных народаў Еўропы, фарміраванне ўласных культурных формаў і стэрэатыпаў паводзін. Таму і гэтая магутная, што набірала сілу, Рымская імперыя германцаў не магла яшчэ скласці канкурэнцыі сталай візантыйскай культуры і яе адукаваным падданым у пашырэнні хрысціянства па свеце.

Такім чынам, мы бачым: гістарычна склалася так, што толькі адна з трох сусветных дзяржаў таго часу ў стане была несці на сваіх плячах цяжар распаўсюджвання і абвяшчэння Слова Божага. Толькі Візантыя змагла сканцэнтраваць і накіраваць вонкі наймацнейшы імпульс да развіцця не адсталых, а ўсяго толькі фарміруючыхся народаў, якімі былі славянскія плямёны. Без гэтага ўнутранага імпульсу, што зыходзіў з самых глыбінь візантыйскага суперэтнасу, без людзей, якія сваёй адданасцю веры і Богу здолелі данесці, не расплёскаўшы, святы кубак хрысціянскай таямніцы да свядомасці і сэрца людзей іншых культур — без гэтага вялікая, цудоўная і велічная культура Візантыі магла б загінуць (і загінула, дарэчы) ад рук іншаземцаў, якім не патрэбны былі яе культурныя дасягненні. Заваёвы амаль заўсёды тояць у сабе выкараненне або паглынанне тых культурных формаў, якіх прытрымліваюцца паняволеныя народы, і ў выпадку з Візантыяй адбылося менавіта так. На шчасце, іерархі Візантыйскай імперыі пачулі ўнутраны голас сваёй культуры, волю яе духоўнай сутнасці; яны адчулі момант, які прыйшоў дзеля перадачы духоўнага багацця, схаванага за рэлігійным абрадам або дагматычнымі ўстанаўленнямі царк-

вы — бо праз іх прасвечвала незямное святло вышэйшага, горняга свету.

Не выпадкова тое, што славянская мова ў той форме, у якой паўстала пасля карпатлівай працы святых братоў Кірыла і Мяфодзія па яе стварэнні і ўдасканаленні, увабрала ў сябе не што іншае, як Біблію — Свяшчэннае Пісанне хрысціянскага свету, які верыў у Багашчырасць. Сам факт таго, што зноў створаная мова з'явілася з канкрэтнай мэтай, якую ёй надалі яе стваральнікі, гаворыць пра тое, што і культура, якая вырасла на аснове гэтай мовы, мае ўласныя, унікальныя гістарычныя і метагістарычныя мэты. Калі звярнуць увагу на гісторыю фарміравання першых моўных сем'яў, дык стане зразумелым феномен славянскай мовы. Яна не проста ўвабрала ў сябе тыя альбо іншыя культурна-гістарычныя формы, г.зн. яна не проста ўспрыняла пераемнасць моўных ці культурных формаў, славянская мова сталася формай, у якую змясцілі ў якасці асновы Боскае Адкрыццё. Мы больш не ведаем другіх гістарычных прыкладаў, якія б паказвалі нагэтулькі выразную сімвалічную прыроду нашай мовы, уласна, гэтак жа, як і культуры. Распрацаваныя на грэчаскай альбо лацінскай мове рэлігійныя паняцці і культурныя формы, у якіх светаўспрыманне грэкаў або лацінянаў адбілася ва ўсёй яго паўнаце, паслужылі асновай не простага пераймання славянамі гэтых паняццяў, а сталіся глебай, на якой славянская культура пачала свой рост. Канечне, нельга не бачыць тут і адваротнага боку славянскай мовы — гэта яе штучнасці, хоць і арганічна ўвабранай і перапрацаванай многімі пакаленнямі славян, якія неслі ў сваім сэрцы і перажывалі ў сваім жыцці новую культурную традыцыю.

Вось менавіта гэтая мэта стварэння славянскай мовы, якая дала пачатак новай славянскай культуры, можа служыць арыенцірам для спробы зразумець першапачатковыя, схаваныя за гістарычнымі феноменамі, прычыну і сэнс вялікай місіі святых Кірыла і Мяфодзія. Фактычна яны выканалі ўскладзеную на іх задачу духоўнага і культурнага шэфства над славянскім этнасам; прычым задача гэтая не столькі зыходзіла ад патрыярха, які іх

праслаў, колькі вырастала з гістарычных падзей таго часу, што складваліся ў сферы рэлігіі і культуры ў цэлым. Часцяком толькі так званая "аб'ектыўная неабходнасць" выражае сабою сапраўдны паказ духу таго ці іншага этнасу і найбольш агульны аналіз гістарычнай сітуацыі, гістарычных тэндэнцый, якія складваліся на пэўны часавы момант, дазваляе акінуць вокам маштаб гістарычнай задачы этнасу і ўгледзець яе сапраўдны сэнс. Таму, калі мы гаворым пра тое, што галоўнай заслугай святых братоў з'яўляецца стварэнне "кірыліцы", славянскай азбукі, дык належыць зразумець, што гэта — усяго толькі знешняя абалонка больш глыбокай мэты, якая высвечвае на паверхні свядомасці толькі пры больш глыбокім, часам нават інтуітыўным, разуменні той ці іншай з'явы. Біблія, перакладзеная на славянскую мову, зрабілася першай кнігай славянскай пісьменнасці; яе можна і трэба разглядаць у якасці аб'екта рэальнай мэты Кірылы і Мяфодзія. Менавіта Боскае Адкрыццё, змешчанае ў новыя моўныя формы ў якасці падмурка будучай славянскай культуры, вызначае гістарычную мэту ўсяго славянскага этнасу. І хаця славянскі этнас раскалоўся — адна яго частка адышла да каталіцкага Захаду, а другая да праваслаўнага Усходу — у гэтым трэба бачыць не адмоўнае, а станоўчае наступства ўзаемадзеяння Усходу і Захаду як вялізных культурных масіваў. Бо толькі ў выніку такога размеркавання роляў стала магчыма ператварыць славянскі этнас у духоўны саган, у якім выпякаюцца новыя і новыя формы ўзаемадзеяння і супрацоўніцтва Усходу і Захаду. Таму заслуга святых Кірыла і Мяфодзія заключаецца таксама і ў тым, што іх пропаведзь хрысціянства закранула ўсю славянскую цэласнасць, вызначыўшы на стагоддзі братэрскія духоўныя дачыненні славянскіх народаў, якія ўяўляюць вялікія культурныя прасторы Еўразіі.

**Пракапцова В.П.,** *прафесар, Беларускі універсітэт культуры*

# МАСТАЦКАЯ АДУКАЦЫЯ І ДЗЕЙНАСЦЬ АСВЕТНІКАЎ БЕЛАРУСІ Ў ДРУГОЙ ПАЛОВЕ XVII—XVIII стст.

У другой палове XVII—XVIII стст. мастацкая адукацыя і выхаванне (а сюды адносяцца музычная, тэатральная адукацыя і навучанне ў галіне выяўленчага мастацтва) працягвалі развівацца ў двух накірунках: культавым і свецкім.

Навучанне ва ўстановах, якія фарміраваліся на аснове дзейнасці арганізацый розных канфесій, мела дыдактычны, функцыянальна накіраваны характар. Яно ажыццяўлялася ў музычных бурсах, заснаваных каталіцкай царквой, брацкіх школах, якія ствараліся праваслаўнымі ўстановамі, а таксама езуіцкіх калегіумах.

Да свецкага накірунку адносіліся мастацкія адукацыйныя ўстановы, якія адкрываліся намаганнямі беларускіх магнатаў для забеспячэння дзейнасці прыватнаўласніцкіх тэатраў, для пабудовы і мастацкага аздаблення маёнткавых будынкаў, храмаў, развіцця мануфактур і інш.

Распаўсюджванне асветніцтва абумовіла прыярытэт асветы, грамадства і дзяржавы. Для пашырэння ідэй асветніцтва шмат зрабіла Адукацыйная камісія — ўстанова па кіраўніцтве народнай асветай у Рэчы Паспалітай, якая была заснавана ў 1773—1775 гг. Гэта было першае ў Еўропе міністэрства асветы.

Выразнікамі асветніцкай думкі на Беларусі сталі К.Лышчынскі, С.Полацкі, І.Капіевіч, Г.Канінскі і інш. Цэнтральнае месца сярод іх належыць Сімяону Полацкаму (1629—1680) — беларускаму і рускаму пісьменніку, філосафу-асветніку, педагогу, грамадскаму і царкоўнаму дзеячу. Першапачатковую адукацыю ён атрымаў у Полацку, а затым вучыўся ў Кіева-Магілянскай калегіі, дзе сярод іншых прадметаў выкладаліся рыторыка, паэтыка, музыка, а таксама ў Віленскай

езуіцкай акадэміі. У паэтычным апісанні гуманітарнага “трывіума” (граматыка, дыялектыка, рыторыка) і “квадрывіума” (арыфметыка, геаметрыя, астраномія, музыка) у вершы “Сем вызваленых навук” Сімяон Полацкі дае тлумачэнне сэнсу кожнай з навук і, у прыватнасці, лічыць, што “музыка далучала да гармоніі і навучала “сімфоніі”— узгадненню гукаў, слоў і музычных ладоў” [Мысліцелі і асветнікі Беларусі. X—XIX стагоддзі: Энцыклапедычны даведнік /Гал. рэд. Б.І.Сачанка. Мн., 1995.— С. 297].

У шматжанравай літаратурнай спадчыне С.Полацкага ёсць нямала твораў, дзе разглядаюцца ідэйна-філасофскія і эстэтычныя праблемы літаратуры, музыкі, жывапісу. Ён красамоўна абгрунтаваў думку пра духоўна-эстэтычную каштоўнасць музыкі, даказаў неабходнасць для царквы шматгалосных спеваў і “согласия органного”, г. зн. гармоніі галасоў: “Яко царский вертоград многовидными украшается цветы, тако и невеста Христова, церковь, различными чтениями и пеюми благолепствуется” [Там жа.— С.305].

Віды мастацтва ён падзяляў на “механічныя” і духоўнай творчасці (паэзія, музыка, іканапіс). Разам з расійскім жывапісцам С.Ушаковым у трактаце “Слова да шчырага іконнага пісання” С.Полацкі прапанаваў першую ва ўсходнеславянскім рэгіёне класіфікацыю выяўленчага мастацтва, узвысіўшы жывапіс да “сямі вольных мастацтваў” і нават на ўзровень вядучага —“началодержательного”— віду мастацкай творчасці. Ён бачыў прыгажосць мастацтваў у іх выхаваўчай “карысці”— няма жывапісу, музыкі, разьбярства і дойлідства без гармоніі, прапорцыі і рытму. “Праз прыгажосць музыкі і слова незадаволеныя становяцца цярплівымі, гультаяватыя — працавітымі, гняўліўцы — лагоднымі, неразумныя — мудрымі, блудлівыя — чыстымі сэрцам”.

З вялікай павагай да адукацыі і асветы ставіўся Тадэвуш Касцюшка (1745—1817), які сам некаторы час (1775 г.) працаваў хатнім настаўнікам малявання і жывапісу. У канцы свайго жыцця ён сустракаўся з выдатным педагогам-дэмакратам

Іаганам Песталоцці. Як Песталоцці, Касцюшка лічыў, што паляпшэнне жыцця можа быць дасягнута шляхам адукацыі і выхавання, рэкамендаваў адкрыць спецыяльныя вучылішчы, дзе можна было б навучыцца розным рамёствам.

Вядомым навукоўцам і педагогам у XVII ст. быў Сігізмунд Лаўксмін (1596—1670). Ён вывучаў рыторыку ў Полацку, потым скончыў Віленскі універсітэт. У сваёй разнастайнай дзейнасці шмат увагі ўдзяляў тэатральнай і музычнай адукацыі. Ён выкладаў рыторыку ў Полацку (1629—1631), паэтыку ў Нясвіжы (1631—1635), а таксама філасофію, тэалогію і кананічнае права ў Вільні, Бранёве, Полацку, Пінску. Быў рэктарам Полацкага калегіума. Займаўся філасофіяй, музычнай і літаратурнай дзейнасцю. С.Лаўксмін стаў аўтарам першых айчынных падручнікаў па грэчаскай мове, музыцы і рыторыцы. Яго праца "Практычнае красамоўства, або Правілы рытарычнага мастацтва..." выкарыстоўвалася ў XVII—XVIII стст. як падручнік і выдавалася два разы ў Рэчы Паспалітай і адзінаццаць разоў у гарадах Заходняй Еўропы.

У часы ранняга Асветніцтва (40—60-я гады XVIII ст.) працягвае функцыянаваць школьны тэатр, перыяд найбольш інтэнсіўнага развіцця якога прыпадае на эпоху барока. Працавалі дзевяць езуіцкіх школьных тэатраў: у Бабруйску (1760—1768), Брэсце (да 1760), Віцебску (да 1766), Гродне (да 1754), Навагрудку (да 1761), Нясвіжы (да 1758), Пінску (да 1764), Полацку (да 1819), Слоніме (1744—1769).

У школьным тэатры існавала строгая нарматыўная школа-тэорыя выканальніцкага мастацтва. Тэатральнае выхаванне атрымала ў спадчыну прамоўніцкае мастацтва, правілы якога выкладаліся ў "рыторыках". М.К.Сарбеўскі ў "Паэтыцы" адзначае адметнасць ігры акцёраў, выканальніцкага майстэрства, у цэлым усіх сродкаў выразнасці спектакля: "Трагедыя патрабуе дзеяння свабоднага, строгага, моцнага, асабліва ў апошніх актах — 4-м і 5-м...",— падкрэсліваючы, што прадстаўленне павінна "ўзнаўляць дзеянні не толькі словамі і мовай, але і жэстам, інтанацыяй, рухамі на сцэне, выяўленнем настрояў,

нарэшце, пры дапамозе музыкі, машын і абстаноўкі... гэта ж тычыцца і асвятлення, пры якім даецца спектакль" [Гісторыя беларускага тэатра: У 3-х т.; Рэд. кал.: У.І.Няфёд.— Т.1 /Рэд. Г.І.Барышаў, А.В.Сабалеўскі (гал.рэд.) і інш. Мн., 1983.— С.147].

Падрыхтоўка кадраў як у галіне драматычнага, так і ў галіне музычнага мастацтва для школьнага тэатра вялася мэтанакіравана, была функцыянальна вызначана. Існаванне школьнага тэатра як цэльнага асветніцка-выхаваўчага цэнтра, у якім сінтэтычна фарміраваліся драматычныя, музычныя, дэкаратыўна-мастацкія прынцыпы стварэння спектакля, пэўныя сродкі выразнасці і тэатральная стылістыка, абумовіла і падрыхтоўку пэўных творчых кадраў. Прафесійнае выхаванне праводзілася непасрэдна ў школьных тэатрах. Вучоба і практычная дзейнасць развівалася непарыўна як шматгранны працэс адзінай з'явы.

У XVIII ст. на Беларусі сталі арганізоўвацца першыя спецыяльныя мастацкія адукацыйныя ўстановы свецкага накірунку. Функцыянаванне музычных, тэатральных, балетных школ было абумоўлена дзейнасцю прыгонных маёнткавых тэатраў і неабходнасцю падрыхтоўкі кадраў для іх. Падставы для шырокага распаўсюджвання спецыяльных навучальных устаноў былі вельмі грунтоўныя, бо на Беларусі да падзелу Рэчы Паспалітай існавалі 26 оперна-балетных тэатраў і каля 30 сімфанічных капэл.

Сярод твораў, якія выконваліся гэтымі калектывамі, гучалі сачыненні многіх выдатных заходнееўрапейскіх кампазітараў. Слонім стаў месцам, дзе адбылася адна з першых прэм'ер араторыі І.Гайдна "Стварэнне свету", напісаць якую аўтара натхніў Міхал Казімір Агінскі.

Прадстаўнік старажытнага магнацкага роду М.К.Агінскі (1730—1800) займаўся вялікай асветніцка-мецэнацкай дзейнасцю. Сам быў таленавітым чалавекам: пісаў вершы, аповесці, маляваў, сачыняў музычныя творы, іграў на кларнеце, скрыпцы, арфе і клавікордах. Пры сваім двары ў Слоніме

стварыў у 1765 г. вядомыя капэлу, оперны тэатр, дзе і выконваліся яго оперы “Зменены філосаф” (1771), “Елісейскія палі” (1788), “Сілы свету”, “Становішча саслоўяў” (1784).

Вялікая тэатральна-канцэртная зала, дзе праходзілі канцэрты славутай капэлы М.К.Агінскага і якая па сваім узроўні не саступала ўзорнай Еўрапейскай мангеймскай капэле, “плавальны тэатр”, які перамяшчаўся па канале і рацэ Шчары, патрабавалі шмат музыкантаў, вакалістаў, артыстаў балета, мастакоў-дэкаратараў, бутафораў і іншых прадстаўнікоў тэатральных прафесій. Усе канцэртна-тэатральныя паказы абслугоўваліся слонімскімі артыстамі, музыкантамі і мастакамі.

Для гэтага існавалі спецыяльныя музычная і балетная школы, пэўная сістэма падрыхтоўкі мастакоў. Музычная школа пачала дзейнічаць раней 1779 г. і спыніла сваё існаванне ў 1793 г. У школе выкладаў “мэтр ігры на клавікордзе” Д.Грабенбаўэр.

У 1777 г. М.К.Агінскім была адкрыта школа “Дэпартамент балетных дзяцей”, якая праіснавала да 1792 г. Узначаліў гэтую ўстанову Ноак.

Пры Слонімскім тэатры вялася і падрыхтоўка мастакоў-дэкаратараў. Праектаваннем і будаўніцтвам тэатра займаўся італьянскі дойлід і тэатральны мастак Іначэнца Мараіна, які быў запрошаны на месца дэкаратара Штрубла. На слонімскай сцэне таксама працавалі К.Атасельскі, Ян Рустэм — будучы прафесар жывапісу Віленскага універсітэта, якія, верагодна, і падрыхтоўвалі прыгонных дэкаратараў Міхала з падручным Мікалаем, які, у сваю чаргу, меў “вучня-малярчука” Янака.

Некаторыя тэатральныя, музычныя і балетныя школы фарміраваліся вакол тэатральна-музычных устаноў у радзівілаўскіх маёнтках. У Нясвіжы ў 1748 г. з’явілася стацыянарнае тэатральнае памяшканне на тэрыторыі Беларусі, якое змяшчала да 1000 чалавек. Для падрыхтоўкі прыгонных “балетнікаў” і “балетніц” пры Нясвіжскім тэатры Міхаілам Казімірам Радзівілам Рыбанькай была створана балетная школа (1758—1790(?). Дзейнасць капэлы і тэатра забяспечвалася функцыяніраваннем

музычнай школы (1751—1809). У 1760—1780-я гг. існавала і спецыяльная тэатральная школа.

У гэтых школах выкладалі танцоры, музыканты-інструменталісты, вакалісты, дырыжоры, кампазітары з па-еўрапейску вядомымі імёнамі. Першым кіраўніком балетнай школы стаў П.М.Дзюпрэ — танцор, які з'яўляўся адным з заснавальнікаў мужчынскага класічнага танца. Польскі кампазітар нямецкага паходжання Ян Давід Голанд (1746—пасля 1825), які потым выкладаў тэорыю музыкі ў Віленскім універсітэце, у Нясвіжы выкладаў фартэпіяна і напісаў сімфоніі, серэнады, паланезы, дывертысменты, кантату, а таксама вядомую аперэту "Агатка" і оперу "Войт Альбанскага паселішча" на лібрэта М.Радзівіла. Прэм'еры іх адбыліся ў Нясвіжскім тэатры. Чэшскі піяніст, арганіст і кампазітар Ян Дусік (1760—1812), які ўдасканальваў майстэрства ігры на фартэпіяна ў К.Ф.Э.Баха, таксама выкладаў у Нясвіжскай музычнай школе. Італьянскі кампазітар Джаакіна Альберціні (1751—1811) узначальваў капэлу Радзівілаў, дырыжыраваў аперэтай Я.Голанда "Агатка" (1784).

Шырокую вядомасць таксама набылі спецыяльныя музычная і балетная школы ў Шклове (пры тэатры С.Зорыча), тэатральная і музычная школы ў Гродне. Асновай для фарміравання апошніх стала капэла А.Тызенгаўза — аркестравы калектыў, які належаў да найбольшых і найлепшых па прафесійным узроўні калектываў падобнага тыпу ў ВКЛ, славіўся ў Еўропе, параўноўваўся са знакамітай Еўрапейскай мангеймскай капэлай.

У буйнейшых гарадах Беларусі існавалі цэхі жывапісцаў, дзе "маляры" не толькі аб'ядноўваліся па прафесійным прынцыпе, выконвалі пэўныя заказы, але і выхоўвалі вучняў, перадавалі ім сваё майстэрства. Цэхі жывапісцаў існавалі ў Віцебску і Магілёве, Мінску і Гродне. Творчыя майстэрні дзейнічалі і пры манастырах, як, напрыклад, пры Куцеінскім ля Оршы. Жывапісныя цэхі мелі трохступеньчатую сістэму: майстар-чаляднік (маляр, таварыш) і вучань (хлопец). У

жывапісных і іншых цэхах (разьбяроў, сталяроў, майстроў залатых і срэбных спраў) былі свае харугвы, казна і інш. Увогуле, па сведчанні Н.Высоцкай, у XVII ст. у Беларусі працавалі 48 жывапісцаў, 137 скульптараў, 665 залатых спраў майстроў.

У галіне манументальнага жывапісу цікавымі з'яўляюцца звесткі аб існаванні ў XVII ст. школы выяўленчага мастацтва пры Жыровіцкім манастыры. У ёй навучалі разьбе па дрэве, іканапісу, размалёўцы храмаў і інш. Кіраўніком школы быў Міхаіл Клімовіч. Вядомыя і некаторыя з яго вучняў — Іван, Міхаіл, Баян, Георгій. Таксама ў гэтай школе працаваў жыровіцкі майстар, які ў 1750 г. напісаў абраз "Цуд Юр'я".

Шырокі "імянны спектр" жывапісцаў XVII ст. дае падставу вызначыць пэўныя мастацкія цэнтры Беларусі, што, у сваю чаргу, вызначае іх цэхавыя маральныя аб'яднанні, дзе пастаянна праводзілася падрыхтоўка мастакоў.

Сярод іншых даследчыкамі выдзяляецца Магілёўскі цэх, дзе найбольш выразна назіраецца пераемнасць творчых традыцый, фарміраванне некалькіх пакаленняў мастакоў.

Асновы гравёрнай школы Магілёва былі закладзены Максімам Вашчанкам, выхаванцам Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе ён атрымаў ступень бакалаўра філасофіі і вольных мастацтваў (1672), званне магістра навук (1673). Майстар паходзіў са старажытнага магілёўскага мяшчанскага роду. Мастацкая спадчына Вашчанкі вельмі значная: 19 ілюстрацый да кнігі "Манархія турэцкая" (Слуцк, 1678), каля 36 — да кнігі "Акафісты і каноны" (Магілёў, 1693). Можна меркаваць, што ён выхаваў шэраг вучняў, бо традыцыі Максіма Вашчанкі працягваў яго сын Васіль — самабытны гравёр магілёўскай школы, друкар, ксілограф. Да магілёўскай гравёрнай школы таксама належыць Фёдар Ангілейка (канец XVII—пачатак XVIII ст.), аўтар вядомых гравюр у кнігах "Ирмолой, сиречь Осмогласник"— 1700 г., "Часослов, сиречь Последование службы"— 1703 г., якія былі выдадзены ў друкарні М.Вашчанкі), Афанасій Пігарэвіч, майстры Сямён, Мікіта

Антушкевіч, Міхась Чарняўскі, Ян Стральбіцкі. Творча-метадычныя традыцыі магілёўскай школы гравіравання ў значнай ступені абапіраліся на мясцовыя традыцыі выяўленчага мастацтва і "артыстычнага" рамяства.

Своеасаблівымі метадычнымі дапаможнікамі пры жывапісным аздабленні храмаў, напісанні ікон, падрыхтоўцы кардонаў для габеленаў сталі графічныя друкаваныя выданні, так званыя "кажбушкі". Кажбушкі сталі асноўнымі дапаможнікамі для малявання і ў разьбярстве. Гравюры беларускіх, украінскіх, заходнееўрапейскіх старадрукаваных кніжак выкарыстоўваліся ў якасці ўзораў для мастацкага афармлення арганаў, інтэр'ераў касцёлаў, дэкаратыўнага аздаблення ікон і г.д. Для стварэння аб'ёмнай дэкаратыўнай разьбы выкарыстоўваўся вялікі набор інструментаў. Напрыклад, у інвентары Нясвіжа 1779 г. упамянуты 32 назвы і 100 відаў цяслярных інструментаў.

У канцы XVII—пачатку XVIII ст. вядомымі становяцца ткацкія мануфактуры па вырабе шпалер, ворсавых дываноў, якія адкрыліся ў Слуцку, Нясвіжы, Альбе, Міры, Карэлічах, Гродне, Слоніме, Ружанах, Дуброўне і інш. Першапачаткова на "тапісярнях" працавалі запрошаныя французскія, бельгійскія і іншыя замежныя майстры, якія рыхтавалі мясцовых ткачоў і ткачых, навучалі іх новым тэхнікам.

У XVIII ст. вядомымі былі і "персіярні"— майстэрні па вырабе шаўковых і "літых" паясоў у Слуцку, Гродне, Альбе пад Нясвіжам. Спачатку паясы ткалі на ўзор персідскіх матываў (адкуль пайшла і назва майстэрань). Спецыяльная падрыхтоўка мясцовых майстроў абумовіла выкарыстанне беларускіх матываў як асновы арнаменту.

Такім чынам, мастацкая адукацыя ў другой палове XVII—XVIII стст. развівалася ў адзіным рэчышчы з асветніцкімі мэтамі. Культавыя і свецкія навучальныя ўстановы забяспечвалі падрыхтоўку кадраў музыкантаў-інструменталістаў, вакалістаў, артыстаў балета і драмы, а таксама выхоўвалі мастакоў, дэкаратараў, гравёраў, ткачоў, з ліку якіх фарміраваліся творчыя

мастацкія школы. На Беларусі дзейнічалі асветнікі і выкладчыкі з па-еўрапейску вядомымі імёнамі, якія і далі сваім вучням глыбокія спецыяльныя веды і навыкі, забяспечылі іх прафесійнае прызнанне ў будучым.

**Грыцкевіч А.П.**, *прафесар,*
*Беларускі універсітэт культуры*

## УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ Ў XVII СТАГОДДЗІ І ЯЕ ДЗЕЙНАСЦЬ У ГАЛІНЕ КУЛЬТУРЫ

У пачатку XVII стагоддзя уніяцкая царква мела адміністрацыйна-тэрытарыяльную структуру, якую захавала ад праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай пасля Брэсцкай царкоўнай уніі. На чале уніяцкай царквы стаяў мітрапаліт Кіеўскі, Галіцкі і ўсяе Русі, якому падпарадкоўваліся епіскапы. На тэрыторыі Беларусі і Літвы існавала мітрапалітальная епархія з цэнтрам у Вільні — сталіцы Вялікага княства Літоўскага. У склад яе ўваходзілі ваяводства Віленскае, паўднёвая частка Троцкага (з горадам Гродна), Мінскае, Навагрудскае ваяводствы і Кіеўскае на Украіне. Архіепіскапу полацкаму належала вялікая епархія, куды ўваходзілі Полацкае, Віцебскае і Мсціслаўскае ваяводствы (са значнай адміністрацыйнай аўтаноміяй) з гарадамі Полацкам, Віцебскам, Оршай і Магілёвам. Меншымі па тэрыторыі, але з вялікай колькасцю вернікаў былі Пінская епархія (Пінскі павет Брэсцкага ваяводства) і Луцкая (на Валыні), куды ўваходзіў Брэсцкі павет [Грыцкевіч А. Уніяцкія тэндэнцыі і Уніяцкая Царква на Беларусі ў XV—XVIII стагоддзях // Хрысціянская Думка.— 1993.— N 1.— С.168]. У 1625 г. была заснавана уніяцкая архіепіскапская кафедра ў Смаленску. [Чистович И. Очерк истории западно-русской церкви. СПб., 1884.–Ч.2.—С.391.] Пасля ўзнаўлення ў 1620 г. Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі і прызнання яе афіцыйна ў

1632 г. каралём Уладзіславам IV у Рэчы Паспалітай суіснавалі, акрамя рымска-каталіцкага касцёла, дзве царквы візантыйскага (усходняга) абраду — грэка-каталіцкая (уніяцкая) і грэка-праваслаўная, але на Беларусі праваслаўных тады засталося мала (толькі ў раёнах Магілёва, Слуцка, Пінска і яшчэ Віцебска).

Вялікае значэнне для пашырэння ўплыву уніяцкай царквы мела рэарганізацыя кіравання манастырамі базыльянскага ордэна, які аб'ядноўваў уніяцкія манастыры і быў падпарадкаваны мітрапаліту. Статут ордэна святога Базыля (Васіля) Вялікага быў падрыхтаваны ў 1617 г. Кангрэгацыі базыльянскага ордэна адбываліся звычайна ў Жыровіцкім манастыры (які быў уніяцкім) або ў Наваградку ці Вільні ў кляштары Святой Тройцы (Базыльянскія муры).

У першай палове XVII ст. ранейшыя праваслаўныя брацтвы аўтаматычна пасля царкоўнай уніі сталіся уніяцкімі і працягвалі сваю рэлігійна-дабрачынную і грамадска-культурную дзейнасць. У гэтыя аб'яднанні ўваходзілі галоўным чынам мяшчане-рамеснікі, гандляры, купцы, духавенства, зрэдку шляхта. Паколькі на чале гарадскіх магістратаў стаялі купецка-цэхавыя вярхі, то уніяцкія брацтвы былі часткаю сістэмы гарадскога самакіравання па магдэбургскім праве. Гэта дазваляла гарадскім уладам уздзейнічаць на большасць гараджан не толькі юрыдычна, але маральна і ідэйна. Брацтвы дапамагалі школам, якія былі прыпісаны да іх, распаўсюджвалі рэлігійную літаратуру, якая выдавалася брацтвамі на беларускай і царкоўнаславянскай мовах [Грыцкевіч А.П. Брацтвы уніяцкія // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994.— Т.2.— С.76—77]. Такім чынам, уніяцкая царква трывала замацоўвалася ў гарадах Беларусі.

У першай палове XVII ст. па ініцыятыве іерархаў уніяцкай царквы былі зроблены спробы аб'яднаць уніяцкую і праваслаўную цэрквы на Беларусі і Украіне з выбраннем агульнага патрыярха, падпарадкаванага рымскаму папе. Такі план быў прапанаваны уніяцкім мітрапалітам Іосіфам Вельямінам Руцкім на нарадзе епіскапаў уніяцкай царквы ў Навагрудку ў

1624 г. [Polski Slownik Biograficzny. Wroclaw-Warszawa-Krakow, 1991.—T.33.— S.258]. У 1628—1629 гг. такая спроба паўтарылася, прычым іерархі уніяцкай царквы пагадзіліся абраць патрыярхам праваслаўнага архімандрыта Кіева-Пячэрскага манастыра (лаўры) Пятра Магілу (з 1632 г. праваслаўны мітрапаліт кіеўскі). Аднак супраць аб'яднання цэркваў выступілі праваслаўная шляхта і казацтва Украіны, з аднаго боку, і Кангрэгацыя прапаганды веры ў Рыме, з другога боку [Там жа.— С.259]. Потым паспрабаваў аб'яднаць абедзве цэрквы візантыйскага абраду польскі кароль і вялікі князь літоўскі і рускі Уладзіслаў Ваза. Ён прапанаваў (у 1636 г.) правесці ў 1637 г. у Варшаве аб'яднаўчы царкоўны Сабор з выбраннем патрыярха пад вяршэнствам рымскага папы. Аднак і на гэты раз Кангрэгацыя прапаганды веры выступіла супраць гэтага праекта. [Jobert A. Od Lutva do Mohyly. Warszawa, 1994.— S.285—286.]

У сярэдзіне XVII ст. уніяцкая царква займала трывалыя пазіцыі ў Літве і Беларусі. Але падчас вызваленчай вайны ўкраінскага народа пад кіраўніцтвам гетмана Багдана Хмяльніцкага і вайны 1654—1667 гг. паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай наступіў крызіс царквы, асабліва пасля акупацыі расійскімі і казацкімі войскамі большай часткі тэрыторыі Беларусі, а таксама часткі Літвы (1654—1655 гг.). На акупіраванай тэрыторыі дзейнасць уніяцкай царквы была забаронена, а уніяцкія святары і манахі рэпрэсіраваліся акупантамі. Расійскія ўлады падтрымлівалі на тэрыторыі Беларусі толькі праваслаўную царкву (пад кантролем маскоўскага патрыярха, а не канстанцінопальскага патрыярха, як было дагэтуль).

Толькі пасля вызвалення тэрыторыі Беларусі ад расійскіх войскаў у канцы гэтай працяглай вайны дзейнасць уніяцкай царквы была ўзноўлена. Адраджэнню уніяцкай царквы садзейнічала і асцярожная і талерантная ў дачыненні да праваслаўя палітыка каралёў Міхала Карыбута Вішнявецкага (1669—1673) і Яна III Сабескага (1674—1696). Аднак перавага

аддавалася ўсё ж уніяцкай царкве. Уніяцкія епіскапы, карыстаючыся гэтым, развілі актыўную дзейнасць. Колькасць праваслаўнага насельніцтва ў Рэчы Паспалітай скарачалася, а колькасць уніятаў павялічвалася [Litak St. Od Reformacji do Oswiecenia. Kosciol Katolicki w Polsce nowozytnej. Lublin, 1994.— S.73].

У апошняй чвэрці XVII ст. у рэлігійнай палітыцы дзяржавы і каталіцкай царквы можна заўважыць наступныя тэндэнцыі. Па-першае, каралеўская ўлада намагалася палагодзіць адносіны паміж уніятамі і праваслаўнымі для захавання спакою ў дзяржаве і для заключэння саюза з Расіяй супраць султанскай Турцыі і Крымскага ханства. Па-другое, адбывалася пэўнае збліжэнне паміж рымска-каталіцкай і уніяцкай царквой. Гэта азначала павышэнне юрыдычнага і грамадскага статуса уніяцкай царквы. Па-трэцяе, ішоў адток, у асноўным шляхты і мяшчан, ад праваслаўнай царквы ў абедзве каталіцкія — лацінскага і візантыйскага абрадаў. Усё гэта разам узятае стварала новую сітуацыю.

Рэлігійныя канфлікты зменшыліся. Каталіцкі бок намагаўся цяпер аб'яднаць абедзве царквы візантыйскага абраду. Аднак з-за палітычных абставін, нягледзячы на падтрымку караля Яна Сабескага і сойма, гэтая спроба аб'яднання не ўдалася. Кароль двойчы спрабаваў сабраць аб'яднаны сінод — у Любліне ў 1680 г. і ў Варшаве ў 1681 г., аднак праваслаўныя манахі адмовіліся ўдзельнічаць у пасяджэннях. У 1682 г. Ян III Сабескі зноў вярнуўся да плана аб'яднання праваслаўнай і уніяцкай цэркваў з абраннем у Кіеве (што знаходзіўся з 1667 г. у складзе Расіі) агульнага патрыярха, аднак з падпісаннем "вечнага міру" паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай (1686 г.) кіеўскі праваслаўны мітрапаліт быў падпарадкаваны маскоўскаму патрыярху. Таму аб'яднанне абедзвюх цэркваў ужо быць не магло.

У другой палове XVII ст. уніяцкія мітрапаліты праводзілі паслядоўную палітыку захавання і пашырэння ўплыву уніяцкай царквы як на Беларусі, так і на Украіне. Прэстыж уніяцкай царквы на Беларусі ўзрастаў з-за дзейнасці гэтай царквы па

падтрымцы нацыянальна-культурных традыцый, шырокага выкарыстання падчас богаслужэння і ў казаннях беларускай мовы, а значыць, і зразумеласці абрадаў вернікам-беларусам, друкаванні кніг і брашур на гэтай мове. У XVII ст. уніятамі была выдадзена шматлікая літаратура на беларускай мове: рэлігійныя і палемічныя творы мітрапалітаў Іпація Пацея, Іосіфа Вельяміна Руцкага і архіепіскапа полацкага Іасафата Кунцэвіча. Віленская і Супрасльская уніяцкія друкарні забяспечвалі сваю царкву богаслужэбнымі кнігамі.

Значнымі асяродкамі беларускай нацыянальнай культуры былі уніяцкія кляштары. У гарадах існавалі шпіталі, створаныя і ўтрымліваемыя уніяцкай царквой. У Менску ў XVII ст. існавалі з 1616 г. да 1633 г. і з 1651 г. два шпіталі уніятаў за кошт узносаў брацтва, ахвяравання феадалаў і даходаў духавенства.

У пачатку XVII ст., напрыклад у Менску, узнікла уніяцкая школа пры Казьмадзямянскім кляштары. У гэты час у школе налічвалася некалькі дзесяткаў вучняў, якія займаліся ў розных класах. Вучні малодшых класаў называліся "хлапятамі", старшых —"вырасткамі". Настаўнікамі былі манахі-базыльяне. У 1630 г. кароль і вялікі князь Жыгімонт Ваза даў прывілей манахам базыльянскага ордэна ў Менску, які дазваляў ім вучыць дзяцей усім навукам і мовам: грэчаскай, лацінскай, царкоўнаславянскай, беларускай і польскай. На уніяцкую школу распаўсюджваліся ўсе ільготы, якімі карысталіся каталіцкія школы. У 1653 г. гэты прывілей быў пацверджаны каралём Янам Казімірам. Такое ж становішча з асветай было ў іншых гарадах Беларусі.

Уніяцкая царква ў XVII ст. заняла важнае месца ў рэлігійным жыцці і культуры беларускага народа, стварыўшы трывалыя традыцыі ў яго гісторыі.

**Побаль Л.Д.**, *прафесар,*
*Інстытут гісторыі НАН Беларусі*

# ФАРМІРАВАННЕ І РАСПАЎСЮДЖАННЕ ПІСЬМЕНСТВА НА СТАРАСЛАВЯНСКАЙ МОВЕ
## (аналіз гістарычна-археалагічных крыніц)

Македонія — адна з тэрыторый, на якой лакалізаваліся славяне. Славянская абшчына пражывала тут, у Салуні, які ў грэчаскіх гістарычных крыніцах пад 704—705 гг. мае такую назву, хаця ў іншыя часы ён быў вядомы як "Ферма" (V—IV стст. да н.э.), "Фесалонікі" (II ст.н.э.; цяпер гэты горад у межах сучаснай Грэцыі мае такую назву). У IX ст. у Салуні пражывалі два браты-грэкі Кірыл і Мяфодзій, якія цяпер вядомыя як славянскія асветнікі, рэлігійныя дзеячы ў распаўсюджванні ўсходняй (канстанцінопальскай, грэчаскай, праваслаўнай) галіны хрысціянства сярод славян Паўднёвай, Усходняй і часткова Цэнтральнай Еўропы. Кірыл меў свецкае імя Канстанцін, жыў 42 гады (827—14.02.869 гг.), а Мяфодзій — 70 гадоў (815—6.04.885 гг.). Згодна з летапіснымі дадзенымі, бацькі асветнікаў — Леў і Марыя. Добра вядома, што на падставе грэчаскага алфавіта Кірыл і Мяфодзій распрацавалі славянскую азбуку з 43 літар. На дыялект славянскай абшчыны Салуня імі былі перакладзены з грэчаскай мовы хрысціянскія рэлігійныя творы. У час іх жыцця лічылася, што такія творы маглі быць распаўсюджаны толькі на трох мовах Старога Свету: грэчаскай, лацінскай, іудзейскай. Мова салунскай славянскай абшчыны, дзякуючы асветніцкай дзейнасці Кірылы і Мяфодзія, паступова з увядзеннем хрысціянства пры іх жыцці была прынята Балгарыяй, Сербіяй, Маравіяй, а з 988 г.н.э., ужо пасля смерці Мяфодзія, і Руссю. (Хаця, як добра вядома з летапісу, кіеўская князёўна Вольга стала хрысціянкай у 955 г. і атрымала адпаведна імя Елена, калі яна знаходзілася ў Царградзе.) Славянская азбука атрымала назву "кірыліца", а салунскі

дыялект —“старажытнабалгарскай” (“старажытнаславянскай”, “царкоўнаславянскай”) мовы. Найбольш дакладная з гістарычнага аспекту яе назва “старажытнаславянская салунская абшчынная мова”. З увядзеннем хрысціянства сярод славян мова нашых родзічаў паступова была прызнана адной са старажытных моў не толькі Еўропы, а ўсяго старажытнага свету.

У 1993 г. у Маскве перавыдадзены “Полный церковнославянский словарь”, які ў дарэвалюцыйныя гады быў складзены і надрукаваны магістрам Г.Дзьячэнкам. Ён змяшчае каля 30 тысяч слоў з тлумачэннямі. У значнай ступені гэты слоўнік адлюстроўвае гісторыю мовы салунскай абшчыны славян каля 1100—1200 гадоў таму назад. Калі яго словы параўнаць са словамі дыялектаў беларускіх вёсак, а таксама са зместам “Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы” ў пяці тамах (пяты том у дзвюх кнігах), выдадзенага БелСЭ ў 1977—84 гг., то можна знайсці шмат паралельных тэрмінаў, асабліва звязаных з земляробча-жывёлагадоўчым укладам жыцця. Паралелі маюцца адпаведна ў слоўніках сучасных рускай, украінскай і іншых славянскіх моў. Як ужо зазначалася спецыялістамі, гэтыя дадзеныя сведчаць, што славяне ўсёй Еўропы маюць адзіныя этнагенетычныя карані, і звязаны яны з індаеўрапейскай агульнасцю першапачатковага вандроўна-жывёлагадоўчага ўкладу жыцця асноўных народаў нашага кантынента і некаторых народаў Азіі. Як зазначаў Г.Дзьячэнка, складаючы поўны царкоўнаславянскі слоўнік, “языки церковно-славянский и наш русский, как отдельные наречия, суть члены одного, общего им славянского языка, который, в свою очередь, вместе с языками индусов, персов, греков, римлян, кельтов, немцев и литовцев входит как отдельный член в общий состав языков индоевропейских”.

Славяне толькі з часоў жыцця Кірылы і Мяфодзія атрымалі сваю азбуку. Раней пэўныя аспекты жыцця славян былі адлюстраваны, напрыклад, у грэчаскіх пісьмовых крыніцах. Так, пад 559 г.н.э. зазначана, што на землях Фракіі ў вялікай колькасці знаходзіліся славяне разам з гунамі, узнікалі розныя

ўзаемаадносіны з грэкамі. Пад 580—581 гг. сказана, што "ў славян меліся караблі". Далей, "народ славянаў" адзначаны вялікай колькасцю "ў складзе драгувітаў, сагудатаў, велегязітаў, ваюнітаў, верзітаў". На жаль, што абазначалі ўсе гэтыя назвы славян у грэчаскіх крыніцах, не сказана. Хутчэй за ўсё яны звязаны з адпаведнымі родаабшчыннымі культава-міфалагічнымі поглядамі славян дахрысціянскай эпохі, якія пражывалі на адпаведных тэрыторыях сярод грэкаў-хрысціян. Далей, у грэчаскіх пісьмовых крыніцах запісана, што славяне ўмелі плаваць па моры, карысталіся "суднамі", "выдаўбленымі з дрэва", авалодалі землямі Фесаліі, Элады і астравамі ля іх, а таксама Кікладскімі астравамі, засялялі прасторы па землях Ахеі, Эпіра, большай часткі Ілірыка і часткі Асіі. Калі параўнаем усе вышэйпрыведзеныя дадзеныя грэчаскіх крыніц непасрэдна з картамі розных часоў ад другой паловы I тыс.да н.э. і да таго перыяду, калі землі Грэцыі ўваходзілі ў склад Рымскай імперыі (I—II стст.н.э.), то ўбачым, што ўсе пералічаныя "землі" знаходзяцца на розных прасторах Грэцыі, а таксама на паўвостраве Пелапанесе. І на ўсіх гэтых землях у VI стагоддзі грэчаскія пісьмовыя помнікі даюць звесткі аб славянах. Асабліва хочам адзначыць, што ў тых славян, якія пражывалі на "сушы, меліся свае роды разам з іх маёмасцю" [Чичугов И.С. Византийские исторические сочинения. М., 1980.— С.52; Свод древнейших письменных известий о славянах: В 2-х т. М., 1995.— Т.2.— С.91—211, комментарии 72—79].

Звесткі аб "родах разам з іх маёмасцю" славян у візантыйскіх пісьмовых крыніцах маюць прынцыповае навуковае значэнне. Сапраўды, ва ўсіх славян ад басейна Эльбы на захадзе і да Волгі на ўсходзе, у тым ліку і на прасторах сучаснай Беларусі, асноўнымі структурамі з'яўляліся родаабшчынныя фарміраванні. Родавымі цэнтрамі такіх структур з'яўляліся гарадзішчы, якіх у Беларусі мелася да дзвюх тысяч. І назвы славян у візантыйскіх крыніцах не плямённыя, а родава-культавыя, структуры якіх адрозніваліся паміж сабой

Пачатковы перыяд гэтай старажытнай пераемнасці мовы салунскіх першых настаўнікаў — часы святой Ефрасінні Полацкай, якая, паводле звестак, атрымлівала святыя кнігі (у балгарскай рэдакцыі Кірыла і Мяфодзія) праз родную цётку — візантыйскую імператрыцу — для перапісвання ў сваім знакамітым скрыпторыі непасрэдна з Канстанцінопаля. Не можа не здзіўляць сапраўды падзвіжніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай па хрысціянізацыі краю, распаўсюджванні манаскіх цэнтраў з іх добра наладжанымі скрыпторыямі па перапісванні праваслаўных кніг.

Увогуле Адраджэнне, як у Славіі, так і ў Італіі і ўсёй Заходняй Еўропе, выклікала з'яўленне універсітэтаў і іншых навучальных устаноў, спрыяла распаўсюджанню вучонасці, зрабіла шырока даступнымі асвету, адукацыю, навуку. І пачалося ўсё з класічнай філалогіі як энцыклапедыі ўсіх гуманітарных ведаў.

Зварот да класічнай філалогіі прывёў да перачытвання рэлігійнага канона, выпрацоўкі метадалогіі і філалагічнай крытыкі тэксту, рэдагавання і выпраўлення кніг, росту іх колькасці.

Калі ж мець на ўвазе беларускае (падкрэслім, духоўнае) Адраджэнне, то яго росквіт прыпадае на эпоху другога паўднёваславянскага ўплыву.

Другі паўднёваславянскі ўплыў, эпіцэнтрам якога былі не толькі, як прынята лічыць, Маскоўскае княства, але, магчыма, яшчэ ў большай меры, землі Вялікага княства Літоўскага, абумоўлены складанымі зрухамі ў праваслаўным свеце, канчатковым вынікам чаго з'явілася вядомае перамяшчэнне рэлігійных цэнтраў.

У канцы XIV стагоддзя пад націскам Асманскай імперыі палі Балгарыя і Сербія, а ў 1453 годзе праз падман і здраду заходніх хрысціян (т.зв. Ферара-Фларэнцийскую унію) — Канстанцінопаль. У выніку візантыйскія праваслаўныя традыцыі перайшлі да сваіх усходніх пераемнікаў — Кіеўскай і Маскоўскай мітраполій.

Носьбітамі другога паўднёваславянскага ўплыву былі прадстаўнікі ісіхазму, якія лічылі, што вянец існавання чалавечай душы — асабістае "абагаўленне", узвышэнне чалавека ў сыноўняй любові праз Ісуса Хрыста і Святога Духа да Госпада. Гэта быў своеасаблівы тып падзвіжнікаў, якія, нават ахвяруючы ўласным вечным збаўленнем, ішлі выратоўваць "мір" ад граху і заганаў.

Калі ж непасрэдна весці гаворку аб другім паўднёваславянскім уплыве на ўсходніх славян, то пачатак яго трэба звязваць з дзейнасцю Тырнаўскай (Балгарыя) і яе пераемніцай Рэсаўскай (Сербія) школ, з іх шырока распрацаванай праграмай заснавання рэлігійных вучылішчаў, умацавання праваслаўнай дагматыкі і абрадавасці, пашырэння кнігапісання і інш. Пачынальнікі Адраджэння настойвалі на вернасці літары Св. Пісання і Падання, былі прыхільнікамі аўтэнтычнасці перакладаў, правільнасці і прыгажосці пісьма, клапаціліся пра вобразнасць і дзейсную сілу слова. Як важнейшую тэму трэба адзначыць імкненне гэтых школ да адраджэння царкоўнаславянскай мовы часоў салунскіх першых настаўнікаў, што вяло да збліжэння філалагічных праблем з этычнымі, арфаграфіі з артадоксіяй [Мечковская Н.Б. Ранние восточнославянские грамматики.— Мн., 1984.— С.5].

Апошняе найбольш выявілася ў Рэсаўскай школе і прывяло да "рэформы", так званага "выпраўлення кніжнага". Альгерд адразу быў гатовы прызнаць дзяржаўнай рэлігіяй праваслаўе, а ў Вільні праводзіць палітыку "трэцяга Рыма".

Тырнаўская і Рэсаўская школы, а за імі і місіянеры ў час другога паўднёваславянскага ўплыву асаблівую ўвагу звярнулі на выпраўленне пашкоджанняў у тэкстах св. кніг, што непазбежна ўзнікалі пры неаднаразовай перапісцы. Вялікім прыхільнікам дакладнасці капіравання арыгінала быў мітрапаліт Кіпрыян, які патрабаваў: "... сматряй не приложити или отложити единое некое слово, или тычку едину, или крючкы ... ниже преминити слогню некоторую, или приложити отъ обычныхъ, ихъ же первее привыкъ ..." [Соболевский А.И.

Славянская палеография.— СПб., 1908.— С.99]. Яго паслядоўнік Грыгорый Цамблак ідзе далей: выпраўленне тэксту ён абгрунтоўвае арфаграфічнай тэорыяй Канстанціна Касцянецкага [История лингвистических учений.— СПб., 1991.— С.141—143], згодна з якой няправільнае напісанне слоў вядзе не толькі "да схілення ў ерась", але і горш — пашкоджанне тэксту азначае адступленне ад ісціны Св. Пісання, бо згодна з вучэннем Грыгорыя Паламы "... увесь Сусвет — сачыненне Самаіпастаснага Слова... [Лихачев Д.С. Развитие русской литературы X—XVII веков.— Л., 1973.—С.97], г.зн. данесенага праз старазапаветных прарокаў і новазапаветных апосталаў дабравесця аб велічных прынцыпах Боскай светабудовы. Такім чынам, на Беларусі, на стагоддзе раней за царкоўную Ніканаўскую рэформу, паўднёваславянскія місіянеры ставілі пытанне аб сістэматычнай ідэнтыфікацыі з арыгіналам свяшчэнных кніг пры іх перапісванні.

Славянскае, духоўнае па сваім характары, Адраджэнне, якое (што пастараліся ўжо забыць) дало імпульс заходняму Рэнесансу, непасрэдна другі паўднёваславянскі ўплыў і дзейнасць яго выдатных праваднікоў у ВКЛ Кіпрыяна і Цамблака, плённая шматгадовая дзейнасць праваслаўных брацтваў па ўзоры Тырнаўскай і Рэсаўскай школ у абарону чысціні хрысціянства на Беларусі — вось тая старонка, якой не хапае ў скарыназнаўстве для вытлумачэння сапраўды тытанічных стымулаў дзейнасці нашага славутага асветніка Францыска Скарыны, крыніцы рэдкай багаслоўскай культуры яго перакладаў, як і феномена яго гімнаграфіі, нарэшце, выпрацаванай пры яго непасрэдным удзеле, у выніку яго дальнабачнай моўнай палітыкі, царкоўнаславянскай рэдакцыі старабеларускай мовы. Менавіта зварот у сваёй шматграннай асветніцкай, біблейска-перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці да кірыла-мяфодзіеўскай традыцыі дазволіў Ф.Скарыну закласці трывалы падмурак у працэс станаўлення нацыянальнай літаратурнай мовы; у сваёй лінгвістычнай палітыцы ён паспеў зрабіць больш за цэлае пакаленне моўных рэфарматараў і

пісьменнікаў і ў далёкім XVI стагоддзі сваёй таленавітай моватворчасцю здолеў узняць родную мову на вышыню найдасканалейшай літаратурнай мовы Еўропы.

Існаваў і ўласнабеларускі звод Св. Пісання. Працу над ім распачаў у 1502 г. Мацей Дзесяты, падрыхтаваны багаслоў, каліграф і мастак (ім выкананы "Дзесятаглаў"), і закончыў у 1514 г. дыякан Фёдар Янушэвіч (Гістарычныя кнігі і "Пяцікніжжа" Маісеева). Звод Мацея Дзесятага і лёг у аснову скарынаўскага перакладу Бібліі, які, па сведчанні аўтара, быў поўны, але многія кнігі Старога Запавету не дайшлі да нас.

І пазней у сценах Супрасльскай лаўры выспявалі ідэі нацыянальнага духоўнага Адраджэння, выношваліся планы стварэння кананічна вытрыманага і дакладнага перакладу — зводу Бібліі, у сярэдзіне XVI стагоддзя архімандрыт Супрасльскага манастыра Сергій Кімбар выступіў з уласнай праграмай перакладаў Бібліі на старабеларускую мову. Гэтай найвялікшай з'яве ў славянскай пісьменнасці — выданню ў маёнтку князя К.К.Астрожскага першай поўнай кананічна дакладнай царкоўнаславянскай Бібліі ў 1581 годзе — папярэднічаў у творчасці Івана Фёдарава падрыхтоўчы перыяд: праца над Евангеллем вучыцельным; Псалтырам з Часаслоўцам; Апосталам; Новым Запаветам.

Асветніцкая дзейнасць Івана Фёдарава ўключала ў сябе падрыхтоўку і выданне школьных падручнікаў: "Буквара" (1574 г., Львоў), "Азбукі" (1578 г., Астрог), "Лексіса з талкаваннем славенскіх моў проста" (1581 г., Астрог).

У складзе астрожскай "Азбукі" львоўскае пасляслоўе замяняецца навуковым выданнем трактата "О письменехъ" Чарнарызца Храбра, дзе, адстойваючы справу салунскіх братоў, богам натхнёны подзвіг святога Канстанціна-філосафа, аўтар паказвае дасканаласць і універсальнасць славянскай азбукі.

Пра павагу да роднай мовы, пра патрыятычныя пачуцці да зямлі, якая яго ўзгадавала, яскрава сведчыць абавязковае змяшчэнне Іванам Фёдаравым вольнай інтэрпрэтацыі вядомага трактата "О письменехъ" Чарнарызца Храбра. І тут жа

фёдараўскі палымяны заклік: “Хвалите Господа вси языци и похвалите его вси людие. А не единымі тремя письмены, а языки, яко ж они баснословят”.

Змяшчэнне ў выданнях І.Фёдарава твора Х стагоддзя, у якім сцвярджаецца права славян на кніжнасць, набывала вострае грамадска-палітычнае гучанне, было першай рэакцыяй на пракаталіцкую арыентацыю Пятра Скаргі, бо напачатку апошні адмаўляў старабеларускай кніжнасці, асабліва выданням І.Фёдарава і іншых брацкіх асветнікаў, у праве на існаванне. З асобамі Ф.Скарыны, І.Фёдарава, братоў Зізаніяў, А.Філіповіча, Л.Карповіча, М.Сматрыцкага, І. Ужэвіча сучаснікі звязвалі імклівае праваслаўнае Адраджэнне, “залаты век” старабеларускай пісьменнасці і культуры.

Падзеі Брэсцкай (Берасцейскай) уніі 1596 г., падрыхтоўка і няпростыя вынікі такога складанага рэлігійнага кампрамісу ў дзяржаўным аб’яднанні Рэчы Паспалітай і ВКЛ абумовілі з’яўленне новага жанру прыгожага пісьменства — палемічных твораў. І калі пасляслоўі і сказанні Івана Фёдарава як адзін з першых водгукаў на трактаты Пятра Скаргі стаяць ля вытокаў станаўлення гэтага жанру, то “Граматыка”, “Лексіс”, “Азбука”, якія прынеслі Лаўрэнцію Зізанію шырокую вядомасць (пра яго нават згадвае летапісец Баркулабаўскай хронікі), аўтарытэт таленавітага духоўнага пісьменніка і экзэгета сярод членаў славутага асветніцкага гуртка-асяродка Кіева-Пячэрскай лаўры на чале з архімандрытам Елісеем Плецянецкім (у склад гуртка таксама ўваходзілі Іоў Барэцкі, Памва Бярында, Тарасій Зёмка, Мялецій Сматрыцкі і інш.), напісаныя ў год Берасцейскай уніі, адлюстроўваюць своеасаблівы пік канфесійнай барацьбы. Паэтычная ж і граматычная творчасць Івана Ужэвіча не толькі завяршае працэс лацінізацыі старабеларускай культуры, але, наадварот, распачынае якасна новы напрамак развіцця нацыянальнай філалогіі — уводзіць айчынную традыцыю ў велічны храм агульнаеўрапейскіх ведаў новага часу. Сваёй граматыкай Іван Ужэвіч хацеў пазнаёміць замежнага чытача са сваёй Радзімай, яе багатай і дасканалай мовай. І ў паэтычнай

эпіграме да свайго твора, што, відаць, адпавядала акадэмічнаму этыкету таго часу, вучоны-патрыёт ва ўзнёслых паэтычных радках красамоўна пацвярджае сваю навуковую задуму:

У роднай краіне, о кніга, такой ты ніколі не знана,
Мову славянскую месціш ты на старонках сваіх.
Ды як тварэнне пяра, у Лютэцыі, з'яўленай свету,
Маці Сарбона цябе горне да ўлоння свайго.
Шчодра жывіла яе малаком свяшчэнным Палада
І атачала наўкол хорам красунь-піерыд.
Дык ты не вельмі, о кніга, шануй мяне, творцу свайго,
А як найбольш паважай маці — падпору тваю.

Станаўленне беларускай філалагічнай думкі адбывалася ў шырокім культуралагічным кантэксце, у цеснай сувязі з працэсам духоўнага Адраджэння на Беларусі, раўнадзеючай другога паўднёваславянскага ўплыву і рэнесансных ідэй Заходняй Еўропы. Прэцэдэнт лацінамоўнай "Граматыкі славенскай" беларускага аўтара Івана Фёдарава (Парыж, 1643; Арас, 1645) сведчыць пра неаслабную цікавасць да культур Slavia Orthodoxia ў раманскім свеце, аб тыпалагічным вывучэнні вопыту літаратурнага ўпарадкавання мовы ў складанавырашальнай праблеме спалучэння кананічнага (царкоўнаславянскага) і народнага (старабеларускага) пачаткаў.

Разуменне хрысціянскага ўсходняга, ці праваслаўнага візантыйскага, Адраджэння як пачатку, прадцечы заходнееўрапейскага Рэнесанса ў беларускай навуцы толькі пашыраецца, у той час як даследаванні ў галіне візанталогіі і славістыкі разглядаюць увесь хрысціянскі свет часоў ісіхазму, дыспутаў пра Фаворскае святло як эпоху адраджэнскую, эпоху гуманізму.

Па сваіх вытоках і характары рэнесансныя з'явы ў розных краінах і ў розныя часы маюць свае асаблівасці, але іх зыходная аснова — цікавасць да чалавечай асобы. І вось XIV стагоддзе ў большай меры, чым якое іншае, можна назваць векам Адраджэння ў Заходняй Еўропе і Візантыі, у славянскіх краінах і на арабскім Усходзе. Паўсюдна пасля аслаблення сацыяльна-

дзяржаўных структур, веку чорнай чумы, што знішчыла трэць насельніцтва Еўропы, рэзка ўзнімаецца значэнне чалавечага фактара. Таму XIV стагоддзе такое антрапацэнтрычнае. У строгім сэнсе яго прадстаўнікоў нельга падзяляць на гуманістаў і негуманістаў. Тады ўсе былі гуманістамі: і тыя, хто сыходзіў у пустыню, і тыя, хто паміж філасофскімі развагамі аб прыгажосці і дабрачыннасці гібеў у грахах і ліхвярстве. Нават больш, славянскімі вучонымі апошніх год аспрэчваецца правамернасць распаўсюджвання самога тэрміна “адраджэнне” на заходні свет, які праз свой Рэнесанс адышоў ад хрысціянскіх каштоўнасцей у язычніцтва, бездань ерасяў і граху, адмовіўся ад трансцэндэнтнай сінергіі (узаемадзеяння) Боскай ласкі і свабоднай волі чалавека, побач са станоўчымі сутыкнуўся з пэўнымі крызіснымі момантамі. У рускай навуцы вызначыўся перагляд канцэпцыі Д.С.Ліхачова, які ў адносінах да ўсходнеславянскіх умоў уводзіў рабочы тэрмін “предвозрождение”. У наяўнасці былі ўсе адзнакі духоўнага, культурнага, нацыянальнага, дзяржаўнага ўздыму, нездарма ў гэты час Русь пазбываецца іга татар, тады як Еўропа адступае перад туркамі. Хочацца нагадаць, што аб’яднанымі сіламі Рэчы Паспалітай, Вялікага княства Літоўскага і Чэшска-Венгерскага каралеўства (1490—1515) стрымліваўся асманскі наступ на Цэнтральную Еўропу.

... У апошнія гады ў еўрапейскай навуцы стала агульнапрынятым вылучаць у Рэнесансе два бакі: духоўнае Адраджэнне, якое заўсёды папярэднічае гэтаму феномену, і яго палітыка-культурныя праявы з усімі выдаткамі гэтай з’явы.

І калі мы ў сябе яшчэ даволі сціпла гаворым аб гэтых фактах, то на Захадзе ўжо ідзе перагляд тэрміна “рэнесанс” у бок больш духоўнага яго зместу. У заходнееўрапейскай і амерыканскай тэалогіі і медыявістыцы, асабліва пасля прац Г.Гаскінса “Адраджэнне XII ст.” (1927 г.), Эрвіна Панофскага “Рэнесанс і Адраджэнне ў заходнім мастацтве” (1960 г.), ужо агульнапрынятым стала гаварыць аб духоўным Адраджэнні ўжо ў эпоху готыкі (XI—XII стст.).

Як адзначае Р.Сазерн у сваёй кнізе “Станаўленне Сярэднявечча”, у другой палове XII ст. адчуваецца подых новых павеваў, пачынаецца ўсведамленне новых гістарычных перспектыў у форме “вежества” і “учёности”; рух ішоў з Грэцыі (Візантыі) да Рыма, ад Рыма пасля вядомага перапынку да Францыі, па тым часе фарпоста заходняга хрысціянскага свету. Па сведчанні англійскага прафесара гісторыі Крыстафера Брука (“Адраджэнне XII ст.”), зварот да сапраўдных, “истинных” уяўленняў пра Рэнесанс пачаўся ў Еўропе ў XVIII ст. З часам, асабліва ў XIX ст., назіраецца карпатлівае даследаванне вытокаў Рэнесансу, складваецца духоўны асяродак, які здольны ацаніць усе вартасці гатычнай культуры, славутай папярэдніцы Рэнесансу, пачынаецца вывучэнне традыцыйнай агульнахрысціянскай абрадавасці, патрыстыкі візантыйскай пары і працэсаў духоўнага адраджэння славянскіх праваслаўных народаў.

Канец XVI—першая палова XVII стагоддзя, як сцвярджаюць гісторыкі, перыяд “залатога веку” аб’яднанай дзяржавы ВКЛ і Каралеўства Польскага, быў для народаў гэтай дзяржавы вельмі няпростым і пакутлівым. Шматлікія памылкі дзяржаўна-культурных і рэлігійных уній, пра што папярэджваў у свой час яшчэ Пётр Скарга, сталі асабліва відавочнымі.

Светачам веры, які вывеў духоўнае жыццё дзяржавы з перыяду маруднага заняпаду і антынамічных катаклізмаў, стаў сын малдаўскага гаспадара (караля-князя) Сімяона, гэта ваявода, а пазней мітрапаліт, Пётр Магіла. Адраджэнне бацькоўскай веры мітрапаліт пачаў са стварэння рэлігійна-асветніцкага асяродка з лепшых вучняў брацкага Львоўскага вучылішча, якіх накіроўваў для атрымання ўсебаковай вышэйшай адукацыі ў лепшыя акадэміі, універсітэты Еўропы. З іх кагорты і выйшлі выкладчыкі знакамітай Кіеўскай калегіі, папярэдніцы славутай Кіева-Магілянскай духоўнай акадэміі.

У 1616 г. пабачылі свет калядныя драматызаваныя вершы (на Ражство Хрыстова) ужо вядомага ў славянскім свеце земляка Пятра Магілы, таленавітага вучонага-лексікографа, багаслова,

перакладчыка, друкара, гравёра, экзэгета Памвы Бярынды. У гэтым жа годзе пры падтрымцы архімандрыта Елісея Плецянецкага выходзіць “Анфалогія”. На пасадзе протасінгела, галоўнага друкара і радцы, нададзенай Памву Бярынду ў 1620 г. іерусалімскім патрыярхам Феафанам, ён рэдагуе і перакладае асноўныя выданні Кіева-Пячэрскай лаўры: “Анфалагіён” (1619), “Намаканон” (1620), “...Іаана Златавуста гутаркі” (1623), “Тлумачэнне святога Андрэя Кесарыйскага на Апакаліпсіс” (1625), “Трыёдыён” (1627), “Павучэнні Савы Дарафея” (1628). У складзе пасольства Памва Бярында наведаў Маскву, быў прыняты царом і патрыярхам, якім і падараваў уласныя і пад яго кіраўніцтвам надрукаваныя кнігі. Справай жыцця П.Бярынды, што прынесла яму не толькі агульнаеўрапейскую, але і сусветную вядомасць і славу, была падрыхтоўка (30 гадоў) “Лексікона славенароскага і імёнаў талкавання”, які быў коштам аўтара выдадзены ў 1627 г. у Кіева-Пячэрскай лаўры.

Да апошніх імгненняў свайго жыцця — 23(13) ліпеня 1632 г.— Памва Бярында працаваў над падрыхтоўкай новай рэдакцыі царкоўнаславянскай Бібліі, лексічным падмуркам якой і з’яўляўся “Лексікон”.

Ідэя стварэння новага перакладу Бібліі была і мэтай падзвіжніцкай навукова-асветніцкай дзейнасці Епіфанія Славінецкага. Але, на жаль, у 1665 г. пабачыла свет астрожскае выданне з дадатковымі праўкамі і каментарыямі паводле новага перакладу. У 1674 г. царкоўны сабор пры ўдзеле цара Аляксея Міхайлавіча даручае Епіфанію Славінецкаму, па благаславенні патрыярха Паўла Сарскага, на падставе грэчаскіх і славянскіх рукапісаў зрабіць новы пераклад Бібліі. Але Епіфаній здолеў толькі перакласці Новы Запавет і Пяцікніжжа, заўчасны адыход у іншы свет спыніў яго працу. Вынік напружаных і плённых пошукаў Епіфанія Славінецкага рознабаковы: у галіне тэорыі дакладнага перакладу, у складанні царкоўных і богаслужбовых кніг, упарадкаванні новых перакладаў і выпраўленні існуючых агіяграфічных твораў, стварэнні, напісанні і прамаўленні

казанняў, заснаванні тэарэтычнай і крытычнай школ у гамілетыцы.

У 1640 г. славуты рэфарматар сістэмы адукацыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай Пётр Магіла прапануе аказаць дапамогу аднапляменнаму расійскаму цару Міхаілу Фёдаравічу ў наладжванні сістэмы адукацыі, каб братчыкі з беларускіх і ўкраінскіх зямель "детей боярскихъ и простого сана людей грамоте греческой и словянской учили". Такім чынам, наступная хваля духоўнага Адраджэння прыпадае на эпоху дзейнасці св. мітрапаліта Пятра Магілы і яго паслядоўнікаў. І калі патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі Нікан вырашыў правесці выпраўленне багаслужбовых кніг, то духоўныя і свецкія ўлады Масковіі папрасілі накіраваць у суседнюю праваслаўную дзяржаву вучоных-манахаў з зямель ВКЛ. Па благаславенні мітрапаліта ад'язджаюць дзве групы перакладчыкаў, у складзе якіх былі Епіфаній Славінецкі (ён узначаліў грэка-лацінскую школу ў Чудавым манастыры) і славуты вучоны, паэт, драматург і гамілет Сімяон Полацкі (ён у 1665 г. узначаліў школу ў Заіконаспаскім манастыры), аўтар перакладнога польска-старабеларуска-царкоўнаславянскага слоўніка. Зазначым, што старабеларускі ўплыў на расійскую культуру быў настолькі моцны і лёг у падмурак сучаснай моўнай і рэлігійна-культурнай традыцыі, што некаторыя даследчыкі называюць яго III паўднёваславянскім і II беларускім уплывам. Нават у творах стараверскай паэзіі прысутнічаюць старабеларускія крыніцы лацінамоўнага паходжання [гл.: Белоусов Ф.А. Колыбельная из Причудья // Труды по русской и славянской филологии. Тарту, 1975.— Т.24.— С.265].

Завяршэнне фарміравання агіяграфічнага старабеларуска-га канона таксама адбывалася ў XVII ст., для дагматычных удакладненняў былі нават выпісаныя з Афонскай гары "Жыціі" Сімяона Метафраста. Пасля смерці падзвіжніка-мітрапаліта славуты старабеларускі пісьменнік і багаслоў Інакенцій Гізель (ліцвін-прус па паходжанні), архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры, узбагаціў старабеларускі звод артыкуламі з Чэцціяў-

Мінеяў мітрапаліта Макарыя, але ваеннае ліхалецце не дазволіла яму завяршыць гэтую святую справу. Гонар стварэння жыццій старабеларускай школы належыць "златавусту" XVII ст. на землях ВКЛ (свяцітель працаваў у храмах Слуцка, Вільні, Густынскім манастыры), знакамітаму прапаведніку і багаслову, паплечніку Лазара Барановіча, св. мітрапаліту Дзмітрыю Растоўскаму. Па сведчанні беларускага епіскапа Феадосія Васілевіча, менавіта пасля паломніцтва да Віленскай Адзігітрыі манах Дзмітрый адчуў сябе ў стане выканаць гэтую святую справу — складанне жыццій святых старабеларускага зводу.

У адпаведнасці з анталагічнымі поглядамі на сакральную (у тым ліку дзяржаўную) гісторыю сярэдневяковы чалавек бачыў прычыну грамадскіх бязладзіц і катаклізмаў ва ўласнай грахоўнасці і ў адыходзе ад запаведаных хрысціянскай традыцыяй духоўных асноў жыцця, таму і звяртаўся за дапамогай да Госпада, да Маці Божай, нябеснай хадайніцы і заступніцы за род хрысціянскі.

На канец XVI—XVII стагоддзе прыпадае росквіт гамілетычнай марыялогіі. У 1665 г. у Львове з'яўляецца кніга Іаанікія Галятоўскага "Новае неба з новымі зорамі" (1677, 1849, 1997), пазней убачылі свет брашура "Скарбніца пажытачная" таго ж аўтара, а таксама працы архімандрыта кіеўскага Пустэльна-Мікалаеўскага манастыра Антонія Радзівілаўскага "Сад Марыі Багародзіцы" (1676), "Вянец Хрыстовы" (1688). На працягу XVI—XVII стагоддзяў былі яўлены многія цудадзейныя іконы Божай Маці (Крупецкая, 1612 г., Рудзенская, 1689 г., Баркулабаўская, 1659 г., Сурдзегская, 1510 г., Беластоцкая, пач. XVII ст., Пажайская, 1662 г., Краснастоцкая, 1652 г.) для дапамогі і падтрымкі вернікаў, бо, згодна са словамі трапара на свята Успення, Багародзіца пры адыходзе сваім "міра не аставіла есі". Марыялагічнай тэме былі прысвечаны лепшыя гаміліі не толькі І.Галятоўскага, Л.Карповіча, Дз.Растоўскага, але і Л.Барановіча, І.Гізеля, К.Транквіліёна-Стаўравецкага, С.Полацкага, С.Яворскага, Г.Каніскага.

Менавіта зварот мітрапаліта Пятра Магілы, яго паплечнікаў і паслядоўнікаў да кірыла-мяфодзіеўскіх традыцый дазволіў адрадзіць духоўнае жыццё на землях ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Занядбанне кірыла-мяфодзіеўскіх традыцый, на якіх грунтавалася ўся старабеларуская культура як харызматычнай, так і схаластычнай арыентацый, у пазнейшыя часы прывяло да звужэння патэнцыяльных магчымасцей і сферы ўжывання новай беларускай літаратурнай мовы.

**Боянков П.В.**, *православный священник Свято-Духова кафедрального собора (Минск)*

## НА ПУТИ К ЦЕРКОВНОМУ БЕЛОРУССКОМУ ЯЗЫКУ

Проблемы перевода церковнославянских богослужебных текстов на современный белорусский язык в течение последних пяти лет приобрели особую актуальность, вызвали острую полемику. В ходе такой полемики весьма ярко проявились два взаимоисключающих подхода.

Первый из них: переводы с церковнославянского на белорусский не нужны и, более того, вредны, поскольку являются порождением определенной (возможно, временной) политической реальности, внешней по отношению к Церкви.

Второй и прямо противоположный первому: перевести все православное богослужение на белорусский язык спешно, повсеместно и чуть ли не принудительно именно в силу той же политической реальности.

Теперь, по прошествии времени, можно вполне однозначно утверждать: ни один из этих крайних подходов победы не одержал. В противовес этим крайностям в нашей Церкви проводится тщательная, кропотливая работа над переводом текстов Священного Писания, шлифуется богословская и богослужебная терминология, издается

религиозная литература на белорусском языке. При этом учитываются "прежде всего духовные интересы самых широких кругов православных верующих". Непродуманная поспешность в данном случае только повредила бы делу. Тем более, что "создавать богословские системы, развивать литургическое богословие, переводить богослужебные тексты невозможно, пока нет благословленного Церковью соборного перевода библейских текстов". Это весьма авторитетное утверждение митрополита Минского и Слуцкого Филарета трудно оспорить.

Реальная жизнь вносит свои коррективы в любые человеческие планы. В качестве примера можно рассмотреть динамику развития тиражей "Беларускага праваслаўнага календара", одним из составителей которого мне довелось быть (к слову, наш календарь удостоился в свое время высокой оценки писателя и переводчика Анатоля Клышки, который назвал его "маленькай праваслаўнай энцыклапедыяй"). В 1994 году календарь был напечатан в количестве 10 тыс. экз., в 1995 — 1 тыс., в 1996 — 2 тыс., в 1997 — 500 экз. Для сравнения: ежемесячная газета "Царкоўнае слова", выходящая на белорусском и русском языках, имеет устойчивый тираж в 15 тыс. экз. при 12 тыс. подписчиках. Так своеобразно, но отчетливо проявляются "духовные интересы широких кругов православных верующих".

И поэтому все мыслимые и немыслимые обвинения нашей Церкви в "русификаторстве" не имеют под собой никакой почвы. Более того, исходя из своего личного опыта, берусь утверждать: чем больше тех или иных претензий высказывает кто-то по отношению к православной церкви, тем больше он отстоит от этой церкви в своей повседневной жизни, тем меньше способен разобраться в ее духовных проблемах.

Например, Леонид Лыч утверждает, что на Белосточчине церковь "правіць службу на рускай мове". Означает ли это, что польская автокефальная православная церковь по непонятным нам причинам также заинтересована в пресловутом "русификаторстве", проводя богослужения на

церковнославянском (конечно, не на русском!) языке? По нашему же мнению, все дело — в свободной воле самих православных прихожан, и ее, эту волю, следует уважать.

С учетом всех изложенных выше соображений рассмотрим основные требования, которым должны были бы отвечать переводы с церковнославянского на белорусский язык.

Об одном из важных аспектов недавно высказал свое суждение митрополит Минский и Слуцкий Филарет: "У всякого языка есть, как известно, несколько планов: есть житейский план — естественных потребностей; есть близкий к нему и все же отличимый — душевных чувств и страстей; есть язык политики, философии, поэзии и, наконец, наиболее возвышенный стиль — в языке Божественного откровения, молитвы, богословия. Его называют в Церкви языком литургическим. Его назначение — запечатлевать в умах и сердцах молящихся присутствие иного, высшего мира. Заменить этот язык повседневным — значит неизбежно снизить духовный уровень богослужения". Вывод: переводимый текст не должен терять глубины, а тем более искажаться. В уже упоминавшемся "Беларускім праваслаўным календары" мы пришли таким путем от "Ператварэння" к "Праабражэнню", от "Дабравешчання" к "Благавешчанню" и т.д.

Так ли уж следует бояться насыщения белорусского языка церковнославянскими терминами в случае отсутствия в нем их аналогов? Здесь уместно процитировать совместное заявление Патриаршей Синодальной, Белорусской и Северо-Западной библейских комиссий: "Церковнославянская Библия представляет для восточных славян одну из величайших церковно-исторических и национально-культурных ценностей, принадлежащих не только прошлому, но и также настоящему и будущему. Поэтому в Русской Православной Церкви при любой работе по совершенствованию уже существующих и по созданию новых восточнославянских библейских текстов следует использовать церковнославянский библейский перевод". И далее: "В Русской Православной Церкви нет никаких

оснований для того, чтобы прервать восточнославянские библейские традиции". Язык святых Мефодия и Кирилла для нас не иностранный и нам не чужой. Вот мнение членов Белорусской библейской комиссии: "Як сведчаць біблеісты і славісты розных краін, царкоўнаславянскі пераклад найлепш адпавядае духоўнасці грэчаскага арыгінала".

Необходимо учитывать и здоровую консервативность церковной среды. Когда священник или диакон прочитывают поминальные записки, то видят там всевозможные варианты имен: уменьшительные, ласкательные, простонародные, но произносят их всегда по-церковнославянски ("Імёны ... царкоўнаславянскай формы, прывычнай для ўсіх пакаленняў праваслаўных беларусаў"). Следовательно, нужно максимально приблизить белорусское произношение имен к церковнославянскому (см. например "Звод імёнаў святых" в нашем календаре). И хотя в свое время голоса членов Белорусской библейской комиссии разделились, тем не менее возобладало следующее мнение: "Імя Госпада нашага — Іісус — дадзена з падвойным "і", у дакладнай адпаведнасці з грэчаскім арыгіналам Евангелля, яго царкоўнаславянскім перакладам і шматвекавым традыцыйным ужываннем у малітвах праваслаўных вернікаў". Последний аргумент, несомненно, следует отнести и к названиям чудотворных и чтимых икон Божией Матери ("Неопалимая Купина", "Всех Скорбящих радость" и т.д.).

Только руководствуясь этими основными ориентирами, можно достичь конечной цели всех переводов с церковнославянского на белорусский язык: создания церковного белорусского языка. И в этих словах нет преувеличения. Не случайно Белорусская библейская комиссия была вынуждена отметить "адсутнасць у беларускай мове дастаткова распрацаванага высокага стылю, неабходнага для перадачы літургійных тэкстаў і багаслоўскай тэрміналогіі". Эту же мысль высказывал и митрополит Филарет: "Главная цель ... перевода — это соборное вырабатывание литургического стиля белорусского языка".

А это значит, что поверхностное и конъюнктурное отношение к указанной проблематике абсолютно недопустимо. Будем же помнить слова апостола Павла: "Так если и вы языком произносите невразумительные слова, то как узнают, что вы говорите? Вы будете говорить на ветер" (I Кор. 14:9).

**Кулажанка Л.Я.,** *канд. гіст. навук, сябра Брацтва трох віленскіх мучанікаў*

## АСВЕТНІЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ ПРАВАСЛАЎНЫХ БРАЦТВАЎ: ТРАДЫЦЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Прыкметную з'яву сённяшняга жыцця ўяўляюць адраджэнне і дзейнасць праваслаўных царкоўных брацтваў на Беларусі. Некаторыя з іх, як, напрыклад, праваслаўнае Брацтва трох віленскіх мучанікаў пры Петра-Паўлаўскім саборы г.Мінска, імкнуцца да пераемнасці гістарычных традыцый брацкага руху XVI—сярэдзіны XVII стст., аднаўляюць выпрабаваныя жыццём формы і напрамкі дзейнасці. Зварот да гістарычных традыцый тлумачыцца, відавочна, не толькі суб'ектыўнымі (жаданне праваслаўнай інтэлігенцыі вывучаць і засвойваць шматгранны вопыт праваслаўнай царквы на Беларусі), але і аб'ектыўнымі прычынамі. Нягледзячы на часавую аддаленасць, можна ўгледзець пэўныя гістарычныя аналогіі ў грамадска-культурнай сітуацыі канца XVI—сярэдзіны XVII ст. з сучаснай. Перш за ўсё падабенства выяўляецца ў высокай ступені абвостранасці праблемы выбару паміж Усходам і Захадам, што мела і мае лёсавызначальнае значэнне.

Вядома, што праваслаўныя брацтвы як рэлігійна-дабрачынныя і культурна-асветныя аб'яднанні гарадскога насельніцтва беларускіх і ўкраінскіх земляў Вялікага княства Літоўскага найбольш плённа праявілі сябе ў арганізацыі школьніцтва і кнігадрукавання. Асветная дзейнасць брацтваў разгортвалася ў экстрэмальных умовах і была адказам на тую

ідэалагічную вайну, якую фактычна праводзілі тут езуіты і іншыя прыхільнікі лацінства і уніі ў 2-й палове XVI—XVII стст. Сродкі гэтай барацьбы прапанавалі самі езуіты. Гэта дыспуты, палемічная літаратура, адукацыя; а пазней і гвалтоўныя дзеянні (цэнзура, чыстка бібліятэк, знішчэнне "ерэтычных" кніг).

У такіх умовах дзейнасць брацтваў была накіравана найперш на падняцце адукацыйнага і культурнага ўзроўняў гарадскога насельніцтва, мяшчанства, якое і складала пераважную колькасць братчыкаў.

Прычым задача была няпростая, бо брацкае школьніцтва ўзнікла і развівалася ў той час, калі на беларускіх землях усталёўвалася езуіцкая сістэма адукацыі. Таму брацкія школы, якія ўзнікалі спачатку як "школы для вывучэння Свяшчэннага Пісання і духоўнага выхавання", паступова эвалюцыянавалі да навучання на аснове заходнееўрапейскай сістэмы "сямі вызваленых навук". Акрамя духоўных дысцыплін (Свяшчэннае Пісанне, царкоўны статут, пасхалія, літургіка), праграмы ўключалі граматыку, логіку, рыторыку, геаграфію, арыфметыку, астраномію і музыку.

Галоўнае месца ў праграмах брацкіх школ займала славянская мова. У школьным статуце гаварылася: "Научивши учеников складывать литеры, обучать их церковному пению и вместе грамматике; затем приступать к риторике и диалектике, которые должны быть переведены на язык славянский". Гэта была мова выкладання, на ёй праводзіліся школьныя дыспуты, ставіліся школьныя спектаклі. Акрамя таго, вывучаліся мовы: грэчаская, старабеларуская (у некаторых школах), лацінская і польская (у некаторых школах).

Акрамя моў, вялікая ўвага надавалася дыялектыцы і логіцы. Спачатку ў большасці школ дыялектыку вывучалі па творах вядомага філосафа і багаслова усходняй царквы Іаана Дамаскіна, пазней — па лацінскіх дапаможніках, перакладзеных на старабеларускую мову. Выкарыстоўваўся і "сучасны" пераклад І.Дамаскіна князем Курбскім. У курсе рыторыкі вывучалі паэтыку і гамілетыку (мастацтва пропаведзі). Гэтыя

дысцыпліны павінны былі падрыхтаваць да дыскусій, глыбокага аналізу рэлігійнай і свецкай літаратуры. На занятках па піітыцы падрабязна разглядаліся жанры літаратурных твораў, засвойваліся асновы вершаскладання. Вучні пісалі вершы да розных важных падзей, царкоўных свят, віншаванні і прысвячэнні.

Значная ўвага надавалася музыцы і спевам. Кожная школа мела свой шматгалосы хор, а некаторыя з іх — і свой школьны тэатр. Вядома, напрыклад, што ў брацкіх школьных тэатрах ставіліся "дыялогі" вядомага дзеяча ўсходнеславянскай культуры іераманаха Памвы Бярынды.

Як адзначаюць даследчыкі, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, праваслаўныя брацкія школы давалі высокі па тым часе ўзровень адукацыі, адрозніваліся дэмакратычнымі (у параўнанні з езуіцкімі), гуманнымі і прагрэсіўнымі метадамі навучання. Высокі ўзровень адукацыі тлумачыўся і складам настаўнікаў, сярод якіх былі Кірыл Транквіліён, Лаўрэнцій і Стэфан Зізаніі, Мялецій Сматрыцкі, Лявонцій Карповіч, Іоў Барэцкі, Сільвестр Косаў, Спірыдон Собаль. Высокую ацэнку брацкім школам даў на Варшаўскім сейме 1620 г. дэпутат Л.Дрэвінскі, які зазначыў, што толькі дзякуючы такім школам было адкрыта шмат годных людзей і праваслаўнае навучанне пазбавілася "пыли нерадения".

Другім важнейшым напрамкам дзейнасці праваслаўных брацтваў была падрыхтоўка вучоных-багасловаў, мысліцеляў, пісьменнікаў, якія на роўных змаглі б уступіць у палеміку з езуітамі наконт адстойвання каштоўнасцей і чысціні праваслаўя. Нягледзячы на заключэнне царкоўнай уніі 1596 г., значная частка адукаваных людзей грамадства выступіла ў абарону веры, якая была адначасова і сімвалам народнасці, нацыянальнай саматоеснасці. Брацтвы забяспечвалі атрыманне першай ступені адукацыі (брацкія школы) і спрыялі ўдасканальванню ведаў у такіх установах, як Кіева-Магілянская калегія (з 1701 г. акадэмія), ці ў заходнееўрапейскіх універсітэтах. З брацкіх школ выйшлі "шматлікія буйныя дзеячы асветы, складальнікі

дапаможнікаў для школ, аўтары палемічных твораў супраць уніі і трактатаў па багаслоўі, царкоўнай пропаведзі, перакладчыкі і праўшчыкі кніг", як адзначыў С.Падокшын.

Мысліцелі, пісьменнікі-палемісты, звязаныя з брацкім рухам, належалі да розных плыняў рэлігійна-філасофскай думкі XVI—XVII стст. Да захавальна-кансерватыўнага напрамку схіляліся, напрыклад, Афанасій Філіповіч, Стэфан Зізаній, Лявонцій Карповіч, хоць і яны, як высокаадукаваныя людзі, зразумела, не маглі цалкам адмаўляць заходнія навуку, філасофію, культуру. У рэнесансава-гуманістычным напрамку праходзіла дзейнасць Лаўрэнція Зізанія, аўтара "Азбукі", "Граматыкі славенскай", "Вялікага Катэхізіса" і інш. Ён падзяляў погляды асветніцкага гуртка Кіева-Пячэрскай лаўры, сябрам якога з`яўляўся. Кіраўнік гуртка архімандрыт Елісей Плецянецкі, удзельнікі Памва Бярында, Іоў Барэцкі, Тарасій Зёмка не адмаўлялі раўнапраўнага дыялогу з Захадам, выказваліся за рацыянальнае выкарыстанне заходняга і ўсходняга вопытаў. На думку С.Падокшына, гэта быў "трэці шлях", які працягваў традыцыю Ф.Скарыны і мог бы замацаваць духоўнае і дзяржаўна-культурнае адраджэнне ВКЛ.

Нягледзячы на розніцу ў разуменні праблемы "Усход—Захад", праваслаўныя мысліцелі былі адзіныя ў патрыятычным імкненні адстаяць сваю традыцыйную веру, з якой былі звязаны шматвяковая духоўная спадчына і багатая культура.

Таму яшчэ адной патрыятычнай задачай брацтваў было захаванне славянскага пісьменства, кірылічнага друку, усёй усходнеславянскай культурнай традыцыі. Дзякуючы высокаадукаванаму асяроддзю брацтваў, Заходняя Русь (беларускія і ўкраінскія землі) у канцы XVI—пач. XVII ст. становіцца цэнтрам развіцця царкоўнаславянскага пісьменства. У гэты час царкоўнаславянская мова панавала ў брацкай адукацыі і кнігадрукаванні, яна стала сродкам абароны праваслаўнай веры і этнічнай свядомасці беларусаў і ўкраінцаў.

Росквіт філалагічнай думкі канца XVI ст. увянчаўся стварэннем навукова абгрунтаванай лінгвістычнай сістэмы

царкоўнаславянскай мовы, выданнем дапаможнікаў для вучняў брацкіх школ ("Грамматіка словенска" Л.Зізанія, "Грамматіки славенския" М.Сматрыцкага і інш.). Дзякуючы гэтаму царкоўнаславянская мова стала мовай культуры і навукі нароўні з лацінскай і грэчаскай.

Той жа задачы духоўнага і культурнага асветніцтва была падпарадкавана і выдавецкая дзейнасць брацтваў. Брацкія друкарні найбольшую ўвагу ўдзялялі літургіцы, статутам і дагматычнаму багаслоўю (33 выданні); Новаму Запавету і Евангеллю (7); творам старажытных пісьменнікаў (11); белетрыстыцы, палемічнай літаратуры, панегірыкам (8); падручнікам (12); выданням, якія выкарыстоўваліся ў літургіі і школьнай справе (16) [гл. аб гэтым, напр.: Исаевич Я.Д. Роль братств в издании и распространении книг на Украине и в Белоруссии (конец XVI—XVII вв.) // Книга и графика.— М., 1972]. Масавымі тыражамі выходзілі школьныя дапаможнікі і падручнікі. З 1591 г. да 1654 г. беларускія друкарні выпусцілі 16 буквароў, у т.л. 8 брацкіх, што складала больш за палову ўсіх падобных выданняў, выдадзеных за гэты ж час на ўсходнеславянскіх землях. Прычым вялася праца па ўдасканальванні буквароў у адпаведнасці з патрэбамі школы.

У той час, калі афіцыйная палітыка Рэчы Паспалітай была накіравана на звужэнне сферы ўжытку старабеларускай мовы (напрыклад, у Вільні беларуская і царкоўнаславянская мовы былі забаронены фактычна ўжо ў 1664 г.), толькі брацкія друкарні і друкарня Мамонічаў шырока выкарыстоўвалі беларускую мову ў сваіх выданнях. Па падліках Г.Я.Галенчанкі, такія выданні складалі 22% ад усёй прадукцыі, а калі ўлічыць выданні з фрагментамі, прадмовамі і пасляслоўямі на беларускай мове, то разам яны складуць 53% ад усіх брацкіх выданняў. Як бачым, у той час у брацкім кнігадрукаванні была вырашана праблема гарманічнага суіснавання царкоўнаславянскай і беларускай моў.

Такім чынам, брацкія друкарні, працуючы ў неспрыяльных умовах, рабілі ўсё магчымае, каб задаволіць патрэбу беларускага

і ўкраінскага насельніцтва ў “рускай кнізе”, абараніць грамадскае значэнне кірылічнага друку, адстаяць духоўныя і культурныя традыцыі беларускай і ўсёй усходнеславянскай культуры. Аднак трэба пагадзіцца, што вытрымаць канкурэнцыю езуіцкіх і іншых каталіцкіх друкарняў у тых умовах было немагчыма. Да сярэдзіны XVII ст. езуіты выпусцілі 600 найменняў кніг, брацкіх жа выданняў дайшло да нашага часу 112 (невядома, колькі кніг было знішчана езуітамі падчас чыстак бібліятэк і спальвання “ерэтычных” выданняў). Да сярэдзіны XVII ст. у існаваўшых тады ўмовах брацкае кнігадрукаванне вычарпала свае магчымасці, у 2-й палове стагоддзя працавала толькі друкарня магілёўскага Богаяўленскага брацтва. Гэтым закончыўся “залаты век” старабеларускай пісьменнасці і культуры.

Выдавецкая дзейнасць сучасных брацтваў выглядае больш сціплай. Але мэта застаецца ранейшай: асветніцтва, імкненне дапамагчы інтэлігенцыі, усяму народу падняцца з духоўнага заняпаду, усвядоміць сябе народам хрысціянскім. Паколькі сапраўднае духоўнае адраджэнне чалавека можа адбывацца толькі праз далучэнне да рэальнага царкоўнага вопыту, Брацтва трох віленскіх мучанікаў пачало сваю выдавецкую справу з выдання беларускіх праваслаўных календароў. Яны “найперш скіраваны на асабісты духоўны шлях чалавека: удзельнічаць супольна з царкоўным народам у выратавальнай Тайне Хрыста, у Пасхальнай Тайне праз перажыванне ўсяго літургічнага года”,— гаварылася ў прадмове да календара на 1994 год.

Выданне часопіса “Праваслаўе ў Беларусі і ў свеце” (з 1996 г.—”Праваслаўе”) заснавана для ажыццяўлення асноўнай мэты Брацтва — лучыць беларускую нацыянальную традыцыю з дабрадатнай і жыццятворчай праўдай праваслаўнай веры. Адсюль і асноўныя рубрыкі: Багаслоўе; Рэлігійная думка; Царкоўная гісторыя; Духоўная спадчына; Архівы і дакументы; Пераклады; Духоўная паэзія і інш. З часопісам супрацоўнічаюць вядомыя багасловы сучаснасці, гісторыкі, мастацтвазнаўцы, літаратары Беларусі, Польшчы, Расіі, прадстаўнікі Беларускай праваслаўнай царквы ў эміграцыі.

У хрысціянскім самаўсведамленні народа значную ролю іграе веданне сваёй царкоўнай гісторыі. Таму Брацтва ажыццявіла такія выданні, як: Шэйкін Г.М. Полацкая епархія (1996); Шэйкін Г.М. Мінская епархія// Беларускі праваслаўны каляндар на 1997 г.; Цэрквы і прыходы Мінска (1996).

Бюлетэнь праваслаўнай службы навін "Ортапрэс" праз жывую аператыўную інфармацыю даводзіць нам, што праваслаўе — гэта не толькі каштоўнасць мінулага, яго мэтай з`яўляецца асвятленне сённяшняга разнастайнага і насычанага жыцця праваслаўнай царквы ва ўсім свеце, каб чытачы суперажывалі падзеі ў памесных цэрквах.

Асветніцкая дзейнасць Брацтва ажыццяўляецца па шмат якіх іншых напрамках: гэта традыцыйныя сустрэчы і "круглыя сталы" з творчай інтэлігенцыяй, удзел у Біблійнай камісіі Экзархата па перакладзе Новага Запавета на беларускую мову, арганізацыя навукова-практычных семінараў па праблемах праваслаўнай адукацыі, катэхізацыі і рэлігійнага выхавання, міжнароднага навукова-практычнага семінара "Спадчына святых братоў Кірыла і Мяфодзія і славянскія мовы" (1994), стварэнне лабараторыі царкоўнай гісторыі, правядзенне традыцыйных дзён праваслаўнай моладзі і інш.

Улічваючы гістарычны вопыт, ахвярнасць і патрыятызм нашых папярэднікаў, хочацца спадзявацца на больш плённае супрацоўніцтва з інтэлігенцыяй, бо без нашага асабістага духоўнага абнаўлення, без подзвігу веры не надыдзе духоўнае адраджэнне народа, нашай Бацькаўшчыны.

**Ляскоў А.Я.,** *аспірант, Беларускі дзяржаўны універсітэт*

# ВЫДАННЕ ПРАВАВЫХ АКТАЎ НА БЕЛАРУСІ Ў XVI СТАГОДДЗІ

Калі мы гаворым аб спадчыне святых братоў Кірыла і Мяфодзія, мы маем на ўвазе пачатак нашай беларускай культуры, што грунтуецца на хрысціянскіх традыцыях. Дзейнасць братоў-асветнікаў сталася імпульсам для развіцця славянскіх народаў па непаўторных самабытных пуцявінах. Блізкія паміж сабою культуры ўзаемадзейнічалі ды ўзбагачалі адна адну, але кожная з іх паасобку мае надзвычайную вартасць як феномен духоўнай творчасці этнасу.

Спадчына Кірыла і Мяфодзія на Беларусі мае універсальнае значэнне. Яна праявілася ў розных сферах народнага жыцця, у тым ліку ў праватворчасці і выданні прававых актаў. Найлепшым прыкладам тут з'яўляецца XVI ст., якое нездарма называюць залатым векам развіцця беларускай культуры і дзяржаўнасці. Менавіта ў гэты час былі створаны статуты і Трыбунал Вялікага княства Літоўскага. Названыя прававыя акты ёсць частка культуры эпохі Адраджэння, яны ўзніклі пад уплывам рэнесансава-гуманістычнай філасофскай і грамадска-палітычнай думкі.

Першы Статут рыхтаваўся на працягу некалькіх гадоў у першай чвэрці XVI ст. Праект Статута быў гатовы да 1522 года, але ён не быў зацверджаны і ўдасканальваўся. Першы Статут Вялікага княства Літоўскага быў уведзены ў дзеянне толькі 29 верасня 1529 г. Пакуль што навукоўцы не могуць дакладна вызначыць, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы гэтага прававога дакумента. Цікавую думку аб удзеле ў рабоце па складанні Статута 1529 года беларускага першадрукара Францыска Скарыны выказвае прафесар І.А.Юхо. Ён, у прыватнасці, адзначае: “Францыск Скарына меў ступень доктара

медыцыны і доктара свабодных навук, у тым ліку і доктара права, а значыць, меў самую высокую для таго часу юрыдычную адукацыю, і вельмі верагодна, што ён удзельнічаў у падрыхтоўцы праекта Статута. З работ, якія апублікаваў Скарына, відаць, што ён ведаў мясцовае звычаёвае беларускае права і права іншых дзяржаў. Супастаўляючы некаторыя нормы Статута з прававымі поглядамі Скарыны, можна сказаць, што шмат ідэй, выказаных ім, былі скарыстаны ў Статуце, што дае падставу меркаваць аб удзеле Скарыны ў падрыхтоўцы праекта Статута. Гэтае меркаванне пацвярджаецца яшчэ і тым, што ўрад меў намер выдаць Статут друкарскім спосабам".

Трэба адзначыць таксама, што пры распрацоўцы Статута ўпершыню былі вырашаны досыць складаныя тэарэтычныя і практычныя пытанні. Падобных сістэматызаваных збораў мясцовых законаў (а грунтаваўся Статут пераважна на звычаёвым праве беларускіх земляў) не было ні ў адной з еўрапейскіх дзяржаў.

Статут 1529 г. быў напісаны на старабеларускай мове і дае магчымасць паўней вывучыць літаратурны стыль, лексіку і лад дзяржаўна-прававой тэрміналогіі таго часу.

Наступным крокам па ўдасканаленні права ў Вялікім княстве Літоўскім стала стварэнне ў 1551 г. камісіі па абнаўленні заканадаўства. Першапачаткова меркавалася, што яна будзе складацца з 10 чалавек: 5 каталікоў і 5 праваслаўных, але з пэўнасцю сцвярджаць, які быў склад камісіі, на сённяшні дзень немагчыма. У Бельскім прывілеі 1564 г. сказана, што ў камісію ўваходзілі таксама іншыя асобы: "... Обраны на то были через них же самых и с посродку тых же станов особы певные, рады наши, маршалкове, врядники земские, хоружие и иные особы ряду и народу шляхетского и доктори прав чужоземских".

Вынікам дзейнасці камісіі па ўдасканаленні заканадаўства стала падрыхтоўка праекта другога Статута Вялікага княства Літоўскага, што быў канчаткова ўхвалены на Бельскім сойме 1564 г. Планавалася ўвесці новы Статут у дзеянне з 11 лістапада

1564 г., але справа зацягнулася, і ён пачаў дзейнічаць з 1 сакавіка 1566 г.

Як адзначае прафесар І.А.Юхо, да найбольш важных нормаў, выкладзеных у Статуце, належаць нормы дзяржаўнага права, што вызначылі склад тэрыторыі дзяржавы, парадак утварэння і дзейнасць дзяржаўных органаў, правы і прывілеі пануючага класа. Беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай на ўсёй тэрыторыі Княства.

Найбольш знаным і важным прызнаецца трэці Статут Вялікага княства Літоўскага. Ён у адрозненне ад папярэдніх актаў рыхтаваўся ў прынцыпова новых грамадска-палітычных умовах, што вызначаліся заключэннем у 1569 годзе Люблінскай уніі паміж Беларуска-Літоўскім гаспадарствам ды Каронай Польскай. Патрыятычна настроеная беларуская шляхта імкнулася ігнараваць акт Люблінскай уніі і, па магчымасці, юрыдычна пацвердзіць суверэнітэт Вялікага княства Літоўскага. Вырашыць гэтую задачу можна было праз распрацоўку новага Статута, праект якога быў падрыхтаваны да канца 1584 г. Але Польшча не згаджалася на яго зацвярджэнне на агульным сойме Рэчы Паспалітай. Таму Жыгімонт III зацвердзіў Статут прывілеем 28 студзеня 1588 г.

Важна адзначыць надзвычай высокі тэарэтычны ўзровень падрыхтоўкі Статута, які распрацоўваўся пад кіраўніцтвам канцлера Вялікага княства Літоўскага Астафея Валовіча і падканцлера Льва Сапегі. Статут увабраў у сябе нормы дзяржаўнага, адміністрацыйнага, ваеннага, судова-працэсуальнага, шлюбна-сямейнага і апякунскага, спадчыннага, зямельнага, ляснога і паляўнічага, крымінальнага права.

Выданне Статута было ўпрыгожанае партрэтам Жыгімонта III Вазы, а таксама выявай герба Л.Сапегі ды панегірыкам да яго, які напісаў беларускі паэт Андрэй Рымша. Прадмовы Льва Сапегі да Статута 1588 г. складаюць скарб не толькі беларускай прававой думкі, але і нашага прыгожага пісьменства. Даследчык М.Шкялёнак піша з гэтае нагоды: "Працай над Статутам Сапега выказаў не толькі вялікую здольнасць і веданне

права, але і вялікі пісьменніцкі і красамоўніцкі талент. У апошніх пераконваюць прысвячэнне Статута гаспадару Жыгімонту III, змешчанае на пачатку Статута, і прадмова Сапегі ў Сойме, надрукаваная ў тым жа Статуце. У абедзвюх гэтых працах Сапега выказаў шмат гэткіх высокіх думак, якія адпавядалі толькі XVIII і XIX стст.".

Статут 1588 г. быў напісаны на беларускай мове, і яго аснову склала беларуская прававая лексіка. Мовою Статута ганарыліся яго сучаснікі, пра што Леў Сапега пісаў наступным чынам: "Так кождый обыватель годен ест наганенья, который вольностью се фалить и прав своих умети и розумети не хочеть, которым правом усю вольность свою обварованую маеть. А если которому народу встыд прав своих не имети, поготовю нам, которые необчым яким языком, але своим власным права списаные маем и кождого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем".

Даследчыкі бачаць галоўнае значэнне дзяржаўна-прававых нормаў Статута 1588 г. у тым, што ён заканадаўча аформіў захаванне Вялікага княства Літоўскага як дзяржавы насуперак акту Люблінскай уніі. Больш за тое, на думку І.В.Саверчанкі, Леў Сапега стварыў па сутнасці новую канцэпцыю незалежнае беларускае дзяржавы.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. быў надрукаваны ў Вільні ў друкарні Мамонічаў. Гэтая друкарня лічылася прывілеяванай, што тлумачылася палітычным кампрамісам выдаўцоў з урадам і каталіцкай царквой. Друкарня братоў Мамонічаў выпусціла першыя ў беларускім кнігадрукаванні кірылічныя выданні прававога характару: "Трыбунал Вялікага княства Літоўскага" (1586) і "Статут Вялікага княства Літоўскага" (1588).

Як адзначае даследчык І.В.Саверчанка, "Статут 1588 г. дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі аж да 1840 г., нават пасля ліквідацыі Княства, і адыграў выключную ролю ў захаванні беларускага народа. Дзякуючы яму беларусы яшчэ ў XVIII ст. не зніклі з гістарычнай арэны і цяпер крочаць наперад па шляху цывілізацыі побач з іншымі народамі свету".

**Станкевіч Л.І.,** *галоўны бібліёграф аддзела рукапісаў, рэдкіх выданняў і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*

# СЛАВЯНСКІЯ РУКАПІСНЫЯ КНІГІ Ў НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ БЕЛАРУСІ

(новыя паступленні 1987—1997 гг.)

На працягу апошняга дзесяцігоддзя аддзел рукапісаў, рэдкіх выданняў і старадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі набыў 48 адзінак цікавых і значных помнікаў славянскай рукапіснай кніжнасці.

Шляхі, якімі рукапісы трапілі ў аддзел, розныя: гэта і дары, і набыццё ў букіністычных крамах, і паступленні ў выніку экспедыцыйнай працы супрацоўнікаў аддзела, і вынік прагляду фондаў дарэвалюцыйнага друку ў самой Нацыянальнай бібліятэцы. Але асноўны шлях, які асабліва ўзмацніўся ў апошні час,— гэта купля ў калекцыянераў ці прыватных уладальнікаў асобных рарытэтаў.

Па часе напісання паступіўшыя рукапісы ахопліваюць перыяд з XVII ст. да канца XIX—пачатку XX ст. Найбольш ранні рукапіс датуецца 1-й трацінай XVII ст. У храналагічным аспекце расклад такі: XVII ст.— 4 адз., XVIII ст.— 6 адз., XIX ст.— 17 адз, кан. XIX—пач. XX ст.— 10 адз., пач. XX ст.— 11 адз.

Большасць помнікаў даўніны стараверскага паходжання. Рукапісы вельмі разнастайныя і па змесце, і па тэматыцы. Каштоўным крыніцазнаўчым матэрыялам з'яўляюцца стараверскія зборнікі мяшанага зместу, у асноўным літаратурна-павучальнага характару. У розным спалучэнні яны змяшчаюць словы, сказанні, павучэнні, аповесці, жыціі, выпіскі са стараверскіх сачыненняў (Пралога, Патэрыка Скіцкага, Кормчай і інш.), а таксама набажэнскія тэксты. Усяго зборнікаў — 7 адзінак.

Адзін з найбольш папулярных у стараруcкай пісьменнасці зборнік "Ізмарагд" (№ 091/220) паступіў у аўтарскім спісе 1715 года, "списан" быў, як сведчыць запіс у рукапісе, "священоиеромонахом Матфеем Андреевым". Акрамя павучальнага і паэтычнага матэрыялу для пазацаркоўнага чытання, у пачатку рукапісу маецца змястоўная аўтарская прадмова перапісчыка — зварот да чытача: "Благочестивому и в писаниях люботщательному всякого чина православному читателю". Напісаны дробным паўуставам, каліграфічным почыркам, прыгожа арнаментаваны ў гусліцкім стылі, мае шмат чытацкіх памет на палях у выглядзе "зри здесь".

У спісе XVIII ст. набыты "Торжественник" — адзін са старажытнарускіх каляндарных зборнікаў устаўных чытанняў, таксама папулярны помнік рускай літаратуры XIV—XVII стст. (№ 091/214К). "Торжественник", як мяркуецца, мінейны, змяшчае чытанні на асноўныя святы праваслаўнай царквы з верасня па жнівень; памерам у вялікі ліст (32х19,5) і значнага аб`ёму (423 арк.), мае багатае кніжнае афармленне.

Асобнай рукапіснай кнігай паступілі ў збор "Павучэнні" айца царквы Ісаака Сірына (№ 11Рк418К). Змешчаны тэксты ўсіх вядомых у славянскім перакладзе 91 павучэння. Спіс зроблены некалькімі почыркамі, датуецца апошняй трацінай XIX—пач. XX ст. На палях выкананы шматлікія маргіналіі пісцоў.

Два невялікія па аб'ёме рукапісы без назвы змяшчаюць выпіскі аб веры са стараверскіх палемічных сачыненняў: сутнасць хрысціянства, стварэнне свету, нараджэнне антыхрыста і г.д. (№ 11Рк475, 11Рк476). Дадаткова ў першым з іх ёсць яшчэ трапары пакутнікам Кірыку і яго маці Уліце, свяціцелю Мядосце (?), святому Паісію. Другі змяшчае чын паніхіды, сціхіру над памерлым і, што вельмі цікава, невялікі памінальнік. Такім жа па тэматыцы з'яўляецца стараверскі зборнік пытанняў і адказаў "Апология причащения" (№ 11Рк421, 1910-я гг., шклографічная копія). Сярод тэкстаў знаходзіцца духоўны верш, які пачынаецца словамі: "Кто в блесках молнии

нисходит...”. Жыціі святых заўсёды карысталіся асаблівай папулярнасцю ў славянскай кніжнасці. Акрамя жыційных твораў, змешчаных у зборніках мяшанага зместу, набытыя асобным рукапісам у спісе сярэдзіны XVII ст. выдатныя помнікі рускай агіяграфіі канца XVI—пач. XVII ст. “Житие Филиппа митрополита (Колычева)” і “Житие Германа Соловецкого” (“Повесть о блаженном старце Германе”, № 11Рк460). Спісы “Жития Германа Соловецкого” вядомы не раней сярэдзіны XVII ст. Паступіўшы спіс таксама датуецца сярэдзінай XVII ст., таму, магчыма, ён з найбольш ранейшых. “Житие Филиппа митрополита (Колычева)” дайшло ў дзвюх рэдакцыях — Колычаўскай і Тулупаўскай. Першая найбольш рэдкая. Даследаваць, якой рэдакцыі дадзены спіс,— задача спецыялістаў. У спісе 2-й пал. XVIII ст. набыты зборнік “Пролог” (№ 11Рк478), дзе змешчаны ў кароткай форме перакладныя жыціі святых грэчаскай праваслаўнай царквы, дні памяці якіх святкуюцца ў верасні—лістападзе.

З рукапісаў гістарычнага зместу прыдбаны “Летописец келейный” царкоўнага дзеяча і духоўнага пісьменніка Дзмітрыя Растоўскага (№ 11Рк428К). Згодна запісам перапісчыка, спіс датуецца 1774 г. Змяшчае рукапіс таксама Завяшчанне св. Дз. Растоўскага і Яраслаўскага, малітву Дз. Растоўскага на зыход душы сваёй і яго жыццяпіс. Наяўнасць гэтых тэкстаў надае асаблівую каштоўнасць рукапісу.

Найбольшую колькасць паступленняў склалі царкоўна-службовыя рукапісы, сярод якіх пакажам Чатырох’евангелле (№ 11Рк463), Псалтыр (№ 11Рк484) і Псалтыр з наследаваннем (№ 11Рк424), чатыры канонікі (№ 091/219, 091/244, 11Рк365, 11Рк466), Мінея агульная (№ 091/242), Літургія Іаана Златавуста і Літургія Васіля Вялікага (№ 11Рк423), асобныя чыны з Трэбніка малага (№ 11Рк475) — усе спісы канца XIX—пач. XX ст.

Сярод набажэнскіх рукапісаў 22 адзінкі склалі пеўчыя рукапісныя кнігі, музычны змест якіх перададзены безлінейнай (крукавай) натацыяй, характэрнай толькі для славянскага

музычнага мастацтва. Адзін з пеўчых рукапісаў — Актоіх XVIII ст. (№ 091/213) — мае пяцілінейную квадратную натацыю. Круг царкоўнага спявання амаль цалкам адлюстраваны ў складзе паступіўшых пеўчых помнікаў. Прадстаўлены наступныя тыпы пеўчых кніг: зборнікі пастаяннага складу — Ірмалагіён (7 спісаў), Актоіх (4 спісы); больш складаныя па змесце і неаднастайныя Абіходы (3 спісы); па адным спісе "Праздники", Трыёдзь каляровая, Абедніца (Літургія Іаана Златавуста), Азбука пеўчая, Трэбнік малы, Зборнік пеўчы, які ўключае песнаспевы Абіхода і "Праздников". Маем яшчэ фрагмент з нотнага рукапісу (10 арк., 80) без пачатку і канца, які ўяўляе сабой найвялікшую каштоўнасць, бо змяшчае 2-галосную знаменную натацыю, "безпаметную і безпрычынную", датуецца 1-й пал. XVII ст. (№ 091/291). Да найбольш старажытных сярод атрыманых пеўчых рукапісаў адносяцца таксама адзін спіс Ірмалогія (1-я пал. XVII ст.) і Трыёдзь каляровая (XVIII ст.). Усе астатнія пеўчыя рукапісы — спісы XIX і пачатку XX ст.

Рукапісы маюць багатую музычна-палеаграфічную характарыстыку. Так, яны цікавыя з пункту гледжання наяўнасці ў іх розных варыянтаў распеваў песнаспеваў. Маюцца ўказанні на распевы: "столповым", "болшим знаменем", "путь", "демество", "демество большое", "ин превод", "ин роспев", "малого распева", "большого распева", "среднего распева", "по-гречески". Маюцца і мясцовыя распевы: "черниговский", "путь Соловецкого монастыря". Ёсць рукапісы беспрызначныя, у тэксце якіх адлюстравана традыцыя раздзельнамоўя, ці "хомонии". У некаторых музычных помніках прысутнічае дзямественная натацыя.

Амаль усе паступіўшыя рукапісы маюць мастацкае аздабленне. Застаўкі-рамкі, застаўкі, кветкі на палях, вялікія і тонкія ініцыялы з арнаментальнымі гучкамі — усё ў каляровых фарбах, з "золатам" ці кінаварных. Арнамент у асноўным стараверскі сярэднярускага (гусліцкага) тыпу, сустракаецца паморскага і старадрукаванага тыпаў, арнамент стылізаваных раслінных форм, эклектычнага характару, геаметрычны.

Асобныя пеўчыя рукапісы значна вылучаюцца маляўнічасцю і багаццем кніжнага аздаблення, асабліва стараверскія.

Некаторыя з рукапісаў маюць на палях аркушаў, на чыстых аркушах, на аправе кніжныя запісы (маргіналіі) featuring рознага характару. Усе яны ўяўляюць значную кнігазнаўчую цікавасць. Паказальны ў гэтым сэнсе пеўчы рукапіс "Ірмалогій" 1-й пал. XVII ст. (№ 11Рк395). Лёс музычнага помніка праглядаецца па наступных паметах: 1) запісе аб продажы скорапісам XVII ст.: "Ирмосы смолянина Алексея Иванова сына Халамова прода... вологжанин Лучка ... в граде ... (?) лета 7150 (1643) марта 29."; 2) запісе аб пакупцы простым тайнапісам (літарэя): "Куплена сія кніга во граде Москве в году 1792 (1803?) марта 1-го дня. Писал сей почерк витебский купеческий сын Мартіянов Беликов"; 3) уладальніцкім запісе: "1820 26 марта сія книга Ірмосы Семена Алексеева Чистабаева"; 4) запісе аб куплі і адначасова і ўладальніцкім: "1913 года декабря м-ца куплена сія книга Ірмосы Афанасія Евстигнеева Тиханова". Маем таксама фрагмент запісу скорапісам XVII ст., але ён не прачытваецца з-за пашкоджанасці аркушаў. І яшчэ ёсць арыгінальны запіс тыпу пробы пяра ў выглядзе нотнага радка. На форзацах рукапісу "Жития Филиппа митрополита (Колычева) и Германа Соловецкого" шмат памет скорапісам па-руску маёмасна-гаспадарчага зместу, што зроблены былі ў канцы XVII—пач. XVIII ст.

Многія з рукапісаў маюць багатыя, у добрым стане "абіходныя" апраўы, часам нават больш старажытныя, чым самі спісы. Рукапісы могуць служыць наглядным дапаможнікам для вывучэння старажытных традыцый мастацтва абіходнай апраўы, прынамсі ў славяна-рускай палеаграфіі гэтае пытанне меней за іншыя вывучанае.

Усё вышэйпаказанае сведчыць, што паступіўшыя ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі рукапісныя кнігі старажытнай традыцыі ўяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць і павінны выклікаць зацікаўленасць у спецыялістаў розных галін ведаў: філолагаў, палеографаў, гісторыкаў, кнігазнаўцаў,

мастацтвазнаўцаў, музыказнаўцаў. Помнікі славянскай рукапіснай кніжнасці чакаюць сваіх даследчыкаў.

**Цітавец А.**, *супрацоўніца аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі*

## КАЛЕКЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ БІБЛЕЙСКІХ КНІГ XVI—XVIII СТАГОДДЗЯЎ У ФОНДЗЕ ЦЭНТРАЛЬНАЙ НАВУКОВАЙ БІБЛІЯТЭКІ АН БЕЛАРУСІ

За больш чым 30-гадовы час існавання аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН Беларусі сабрана невялікая калекцыя беларускіх старадрукаваных выданняў біблейскіх кніг. У нашым фондзе захоўваюцца 22 асобнікі 19-ці выданняў. Сярод іх ёсць экземпляры, якія лічацца ў кнігазнаўстве рарытэтамі першай велічыні. На некаторых з іх мы спынім вашу ўвагу.

Як вядома, Біблія ўяўляе сабой звод твораў: 39 кананічных кніг у Старым запавеце і 27 — у Новым запавеце. Такое поўнае беларускае выданне біблейскіх кніг у нас адзінае. Гэта знакамітая "Брэсцкая", альбо "Радзівілаўская Біблія", якая была надрукавана ў першай на сучаснай тэрыторыі Беларусі Брэсцкай друкарні. Ініцыятарам яе выдання быў уплывовы магнат Мікалай Радзівіл Чорны. Па яго загаду Біблія была перакладзена на старапольскую мову, і на ягоныя сродкі ў 1563 годзе кніга выйшла шматтыражным шыкоўным выданнем. У прадмове да Бібліі сам Радзівіл і перакладчыкі выказалі свае пратэстанцкія погляды. Таму яе палічылі ерэтычнай, і пасля смерці Радзівіла ягоны сын, віленскі каталіцкі епіскап, загадаў спаліць разам з іншымі ерэтычнымі кнігамі частку тыражу "Брэсцкай Бібліі".

"Радзівілаўская Біблія" лічыцца найбольш фундаментальным і ўпрыгожаным выданнем Свяшчэннага пісання ў Польшчы і ў Вялікім княстве Літоўскім. Да нашага часу

захавалася каля 40 асобнікаў гэтай кнігі. Адзіны на Беларусі экземпляр (на жаль, няпоўны) захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі, яго мы атрымалі ў дар ад бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук у 1975 годзе.

Біблейскія кнігі выдаваліся цалкам (Біблія) і асобнымі часткамі. Найбольш папулярнымі ў хрысціян былі Псалтыр (кніга Старога запавету), Апостал і Евангелле (з Новага Запавету), таму і выдаваліся яны часцей.

Першым беларускім друкаваным Евангеллем з'яўляецца "Евангелле вучыцельнае" (1569 г.). Яно было выдадзена ў Заблудаве Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам на сродкі гетмана Вялікага княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча. Выданне надрукавана ў вялікім фармаце, сціпла: апрача выявы герба Хадкевіча, ілюстрацый у кнізе няма. У прадмове гетман расказвае аб тым, што ён меў намер выдаць кнігу на мове "простых людзей" (беларускай), ад чаго прыйшлося адмовіцца, каб не ўнесці памылак у кананічны тэкст, таму прадмова да "Евангелля" надрукавана на старабеларускай мове, а сам тэкст — на царкоўнаславянскай.

У фондзе бібліятэкі Акадэміі навук захоўваецца 7 экземпляраў пяці выданняў знакамітай друкарні Мамонічаў. Гэта была адзіная беларуская друкарня XVI—XVII стст., якая тры разы атрымлівала каралеўскія прывілеі на права выпуску рэлігійных і свецкіх выданняў (у тым ліку статутаў Вялікага княства Літоўскага). Менавіта тут беларускі друкар П.Мсціславец надрукаваў у 1575 г. "Евангелле напрастольнае". Надрукавана яно ў вялікім фармаце буйным шрыфтам, які нагадвае паўустаў рускіх і беларускіх рукапісаў. У беларускай кніжнай графіцы гэта першы фаліянт з гравіраванымі франтыспісамі, на якіх змешчаны выявы чатырох евангелістаў: Матфея, Марка, Лукі, Іаана.

Такія вялікія, багата ўпрыгожаныя выданні прызначаліся заможным людзям, якія часта ўкладалі іх у цэрквы для памінання душы. На адным з двух нашых экземпляраў "Евангелля" ёсць

чуллівы рукапісны запіс (прыкладна XVII ст.) такога зместу: "сіе ев(ан)г(е)лие те/тр, печатное положил игумен/еуфимие в селе агт/лове, и кто будет поп/ в той ц(е)ркви служител, и тому попу по/минат, игумена в животе за здрав(и)е, а по сме/рти за упокой да родителе его иона/ да иноку марину, да служащаг в с(вя)тем/ храме сем с(вя)щенноинока мисала, по/неж он велию веру имел к пр(е)ч(и)стеи б(огоро)д(иц)и, и да/вал по д(у)ши свое сию книгу с(вя)тое е(ван)г(е)лие, да/паникад(и)ло мед...но да колоколы, на веч/ную памят/ а подписал сам игумен еуфимие, б(о)га ради г(о)с(под)не (?)/ с(вя)щенни(к), им(яре)к служащии в с(вя)те храме сем / успениа пр(е)с(вя)тыа б(огороди)ци незабвены име и д(у)ша н(а)ша / в с(вя)тых своих (мо)литвах (?)/ а ев(ан)г(е)лие сие прочита со страхом и с трепетом с великим/ брежением як перед самым х(ри)с(т)ом / и егом предстолом (?)".

Акрамя выданняў прыватных друкарняў, у фондзе аддзела захоўваюцца біблейскія кнігі, выдадзеныя брацтвамі Вільні, Еўя, Куцейна і Магілёва. Нацыянальна-рэлігійныя арганізацыі праваслаўнага гарадскога насельніцтва (брацтвы) пачалі ўзнікаць на Беларусі ў XVI стагоддзі. Яны ствараліся пры цэрквах ці манастырах, вялі культурна-асветніцкую дзейнасць, адкрывалі брацкія школы і друкарні.

Уражвае "Евангелле", выдадзенае віленскай Святадухаўскай брацкай друкарняй у 1644 годзе. Тытульны аркуш яго ўпрыгожаны гравіраванай рамкай з відарысамі евангелістаў і святых Пятра і Паўла. Гэта найбольш маляўнічае выданне ў брацкім кнігадруку.

Сярод біблейскіх кніг вылучаюцца стараверскія выданні.

У XVIII стагоддзі беларускія друкарні выпусцілі шэраг кніг для раскольнікаў. У фондзе аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі 7 асобнікаў стараверскіх кніг. Гэта выданні Магілёўскай брацкай, Гродзенскай каралеўскай і віленскай Траецкай друкарняў. І хаця раскольніцкая літаратура выпускалася паводле ўзораў маскоўскіх "даніканаўскіх" выданняў, у іх аздобе адчуваецца ўплыў і беларускіх традыцый

(часта застаўкі ў стараверскіх і беларускіх выданнях рабіліся з аднаго клішэ).

Біблейскія кнігі аказалі вялікі ўплыў на развіццё беларускай культуры. Для нашых продкаў яны мелі не толькі рэлігійнае прызначэнне. Па біблейскіх кнігах вучыліся грамаце, яны былі крыніцай ведаў, наогул, гэта былі першыя нашы кнігі.

**Герасімаў В.М.,** *загадчык фонду рэдкай кнігі Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь*

## КІРЫЛІЧНЫЯ СТАРАДРУКІ Ў ФОНДЗЕ РЭДКІХ ВЫДАННЯЎ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ БІБЛІЯТЭКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Калекцыя кірылічных старадрукаў Прэзідэнцкай бібліятэкі (ПБ) налічвае 12 адзінак. Гэта адзін з самых малых у свеце збораў першадрукаваных славянскіх выданняў. Сумная з'ява. На Беларусі, якая ў XVI—пач. XVII ст. з'яўлялася лідэрам усходнеславянскага кнігадрукавання, мела вядомыя ва ўсім свеце вялікакняжацкія і магнацкія кнігазборы, сёння нават адной з самых буйных бібліятэк краіны асабліва няма чым хваліцца.

Здавалася б, нашто бібліятэцы прэзідэнцка-парламенцка-ўрадавага тыпу тыя старадрукі? Няхай развівалася б сабе як суперсучасны інфармацыйны цэнтр або просты пастаўшчык, перадатчык да ўладных структур апошняй інфармацыі.

Нам роля ПБ бачыцца больш значнай, бо яна, хай сабе і ўскосна, вызначае гісторыка-культурны менталітэт усіх галін улады на Беларусі. Гэтая значнасць, у сваю чаргу, залежыць ад культурнага патэнцыялу ПБ як сацыяльнага інстытута, ад каштоўнасці і значнасці кніжных багаццяў, у ёй назапашаных.

У дваццатым стагоддзі вядомыя тры падыходы да Кнігі з вялікай літары, яе значэння ў сацыяльным жыцці грамадства. Гэта падыход фашысцкага “тысячагадовага” германскага рэйха, калі гуманістычная літаратура палілася на вогнішчах аўтадафэ. Гэта падыход эсэсэраўскі, калі “нацыяналістычныя”, “класава шкодныя” выданні кідаліся ў спецсховы, калі ў бібліятэчнай справе дамінаваў пастулат Леніна — “бачыць гонар і славу публічнай бібліятэкі не ў тым, колькі ў ёй рэдкасцей, колькі якіх-небудзь выданняў XVI стагоддзя, а ў тым, як шырока абарачаюцца кнігі ў народзе, колькі прыцягнута новых чытачоў”. І, нарэшце, гэта падыход Бібліятэкі Кангрэса ЗША, якой чамусьці ж трэба захоўваць побач з найбольш каштоўнымі рарытэтамі і бясцэнныя скрыпкі Страдывары.

Які з гэтых падыходаў будзе ўзяты за аснову ў новай незалежнай Беларусі? Ва ўсякім разе, ступень гуманізму і дэмакратычнасці нашага грамадства лёгка вызначыць па адносінах дзяржавы да кніжнай спадчыны.

Вось у такім рэчышчы намі разглядаюцца мэты і задачы фарміравання калекцыі кірылічных старадрукаў ПБ. Незалежна ад памераў сам факт існавання дадзенага кнігазбору, утвараемая ім культуралагічная, гуманістычная аўра несумненна маюць моцныя патэнцыяльныя магчымасці ў бібліятэчным забеспячэнні нашых прыярытэтных абанентаў-дэпутатаў і чыноўнікаў дзяржаўнага апарату, ва ўплыве на маральнасць і духоўнасць улады, ды наогул, проста ў паважным яе стаўленні да бібліятэкі як такой.

Трэба заўважыць, што ў 1984 г. каля 15 асобнікаў кірылічных старадрукаў мы перадалі Нацыянальнай бібліятэцы. І калі гэтым крокам хоць крыху паспрыялі ў станаўленні галоўнай бібліятэкі краіны як сапраўды нацыянальнага кнігазбору, то і добра. Але пошук старадрукаў у асноўным фондзе ПБ працягваўся. І сёння выяўлена, як ужо вышэй гаварылася, яшчэ 12 такіх выданняў. Скончаны толькі першапачатковыя іх апрацоўка і раскладка. Далейшае дэталёвае вывучэнне старадрукаў наперадзе. А пакуль некалькі папярэдніх

дадзеных, каб шаноўнае спадарства атрымала агульнае ўяўленне пра нашыя рарытэты.

Выданняў XVII ст.— тры, XVIII стагоддзем датуюцца астатнія дзевяць. Самае старое выданне, "Служебник божественныя литургии", пачало друкавацца ў 1601-м і выйшла ў 1602 г. у Маскве. Самы бліжэйшы па часе таксама маскоўскі старадрук — "Дабраталюбіе" (1793).

Увогуле ж па месцах выдання старадрукаў маскоўскіх — 7, львоўскіх — 2, кіеўскіх — 1, чарнігаўскіх — 1 і гальскіх (Гале сёння — горад у Германіі) — 1. На вялікі жаль, беларускіх кірылічных старадрукаў у бібліятэцы няма. (Для параўнання ў аддзеле рэдкіх кніг Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве захоўваюцца 333 кірылічныя выданні: (919 асобнікаў XVI—XVIII стст. з 13 беларускіх друкарняў). 8 старадрукаў — богаслужбовыя, або рэлігійнага зместу, 3 — вучэбныя, 1 —дзяржаўна-прававой тэматыкі.

З выданняў XVII ст. Рэчы Паспалітай, у склад якой тады ўваходзіла і Беларуска-Літоўскае гаспадарства (ВКЛ), цікавыя кіеўскі і львоўскія старадрукі.

Анфологион (Мінея святочная) выйшаў у 1619 г. у друкарні Кіева-Пячэрскай лаўры. Друкарня лаўры, заснаваная на тры гады раней, у 1616 г., стала найбуйнейшай на Украіне і праіснавала да 1919 г. Анфологион — трэцяе па ліку яе выданне. Выдаў кнігу вядомы ўкраінскі друкар Памва Бярында, аўтар першага ўсходнееўрапейскага друкаванага слоўніка "Лексікона славенаросскага" (1627). Прадмову напісаў заснавальнік друкарні, архімандрыт Елісей Плецянецкі, пераклаў з грэчаскай мовы Іоў Барэцкі, рэдагавалі тэкст Захарый Капысценскі і Памва Бярында. Асобнік, які знаходзіцца ў ПБ, добра захаваўся; яго пераплёт уяўляюць драўляныя дошкі, абцягнутыя скурай з цісненнем. Сапраўдны фаліянт (фармат — in folio, ці 2 ) зачыняецца на дзве медныя засцёжкі.

Триодион (Трыёдзь посная) надрукаваны ў друкарні знакамітага Львоўскага стаўрапігійскага брацтва ў 1664 г. Выданне памерам in folio (2°) ілюстравана гравюрамі Васіля

Ушакевіча. Асобнік з ПБ мае цікавы паркушавы ўкладны запіс, які можна разглядаць у якасці "кіраўніцтва" для сучасных захавальнікаў рэдкай кнігі: "Сия глаголемая книга треодь посная инокини Парасковии Феодоровны посылает госпожа игумения Антонида Данилковичевна посылаю в Кутенский девичий монастырь в новую церковь по племянице своей по Парасковии и сию книгу из церкви божия не выносить ни продаз ни заложить никому подзаклад не закладываз". Да ўсяго, надпіс сведчыць не толькі пра шляхі распаўсюджвання кнігі на Беларусі, але і пра тое, што беларускія жанчыны заўсёды адыгрывалі вялікую ролю ў асветніцтве. Друкарняю брацтва выпушчаны і Літургіарыён (Служэбнік, 1702, in guarto, 4°).

"Алфавит собранны, рифмами сложенны" Іаана Максімовіча (Чарнігаў: друкарня Троіцка-Ільінскага манастыра, 1705, 2 ) змяшчае "прысвячэнне" прозай і сілабічнымі вершамі царэвічу Аляксею Пятровічу і іншым царскім асобам. Па літарах алфавіта ўтрымліваюцца кароткія рыфмаваныя паведамленні пра святых і гістарычных асоб. На ўкладным гравіраваным аркушы ў анаграме "Государю царевичу Алексею Петровичу многа лета" словы размешчаны так, што іх можна чытаць зверху і знізу, злева направа і наадварот.

Асобнік з ПБ належаў некалі Баркалабаўскаму кляштару, пра што сведчыць адпаведны ўладальніцкі запіс, зроблены палатыні на ніжняй пераплётнай паверхні.

Якую літаратуру выкарыстоўваў, рыхтуючыся да рэлігійна-палемічных баёў, праціўнік Брэсцкай уніі 1596 г., царкоўны дзеяч Георгій Каніскі, даведваемся, калі адгортваем тытульны ліст перакладзенага з нямецкай мовы твора Іаана Арнда "Чтири книги о истинном христианстве" (Гале, 1735, in octavio, 8°). На адвароце тытульнага ліста ёсць таксама ўладальніцкі запіс: "pertiner ad Libros Yeorgy Konisky".

Сярод маскоўскіх выданняў, несумненна, вылучаецца Служэбнік 1602 г. Пасля фёдараўскіх гэта адно з першых выданняў Маскоўскага друкарскага двара. Згадаем, што, у адрозненне ад беларускага і ўкраінскага кнігадрукавання, для

якога былі характэрныя дапамога прыватнага мецэнацтва і прадпрымальніцтва, часам грамадская падтрымка, кнігавыдавецтва ў Масковіі ад самага пачатку было заснавана на дзяржаўна-метрапалічнай манаполіі. Выдрукаваў Служэбнік заснавальнік вядомай друкарскай дынастыі Андронік Цімафееў Нявежа.

Не адразу ўдалося атрыбутаваць выданне, на карашку і шмуцтытуле якога нехта раней пазначыў “Феофан Прокопович. Букварь. СПб., 1720”. Так яно было адлюстравана і ў ДБА бібліятэкі. На самай справе гэта аказаўся “Буквар” (М., 1701, 4°) Фёдара Палікарпава, расійскага асветніка, выкладчыка Славяна-грэка-лацінскай акадэміі, пазней — начальніка Маскоўскага друкарскага двара. Буквар Палікарпава адрозніваўся ад ранейшых дапаможнікаў і па змесце, і па афармленні. У ім упершыню ўведзеныя грэчаскі і лацінскі шрыфты. Адкрываўся ён зместам, чаго да Палікарпава ніхто раней не рабіў. Разам з ілюстрацыямі на рэлігійныя сюжэты змешчаны дзве тэкставыя гравюры з апісаннямі бытавых школьных сцэн.

Буквар Феафана Пракаповіча (“Первое учение отрокам...”) таксама аказаўся ў фондзе ПБ, праўда, пазнейшага, 1743, года выдання.

У святле цяперашніх прэзідэнцка-парламенцкіх баталій у шмат якіх постсавецкіх краінах актуальным выглядае і такі кірылічны старадрук, як “Праўда волі манаршай” (М., 1726, 2.0) Феафана Пракаповіча. Упершыню ў Расіі тут была дакладна сфармулявана ідэя асветнага абсалютызму і “ідэальнага гасудара”.

Да маскоўскіх выданняў адносіцца таксама “Арыфметыка” (М., 1703, 2°) Лявонція Магніцкага, першая друкаваная расійская навукова-тэхнічная кніга, якую М.В.Ламаносаў разам з “Граматыкай” М. Сматрыцкага называў брамай сваёй вучонасці; другое выданне накіраванага супраць раскольнікаў “Жазла кіравання” (М., 1753, 2 ) беларускага і расійскага асветніка і паэта Сімяона Полацкага; хрысціянска-

павучальнае “Дабраталюбіе” (М., 1793, 2°; на форзацы ёсць наклейка: “Изъ библиотеки Ивана Лукашевича”).

Калі і адкуль трапілі да нас старадрукі, высветлілася па інвентарных кнігах бібліятэкі. Дзевяці з іх адпавядаюць час паступлення ў бібліятэку 24—29.03.1945 г. і пісьмовыя заўвагі “Книги из НКГБ, бесплатно”, “Книги из 1-го отд. милиции, бесплатно”, адзін (“Дабраталюбіе”) паступіў 14.10.1947 г. з невядомай крыніцы і 2 астатнія (“Жазло кіравання” і “Праўда волі манаршай”) 31.03.1986 г. заінвентарызаваны з раней не апрацаваных фондаў самой бібліятэкі.

Для супрацоўнікаў і чытачоў ПБ кірылічныя старадрукі, безумоўна,— самыя яркія дыяменты ўсяго яе кнігазбору. Спадзяемся, што калекцыя будзе пашырацца.

**Бяспалая М.А.,** *дацэнт,*
*Беларускі універсітэт культуры*

## ДА ПЫТАННЯ АБ РОЛІ І МЕСЦЫ БІБЛІЯТЭКІ І КНІГ У КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ Ў 1921—1927 гг.

Агульнавядома, што бібліятэка і кніга адыгрываюць вялікую ролю ў культурным асветніцтве вёскі. Але ці выканалі яны адведзеную ім ролю, ці занялі належнае месца ў культурным жыцці вёскі ва ўказаны перыяд? На жаль, адказ на гэтыя пытанні можа быць толькі адмоўным. Змест артыкула, як спадзяецца аўтар, дастаткова аргументавана раскрывае прычыны адмоўнага адказу на пастаўленае пытанне.

Сярод даследаванняў па гісторыі галіновых навук існуюць работы, прысвечаныя развіццю бібліятэчнай і кніжнай справў на Беларусі ў акрэслены перыяд. Да іх трэба аднесці працы М.І.Пакала, В.Ф.Якіменка, Н.М.Калоска, І.М.Емец і інш. Аднак з пункту гледжання новых тэндэнцый і навуковых распрацовак пытанне нельга лічыць дастаткова вырашаным. Ёсць патрэба

вярнуцца да яго з пазіцый апошніх дасягненняў гістарычнай навукі.

Бясспрэчна, бібліятэчная і кніжная справа не магла развівацца незалежна ад стану грамадства і асабліва ад вырашэння ідэалагічных задач. Кіруючыя колы дзяржавы разумелі, што без друкаванага слова немагчыма дастаткова эфектыўна ўздзейнічаць на масы, праводзіць партыйную лінію. Таму і прымаліся меры па выпуску разнастайнай палітычнай літаратуры і распаўсюджванні яе ў вёсцы. Адзначым, што асноўныя накірункі і змест культурнага асветніцтва сярод сялянства былі вызначаны ў першыя паслярэвалюцыйныя гады. Гэтае пытанне настолькі дасканала распрацавана навукоўцамі, што спыняцца на ім у чарговы раз няма сэнсу.

Своеасаблівым пачаткам культурнай работы ва ўмовах заканчэння грамадзянскай вайны і пераходу да мірнага жыцця сталі рашэнні Усерасійскай нарады палітасветнікаў у лістападзе 1920 г., якія распаўсюджваліся і на тэрыторыю Беларусі. У рэзалюцыі нарады звярталася ўвага на неабходнасць папаўнення бібліятэчных каталогаў кнігамі, якія асвятляюць праграму партыі.

У 1920-я гады ў беларускай вёсцы самастойных бібліятэк не існавала, яны ўваходзілі ў структуру культурна-асветных установ. На 1924 г. тут пражывала больш за 4 млн. чалавек, культурна-асветніцкую работу сярод іх ажыццяўлялі 87 народных дамоў і 241 хата-чытальня. Пры кожным народным доме былі стацыянарныя бібліятэкі ў некалькі соцень, нават тысяч, кніг: напрыклад, у Астрашыцкім народным доме больш за 3 тыс. кніг, у Койданаўскім — больш за 1600. Хаты-чытальні таксама мелі бібліятэкі, якія перыядычна асвяжаліся перасоўнымі бібліятэчкамі з народных дамоў і, у сваю чаргу, вылучалі невялічкія перасоўкі ў чырвоныя куткі. Па Мінскай акрузе ў 1924 г. ва ўсіх культурна-асветных установах налічвалася 27881 кніга, з іх па сельскай гаспадарцы — 4452, антырэлігійным накірунку — 835, палітычным — 8145, белетрыстыцы — 6623, іншых — 7826, бібліятэчак-перасовак — 119. У некаторых мясцінах выспела ідэя стварэння

бібліятэк-чытальняў пры школах, дзе павінны былі захоўвацца ўсе выпісваемыя мясцовымі ўладамі газеты, палітычная і сельскагаспадарчая літаратура.

Галоўным у рабоце культасветустаноў быў удзел у прапагандзе і вытлумачэнні афіцыйнай палітыкі. Без актыўнай агітацыі з удзелам народных дамоў, хат-чытальняў і бібліятэк на вёсцы не адбывалася ні адной палітычнай акцыі. Напрыклад, паводле інструкцыі аб удзеле бібліятэк у пасяўной кампаніі 1921 г. яны былі заклікаены ўзяць на сябе агітацыйна-прапагандысцкую работу, пад якой мелася на ўвазе "мабілізацыя кніг, якія ёсць ва ўсіх бібліятэках, выдача іх для работы актывістам. З дапамогаю агранома тэрмінова арганізаваць аддзелы сельскагаспадарчай і эканамічнай літаратуры. У памяшканні бібліятэк стварыць перасоўную вітрыну з літаратурай па пасяўной кампаніі, дзе рэгулярна вывешваць дэкрэты савецкай улады, газетныя артыкулы, прысвечаныя кампаніі". Цытуемы дакумент, безумоўна, цікавы сваім ваенна-рэвалюцыйным зместам, вераю ў тое, што толькі так будзе забяспечаны поспех пасяўной.

Работнікі культасветустаноў і бібліятэк павінны былі займацца растлумачэннем асноўных накірункаў падатковай, аграрнай палітыкі, агітаваць за кааперацыю, за пашырэнне плошчы пасеваў, за культурную гаспадарку, за перавыбары сельскіх Саветаў, за калектывізацыю і многае-многае другое. Дзеля гэтага хапала і сродкаў, каб выдаць спецыяльную літаратуру, прычым у значнай колькасці. Толькі ў 1924 г. у Дзяржвыдавецтве выйшлі наступныя кнігі: "Што дала селяніну Кастрычніцкая рэвалюцыя", "Хто такія камуністы і за што яны змагаюцца", "Наш урад", "Што кожны селянін павінен ведаць аб кааперацыі" і шмат другіх з грамадска-палітычнай серыі. Ці вось якую бібліятэчку з 64 кніг атрымалі ў Смалявічах: "Спутник ликвидации неграмотности", "Отчёт о деятельности Минского окружного исполкома за апрель и октябрь", "Помощь ячейке "Долой неграмотность", "Единый сельхозналог 1925/26 гг.", "Букварь для взрослых", "Наша нива — наша сила", "Як

бальшавікі будуюць дзяржаву рабочых і сялян", "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" (У.Ігнатоўскага) і інш.

Бібліятэкі павінны былі дапамагаць і ў культурна-асветніцкай рабоце сярод сялянства. На першы погляд яна здаецца вельмі аднастайнай, прымітыўнай і нецікавай. Але гэта зусім не так, хаця культурнае асветніцтва насіла партыйны адбітак і праходзіла, безумоўна, пад партыйным кіраўніцтвам. Тым не менш, асноўныя накірункі культурнай палітыкі праглядваюцца, і адназначна можна сказаць, што вясковае насельніцтва больш за ўсё цікавілася менавіта аграрным асветніцтвам. Вёска хацела даведацца аб дасягненнях сельскагаспадарчай навукі, каб штосьці выкарыстаць і ў сваёй гаспадарцы і тым самым падняць яе прыбытковасць. У некаторых з сялян, так званых культурнікаў,— таму што ў сваіх гаспадарках яны ўводзілі шматполле і тэхнічныя культуры, займаліся садаўніцтвам, селекцыяй і многім іншым — былі значныя сельскагаспадарчыя бібліятэкі. Напрыклад, у селяніна Язэпа Мароза з в. Фатынь, што ў Бешанковіцкім раёне, была бібліятэчка амаль у 1000 тамоў, якой карысталіся ўсе жадаючыя. Гаспадар выпісваў спецыяльныя часопісы "Сам сабе аграном", "Пчалярская справа" і другія. П.Бенгарт з Полаччыны меў высокаарганізаваную і даходную гаспадарку, і адно са сваіх памяшканняў ён аддаў пад бібліятэку сельскагаспадарчай літаратуры таварыства "Культура", сябрам якога ён з'яўляўся.

Зразумела, што прыватныя і сельскагаспадарчыя аддзелы грамадскіх бібліятэк папаўняліся кнігамі з дзяржаўных выдавецтваў. У некаторых выпадках з заклікам падпісвацца на новыя кнігі выступала нават кіраўніцтва рэспублікі. Напрыканцы 1925 г. выйшла ў свет "Справочная книга белорусского сельского хозяйства". З адозваю, у якой гаварылася аб важнасці такога даведніка і пажаданасці падпіскі на яго, да насельніцтва звярнуліся старшыня ЦВК БССР А.Чарвякоў і наркам земляробства Дз.Прышчэпаў. Трэба сказаць, што існавала нават серыя "Сялянская бібліятэчка". Яна складалася з вялікай колькасці кніг — ад 26-ці да 500

найменняў, у якую ўваходзілі кніжкі па самых разнастайных пытаннях: “Аб насенні”, “Жыта і пшаніца”, “Выбар каня”, “Аб плодазмене”, “Як шматполле спасло сялянства” і многія другія. Але ўзнікла праблема з распаўсюджваннем кніг на беларускай мове, таму што вёска чытаць па-беларуску не ўмела. Ды і кніжкі друкаваліся вельмі няякасна, на што, па думцы спецыялістаў, “...уздзеянне аказваюць неўстанавіўшыяся формы беларускай мовы. Аўтары і перакладчыкі пішуць няграматна, карэктары нявопытныя, кніжка праходзіць пяць карэктур. Памеры кніжак не адпавядаюць умовам вёскі. Сялянская бібліятэчка Беларускага дзяржаўнага выдавецтва складаецца з кніг у 30, 48, 59 і нават 74 старонкі. Малаадукаванай вёсцы такія кніжкі не пад сілу”.

Вялікім попытам карысталіся зборнікі п’ес для драматычных гурткоў, якія з’яўляліся самым распаўсюджаным відам вясковай самадзейнасці. Асабліва вялікім дэфіцытам былі творы беларускіх аўтараў, таму што на пачатку 1920-х гадоў па ініцыятыве знізу сярод моладзі пачынаецца актыўны рух за вывучэнне гісторыі і культуры свайго краю. У розных месцах узнікаюць беларускія культурна-асветніцкія гурткі, асноўным зместам дзейнасці якіх сталі пастаноўкі беларускіх п’ес. Ставілі спектаклі па творах К.Каганца, Ф.Аляхновіча, Ул.Галубка. Але набыць гэтыя п’есы было амаль немагчыма, і яны разыходзіліся ў рукапісным выглядзе. У адным з архіўных дакументаў засведчаны факт крадзяжу з кіёска “Саюздрук” у мястэчку Бачэйкава не чаго-небудзь, а 3-х беларускіх п’ес. Дзяржвыдавецтва друкавала ў першую чаргу рэвалюцыйныя п’есы, напрыклад: Касоўскі “Вясёлы тэатр”, Брадзячы “П’еса для рабоча-сялянскага тэатра”, Гарэлаў “Бednякі і кулакі” і інш.

Пакуль што вядома адзіная спроба наладзіць недзяржаўнае выданне. Яна мела месца ў канцы 1921 г.—пачатку 1922 г. на Барысаўшчыне, дзе мясцовымі настаўнікамі была створана культурна-навуковая грамада. Спачатку грамадаўцы планавалі выдаваць творы маладых аўтараў і перадрукоўваць старыя

выданні. Потым, мабыць, зразумелі сітуацыю і пачалі планаваць выданне палітычнай літаратуры. Аднак з-за адсутнасці сродкаў спроба выдання аказалася нерэальнай.

Яшчэ адзін накірунак, па якім кніга пранікала на вёску,— гэта ліквідацыя непісьменнасці. На канец 1924 г. па ўсёй Беларусі было 658 лікпунктаў. Яны мелі ў асноўным па адной праграме, рэдка па дзве, а таксама буквары чырвонаармейца, буквары "Наша ніва — наша сіла", часопіс "Далоў няграматнасць", задачнік Масленнікава. Для батракоў выдаваўся спецыяльны лемантар, перакладзены з рускай на беларускую мову. У адозве секцыі беларускага мастацтва Інбелкульта АН БССР адзначалася, што "з мастацкага боку ілюстрацыі да "Лемантара" ніжэй за ўсякую крытыку. Аўтар іх не ведае прапорцый чалавечых фігур і не валодае тэхнікай малюнка. Шмат якія кампазіцыі выклікаюць карыкатурнае ўражанне. З эстэтычнага боку малюнкі не маюць ніякай каштоўнасці. Тыпы і твары батракоў узяты наогул з нейкага гумарыстычнага часопіса, дзе ўкраінскія хахлы з чумацкімі вусамі перамяшаны з тыпамі Замаскварэчча. Вопратка таксама ўкраінская і расійская: украінскія світка і кажух, маскоўская касаваротка, шырокія ўкраінскія штаны, маскоўскія чуні, хахлацкія шапкі". Адозву падпісалі Шчэкаціхін і Сербаў. Мабыць, на такім узроўні былі і другія беларускія выданні, таму нічога дзіўнага ў тым, што яны не карысталіся попытам.

Звернемся да пытання аб фарміраванні бібліятэчнага фонду. Трэба адзначыць, што кіраўніцтва рэспублікі разумела вялікую ролю бібліятэк і кніг у палітычнай асвеце сялянства. Праўда, пераважна для гэтага шырока выкарыстоўваліся лозунгі і заклікі. Напрыклад, у звароце ЦК КП(б)Б да раённых ячэек у пачатку 1925 г. гаварылася: "Калі сяляне на вёсцы, калі ўсе вёскі нашай рабоча-сялянскай дзяржавы стыхійна кінуць кліч "Даёш нам газету і кнігу!" і калі яны пападуць у самыя глухія вугалкі і будуць чытацца, а не служыць курыцельнаю папераю, тады кожны селянін у вёсцы, тады ўсе вёскі будуць удзельнічаць у будаўніцтве пралетарскай дзяржавы". Цяжка ўявіць, каб

сяляне чыталі кніжкі, якія, напрыклад, былі ў Крайскай валаснай бібліятэцы: “Почему воюют польские паны”, “В поход против голода”, “Английский империализм”, “Крестьянство и трудовая повинность”, “Крестьянин, держись за коммуну!”, “Барин, поп и кулак” і другія. Усе 160 кніг мелі ярка выражаны прапагандысцкі характар.

Як бачым, працэс фарміравання фондаў сельскіх бібліятэк быў падпарадкаваны перш за ўсё ідэалагічным задачам. Галоўную ролю ў ім адыгрывалі партыйныя органы, у прыватнасці аддзел прапаганды і агітацыі пры ЦК КПБ (АПА) і Галоўпалітасвет пры Наркамаце асветы (ГПА). АПА размяркоўваў літаратуру па акруговых камітэтах, якія, у сваю чаргу, перапраўлялі яе раёнам. Такая практыка існавала да студзеня 1925 г., але яна не апраўдала сябе, таму што ў акругах кнігі заставаліся ляжаць на складзе, і з гэтай прычыны АПА пачаў рассылаць кнігі проста ў раёны.

У другой палове 1924 г. быў адпраўлены 67821 экземпляр. Гэта былі перш за ўсё кнігі з палітычнай і сельскагаспадарчай серый. Галоўпалітасвет праз свае нізавыя органы накіроўваў літаратуру непасрэдна ў дамы і хаты-чытальні. За 1924 г. было разаслана па 66 экземпляраў кніг рознага зместу і па лініі таварыства “Прэч непісьменнасць” — 9 тыс. экземпляраў педагагічнай літаратуры. Але ў 1925 г. культасветустановы перайшлі на свой бюджэт, у якім прадугледжвалася і набыццё літаратуры. На ўтрыманне народнага дома ў год выдзялялася 575,5 руб., у тым ліку на набыццё кніг 75 руб., на хату-чытальню адпаведна 431,5 і 60 руб. Усім існуючым у Беларусі сеткавым (дзяржаўным) культурна-асветным установам на пашырэнне бібліятэчных фондаў выдзялялася 20985 руб., што складала прыкладна 0,4% бюджэту Наркамата асветы. Па звестках ГПА, патрэба ў літаратуры задавальнялася толькі на 30%.

У забеспячэнні вёскі кнігай прымалі ўдзел Палітасвет ЦК ЛКСМБ і аддзел ЦК КП(б)Б па рабоце сярод жанчын. Апошні вельмі актыўна займаўся цэнтралізаванай рассылкай кніг: толькі з лістапада 1924 г. па сакавік 1925 г. быў распаўсюджаны

71.971 экземпляр. Сярод іх — “7 год існавання Савецкай улады”, “Сялянка ў сельскай гаспадарцы” (на рускай, беларускай і польскай мовах), “Бліжэйшыя задачы абароны мацярынства і дзяцінства” (на рускай і беларускай мовах), кнігі І.Сталіна, Кл.Цэткін “8-е сакавіка і сялянка”, лозунгі да Міжнароднага дня работніц, лозунгі да перавыбараў сельскіх Саветаў.

Каб актывізаваць паступленне літаратуры на вёску, была зроблена спроба стварэння розных фондаў за кошт узносаў ад гарадскіх ячэек ЛКСМБ і шэфскіх камісій. Што тычыцца шэфаў, то на іх ускладаліся вялікія спадзяванні ў культурнай дапамозе вёсцы. Яны абслугоўвалі і нават за свой кошт утрымлівалі хаты-чытальні, чырвоныя куткі, выпісвалі газеты, пасылалі кнігі. Мінскія шэфскія камісіі Ляхаўскага і Кастрычніцкага раёнаў выпісвалі для вёскі некалькі дзесяткаў экземпляраў газет, адправілі на вёску амаль 5 тыс. кніг, прычым падшэфныя хаты-чытальні забяспечваліся ленінскімі бібліятэчкамі.

Трэба адзначыць і спробу захавання гістарычных каштоўнасцей, у тым ліку і рэдкіх кніг, якія маглі застацца ў нацыяналізаваных маёнтках. Напрыклад, у верасні 1920 г. у Ігуменскі аддзел народнай асветы настойліва паведамлялі, што ў маёнтку Паляны захавалася вялікая бібліятэка, якая мела значную каштоўнасць. У кастрычніку 1922 г. праз Наркамат земляробства была адпраўлена адпаведная папера ва ўсе раёны. Толькі ў Русінавічах, што пад Мінскам, і ў Шыпянах Ігуменскага павета яшчэ захаваліся бібліятэкі.

Большасць кніг была адпраўлена ў бібліятэку БДУ. Тая атрымала 41 кнігу на французскай мове (у тым ліку некалькі гістарычных часопісаў), адну — на нямецкай мове і 7 кніг на польскай, сярод іх — Усеагульную энцыклапедыю. Адбываўся адваротны працэс: кнігі пакідалі вёску — што ў дадзеным канкрэтным выпадку, безумоўна, было правільна. Для тагачаснай вёскі кнігі не ўяўлялі вялікай каштоўнасці, іх сяляне маглі выкарыстоўваць на бытавыя патрэбы.

Каб бібліятэкі і кнігі выконвалі сваю асветніцкую ролю, неабходны былі адукаваныя кадры, але якраз іх і не было. У рэдкіх выпадках у народных дамах была пасада бібліятэкара і яе займаў адукаваны чалавек. Часцей за ўсё загадчыкам быў больш-менш пісьменны партыец ці камсамолец, які мог расставіць кнігі па раздзелах, выдаць іх, правесці першапачатковы кантроль. Што ж тычыцца хатнікаў, то большасць з іх былі малаадукаваныя людзі, якія не маглі і, трэба сказаць, не надта хацелі зацікавіць чытача. Але на гэта былі аб'ектыўныя прычыны. На нездавальняльны стан бібліятэчнай справы звярталі ўвагу ў адным з цыркуляраў ГПА за 1926 г.: "Нашы бібліятэкі папаўняюцца непатрэбнай літаратурай, праца з чытачамі пастаўлена дрэнна. Вялікімі перашкодамі з'яўляюцца малакваліфікаванасць бібліятэкараў, слабы абмен вопытам". Па ўжо не раз выпрабаванай схеме дзеля ліквідацыі недахопаў прадугледжвалася стварэнне пры ГПА цэнтральнай бібліятэчнай камісіі, а на месцах — бібліятэчных аб'яднанняў. Праўда, у справаздачах народных дамоў і хат-чытальняў прыводзяцца лічбы чытачоў і рэдка ў якой называюць некалькі дзесяткаў, часцей за ўсё размова ідзе аб сотнях, прычым падкрэсліваецца, што гэта дарослыя людзі. Паўстае пытанне, ці можа быць гэта праўдай.

Безумоўна, галоўная роля ў знаёмстве сялян з кнігаю належала настаўнікам, ці, як тады гаварылі, шкрабам (школьным работнікам). У разнастайных партыйных дакументах ім ставілі ў абавязак часцей чытаць сялянам газету, падрабязна тлумачыць сэнс прачытанага, старацца так зацікавіць слухачоў, каб яны пачалі выпісваць газету. Аднак відавочна, што настаўніцтва гэтым не займалася па шматлікіх прычынах: не хапала сіл і часу нават на сваю непасрэдную працу, не было асаблівага жадання, месца, ды і не было чаго чытаць. У такіх умовах акруговыя бібліятэкі выконвалі важныя метадычныя функцыі. У Мінскай акруговай бібліятэцы імя А.С.Пушкіна разам з раённымі аддзяленнямі ў 1924 г. налічвалася 68 тыс. кніг, была створана 151 перасоўная бібліятэчка ў сярэднім з

80-ці кніг, але, як адзначалася на адной нарадзе загадчыкаў народных дамоў і раённых бібліятэк, "яны складаліся са старых брашур". З мэтаю дапамогі супрацоўнікам было зроблена 7 выездаў на раёны, ва ўсе хаты-чытальні былі адпраўлены 4 цыркуляры з метадычнымі ўказаннямі па бібліятэчнай рабоце, праведзена нарада з культасветработнікамі акругі. Ім было выдадзена амаль 20 даведак па розных пытаннях бібліятэчнай работы.

Акрамя цэнтралізаванага забеспячэння кнігамі, існаваў і рознічны гандаль. У гэтай справе ініцыятыва належала Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву і беларускаму прадстаўніцтву агенцтва "Сувязь" — праўда, апошняе рапаўсюджвала ў асноўным газеты. Белдзяржвыдавецтва на тэрыторыі рэспублікі адчыніла 25 раённых і 11 акруговых аддзяленняў, спрабавала стварыць сетку агентаў з аграномаў, настаўнікаў, урачоў. А з работнікамі хат-чытальняў планавалася заключыць індывідуальныя дамовы аб распаўсюджванні літаратуры на камісійных пачатках. Хаця працэнт камісійных быў даволі высокі — 12%, людзі вельмі неахвотна згаджаліся падпісваць пагадненні. Наогул, рэалізацыя кніг індывідуальным пакупнікам ішла слаба, таму што, як пісаў адзін з агентаў, "насельніцтва з сялян, якія да ўсяго, дзе трэба плаціць грошы, ставяцца адмоўна".

Безумоўна, такую пазіцыю вяскоўцаў можна зразумець. Яны адчувалі патрэбу перш за ўсё ў практычных рэчах: адрыўных календарах, п'есах ды спеўніках для самадзейнасці, нават падавалі заяўкі на брашуру "Саморобны радыёпрыёмнік", а ім прапаноўвалі зусім іншае. Напрыклад, на складзе г.Рагачова зберагаліся для вёскі наступныя кніжкі: серыя "Хата-чытальня", Канстытуцыя БССР, серыя "Ленінская бібліятэчка", падручнік палітграматы, серыя "Сялянская бібліятэчка" і другія. Прычым трэба адзначыць, што літаратура трапляла на вёску не так лёгка. Спіс кніг трэба было спачатку ўдакладніць з АПА райкама партыі, а толькі потым прадаваць. Як бачым, галоўным было ўлічыць інтарэсы дзяржаўнай палітыкі, затым можна пацікавіцца і патрэбамі сялянскай масы.

Нельга абмінуць і пытанне аб распаўсюджванні газет, таму што яны гэтак жа, як і кнігі, а мабыць, і яшчэ лепш павінны былі служыць выкананню важных палітычных і асветніцкіх задач. У рэспубліцы ў першай палове 20-х гадоў выходзіла 9 газет: 2 — на рускай, 3 — на беларускай, 2 —на польскай і 2 — на яўрэйскай мовах. У тагачасных газетах друкавалася шмат карысных для вёскі матэрыялаў: аб навуковых метадах вядзення гаспадаркі, аб новых культурах, аб асноўных накірунках савецкай палітыкі, кааперацыі, меліярацыі і многа-многа другіх. Выходзіў спецыяльны сельскагаспадарчы часопіс "Плуг". А XIII з`езд РКП (б) вылучыў лозунг: "На 10 двароў — 1 газета", але на Беларусі ён быў выкананы толькі на адну трэцюю: на 34 гаспадаркі 1 газета, ці на 1 тыс. чалавек — 6,3. Распаўсюджваліся газеты праз сельскіх карэспандэнтаў. На пачатку 1925 г. гэтай справай займаліся да 80-ці чалавек. За работу яны атрымоўвалі адзін экземпляр і 10% ад выручкі (пры наяўнасці 10 падпісчыкаў). Шырока практыкавалася і калектыўная выпіска газет. Напрыклад, у тым жа 1925 г. калектыўна выпісваліся 9482 экземпляры, а індывідуальна — 1812.

Трэба адзначыць, што культасветустановы забяспечваліся газетамі і часопісамі цэнтралізавана, праз вышэйстаячыя арганізацыі. Напрыклад, для ўсіх хат-чытальняў і народных дамоў з 1 лютага 1925 г. выпісваліся часопісы "Деревенский театр" і "Деревенский самоучитель". Мінскі акруговы палітасвет у сувязі з гэтым спадзяваўся, што часопісы будуць выкарыстаны для "арганізацыі гурткоў самаадукацыі і наладжвання здаровага і карыснага адпачынку бядняцкіх і серадняцкіх мас". Праз некаторы час ужо акруговая бібліятэка паслала запыты аб якасці часопіса "Деревенский театр" і мэтазгоднасці на яго далейшай падпіскі, адначасова паведамляючы, што выпісала для хат-чытальняў часопіс "Изба-читальня".

З 1925 г. галоўную ролю ў гандлі кнігай, ці, як тады гаварылі, у прасоўванні кнігі ў сялянскую масу, пачало адыгрываць акцыянернае таварыства "Кніга — вёсцы".

Беларускае аддзяленне, створанае сумесна Дзяржвыдавецтвам і Наркаматам сувязі, распачало дзейнасць з верасня 1925 г. У Мінску знаходзіліся цэнтральная кантора і база, якія забяспечвалі літаратурай 5 гарадскіх кіёскаў і 278 агенцтваў па ўсёй рэспубліцы. Кожны агент шукаў памочнікаў сярод паштальёнаў, настаўнікаў, аграномаў, камсамольцаў, работнікаў хат-чытальняў, у кіёсках агенцтва прадаваліся неабходныя селяніну дробязі і кнігі па рознай тэматыцы, напрыклад: Зайцаў "Важныя рашэнні партыі аб сялянскай гаспадарцы", Нікуліхін "Палітыка партыі ў вёсцы", Чанаў "Чым і як лепш летам карміць кароў", Здорык "Лес і сялянская гаспадарка", Папоў "Перасяленні на новыя землі" і шмат другіх. На складзе таварыства ў 1926 г. захоўваліся кнігі 47 найменняў па палітычных пытаннях, 54 — па сельскай гаспадарцы, 64 віды партрэтаў кіраўнікоў партыі і працы, піянерскія і камсамольскія значкі. Шырока быў прадстаўлены раздзел мастацкай літаратуры: І.Арлоў "Бабскія справы", М.Някрасаў "Смерць селяніна", І.Тургенеў "Муму", "Прыгонная", Дж.Лондан "Сіла моцных", "На свабоду", М.Шолахаў "Двумужняя", О.Генры "Жанчына", А.Чэхаў "Бабы", Дз.Бедны "Мужыцкі клад", усяго 52 найменні. Былі на складзе і беларускія кнігі — падручнікі, напісаныя Я.Лёсікам, А.Смолічам, Ул.Ігнатоўскім, М.Гарэцкім.

Але, як сведчаць матэрыялы па абследаванні дзейнасці таварыства, найбольш папулярнымі былі мастацкая і дзіцячая літаратура, кнігі па садоўніцтве, пчалярстве, спеўнікі і календары, асабліва на рускай мове. За 1927 г. іх было прададзена на 18 тыс.руб., а на беларускай — удвая менш. Палітычная і навукова-папулярная літаратура попытам не карысталася. Наогул за першы год дзейнасці таварыства прадалі кніг усяго на 26700 руб., за другі — на 44700 руб. Былі кіёскі, у якіх на працягу месяца ніхто на купіў ніводнай кніжкі.

Цікавыя звесткі змяшчаюцца ў статыстычнай справаздачы аб продажы кніг у сёлах Беларусі. Усяго прапаноўваліся 429 найменняў кніг, з іх па 116 не прададзена ні адной. У ліку іх: Юзэфовіч "Яравая пшаніца", Халецкі "Селькор Іваноў",

Хрушчоў "Самавучыцель шыцця абутку", "Сялянскія сельскагаспадарчыя пабудовы". Праўда, апошняя кніжка вельмі дарагая, 1 рубель 75 капеек, а астатнія танныя, па 10-12 кап. Але, мабыць, справа не толькі ў цане, таму што зусім не разышлася брашурка цаною ў 6 кап. "Як арганізаваць суд над самагоншчыкам". Многа кніг, якіх прададзена па 1-3 экземпляры. Сярод тых, якія больш-менш разышліся, наступныя: "Параскева пятніца", "Пугачоў", Шолахаў "Алёшкава сэрца", Фердынандаў "Развядзенне курэй", Фурманаў "Чапаеў", Цітоў "Даходнае пчалярства". Карысталіся попытам брашуры Пасадава "Метрычныя меры", а найбольш папулярнымі былі творы Дз.Беднага.

З выкладзенага вынікае, што некаторыя кніжкі сяляне купіць не маглі з-за іх кошту, другія купляць не хацелі, таму што не задавальнялі не толькі іх змест, але, мабыць, і якасць. Зацікаўленыя арганізацыі актыўна абмяркоўвалі праблему выдання таннай папулярнай, дзіцячай, сялянскай літаратуры з каляровымі вокладкамі, малюнкамі. Ставілася пытанне аб перакладзе кніг з рускай на беларускую мову, таму што з развіццём працэсу беларусізацыі попыт на беларускамоўную літаратуру павялічваўся. На патрэбы вёскі павінны былі працаваць некалькі выдавецтваў, таму што адно ўжо не спраўлялася.

Здавалася, рабілася ўсё магчымае, каб кніга, а з ёю і асвета прыйшлі ў вёску: да сярэдзіны 20-х гадоў канчаткова аформілася структура культурна-асветных устаноў, якая ўключала і бібліятэкі, наладзілася праца выдавецтваў, было створана акцыянернае таварыства для кніжнага гандлю. На вёсцы з'явілася вельмі многа разнастайнай літаратуры, якая паступала па розных накірунках. Аднак ні эканамічныя, ні сацыяльна-псіхалагічныя абставіны не спрыялі таму, каб бібліятэка і кніга занялі належнае месца ў культурным жыцці вёскі. Мабыць, галоўнае было ў тым, што савецкая ўлада вырашыла выхаваць вёску ў новым, савецкім накірунку. Замест развіцця асветы ў рэчышчы агульначалавечых, гуманістычных,

хрысціянскіх традыцый пачалі насаджацца ідэі класавай барацьбы, адданасці партыі і савецкай уладзе. Таму вёску захліснула хваля новай нізкаякаснай, прымітыўнай літаратуры. Аднак адсутнічалі нават самыя элементарныя ўмовы для яе прапаганды, нягледзячы на шматлікія рашэнні вышэйстаячых органаў.

Яшчэ адна прычына была ў адсутнасці кваліфікаваных кадраў, а разам з гэтым — умення і жадання развіваць бібліятэчную справу. Не спрыяў пашырэнню кнігі сацыяльна-эканамічны стан вёскі, таму што якраз у гэты час вырашаліся жыццёва важныя для сялянства пытанні, адказу на якія не маглі даць ні культасветустановы, ні кнігі, ні тыя, хто іх распаўсюджваў. Аднак у 20-я гады была закладзена сістэма палітычнага і культурнага асветніцтва, у якой адна з галоўных роляў адводзілася бібліятэкам і кнігам.

**Саломка А.І.**, *дацэнт, Беларускі універсітэт культуры*

## З ГІСТОРЫІ ВЫДАННЯ МЕМУАРНАЙ КНІГІ НА БЕЛАРУСІ (1918—1990 гг.)

Узмацненне цікавасці да мінулага Беларусі, неабходнасць шырокіх абагульненняў, якія б грунтаваліся на ўсебаковым аналізе гістарычных падзей, патрабуе своечасовага выдання разнастайных паводле зместу гістарычных крыніц. Адной з іх з'яўляюцца мемуары.

У Беларусі ў даследуемы час асобныя выданні мемуараў сталі выходзіць з 1918 г. Гэта былі ўспаміны пра падзеі канца XIX—пач. XX ст., рэвалюцыі 1917 г., пра палітычных і дзяржаўных дзеячаў. У 2-й палове 20-х—пачатку 30-х гг. тэматыка ўспамінаў пашыраецца за кошт твораў пра Чырвоную гвардыю, падзеі грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі,

камсамол, а пасля — і аб мірнай працы. Мемуары выдаваліся па 1935 г. уключна. За гэты час выйшла 10 зборнікаў і 38 кніг твораў асобных аўтараў (монавыданняў) агульным тыражом каля 300 тыс. экз. Шэсць з іх былі ўключаны ў серыю "Успаміны старых бальшавікоў". Дваццаць два монавыданні і адзін зборнік былі перакладнымі. Дваццаць шэсць твораў з'яўляліся арыгінальнымі і датычыліся гісторыі Беларусі. Трыццаць сем былі надрукаваны на беларускай і адзінаццаць — на рускай мовах. Крыніцазнаўчая каштоўнасць успамінаў была неаднолькавай. На яе ўплывалі адсутнасць вопыту выдання, слабая падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў рэдактараў, нераспрацаванасць тэорыі рэдагавання, агульныя ўмовы развіцця грамадства.

З-за цяжкасці доступу да архіваў з 1936 г. па 1947 г. уключна мемуары не выдаваліся. Даследчык В.Кардзін справядліва адзначыў, што часам адсутнасць мемуараў, замоўчванне тых ці іншых бакоў жыцця сведчаць аб асаблівасцях гістарычнага перыяду, аб беспрасветнай цяжкасці жыцця.

У канцы 40-х—пачатку 50-х гг. некаторы ўздым у выданні ўспамінаў выклікалі падзеі Вялікай Айчыннай вайны. У 1947г. была асэнсавана неабходнасць падрыхтоўкі і выпуску ваенных мемуараў. У гэты час у Дзяржаўным выдавецтве БССР была створана рэдакцыя масава-палітычнай літаратуры. Успаміны пра Вялікую Айчынную вайну пачалі выходзіць з 1948 г., спачатку эпізадычна і ў невялікай колькасці — з-за недастатковай актыўнасці выдавецтва, па-ранейшаму слабой распрацаванасці асаблівасцей мемуарнай літаратуры, малой дапамогі іх аўтарам з боку літаратараў і журналістаў.

А 1955 г. стаў пераломным у гісторыі выдання мемуараў у Беларусі. Іх выпуск становіцца рэгулярным, а з 1958 г. значна пашыраецца колькасць. Гэта было абумоўлена ўплывам сацыяльна-гістарычных і палітычных фактараў, ажыўленнем палітычнага і эканамічнага жыцця ў краіне. Работа па збіранні дакументаў і рэліквій аб невядомых старонках гісторыі Беларусі,

асабліва падзеях Вялікай Айчыннай вайны, па ўшанаванні геранчных подзвігаў, набывае сістэматычны і арганізаваны характар, дзякуючы стварэнню камісій спрыяння збору ўспамінаў удзельнікаў і сведкаў ваенных падзей. Некаторыя з іх дасягнулі значных поспехаў. Так, Гродзенская абласная камісія да 1968 г. сабрала звыш 900 успамінаў ветэранаў вайны.

З 1969 г. у рэспубліцы прымаюцца меры па паляпшэнні навуковай распрацоўкі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Збор дакументаў, успамінаў, інфармацыйна-даведачных і іншых матэрыялаў і іх выданне разглядаюцца як адна з найважнейшых яе ўмоў. Гэтая работа была ўскладзена на навуковыя ўстановы: Інстытут гісторыі АН БССР, Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, музеі, архівы і інш. У лістападзе 1971 г. прымаецца рашэнне аб стварэнні ў Інстытуце гісторыі АН БССР сектара па зборы і публікацыі дакументаў і гістарычных мемуараў. Ён павінен быў каардынаваць дзейнасць навуковых устаноў, грамадскіх арганізацый, устаноў культуры і асветы Беларусі. Ставілася мэта ахапіць зборам і публікацыяй успамінаў усе катэгорыі ўдзельнікаў вайны: воінаў, партызан, падпольшчыкаў, удзельнікаў няўзброенага супраціўлення захопнікам. Да сярэдзіны 1972 г. сектарам і камісіямі па зборы ўспамінаў было сабрана звыш 900 успамінаў і ўлічана каля 4000 мемуарных запісаў, якія зберагаліся ва ўстановах Масквы, Мінска, абласных і раённых цэнтраў Беларусі. Улічана каля 500 аўтараў, якія збіраліся пісаць ці ўжо напісалі мемуары, складзены стэнаграфічны запіс успамінаў больш чым 30 былых удзельнікаў вайны. Да першай паловы 1974 г. было сабрана ўжо 2500 успамінаў. Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, збіраючы звесткі аб арганізацыі, структуры і асабовым складзе партызанскіх фарміраванняў, падпольных партыйных і камсамольскіх органаў рэспублікі ў гады вайны, па просьбе выдавецтва “Беларусь” змог рэкамендаваць для далейшага супрацоўніцтва 120 магчымых аўтараў мемуараў. Пры Інстытуце гісторыі і Інстытуце гісторыі партыі былі створаны групы па рэцэнзаванні ўспамінаў. Кожны раён, вобласць браліся за

напісанне свайго летапісу. З гэтай мэтай пры камісіях ствараліся аўтарска-рэдакцыйныя калектывы. Усё гэта патрабавала пашырэння выдавецкай базы. У 1967 г. пры рэдакцыі сацыяльна-эканамічнай і масава-палітычнай літаратуры выдавецтва "Беларусь" быў створаны сектар гістарычнай і мемуарнай літаратуры.

У канцы 60-х—70-я гг. назіраецца відавочная дыспрапорцыя ў тэматычнай структуры ўспамінаў. У асноўным выдаваліся ваенныя, пераважна партызанскія, мемуары. Яны склалі 44,6%. Толькі 8,5% мемуараў былі прысвечаны пытанням культурнага будаўніцтва, развіццю літаратуры і мастацтва. Не атрымалі асвятлення даваенная мірная праца, удзел воінаў-беларусаў у баях на франтах вайны, у еўрапейскім руху Супраціўлення, процідзеянне акупантам з боку няўзброенага насельніцтва, праца беларусаў у савецкім тыле, аднаўленне народнай гаспадаркі, развіццё навукі, асветы, культуры. Сярод прычын тэматычнай абмежаванасці былі: адсутнасць дакладнага планавання і арганізуючага пачатку ў выданні мемуараў; удзел у іх выпуску толькі выдавецтва "Беларусь". Таму ў 1969 г. на базе спецыяльнага сектара была створана рэдакцыя мемуарнай і ваенна-патрыятычнай літаратуры. Загадам Дзяржаўнага камітэта СМ БССР па друку ад 13 кастрычніка 1970 г. "Аб мерах па паляпшэнні выдання мемуарнай літаратуры ў рэспубліцы" выпуск успамінаў ускладваўся таксама на выдавецтвы "Вышэйшая школа", "Навука і тэхніка", "Народная асвета", "Ураджай" у адпаведнасці з профілем кожнага. Гэта дазволіла ў 1970 г. пачаць выпуск серыі "Мемуары", якая аб`ядноўвала творы аб змаганні партызан і падпольшчыкаў з фашыстамі ў гады вайны амаль ва ўсіх кутках Беларусі. За пяць гадоў у ёй было выдадзена 25 успамінаў. Па падліках аўтара, сярэдні тыраж іх склаў 67 тыс. экз. Мемуары вызначаліся вялікім фактычным матэрыялам, былі напісаны добрай літаратурнай мовай, даволі прыгожа аформлены, багата ілюстраваны дакументальнымі фотаздымкамі.

Дзякуючы сувязям выдавецтваў з зацікаўленымі арганізацыямі, установамі і асобнымі людзьмі з 1971 г. у Дзяржкамвыда БССР склалася магчымасць падысці да распрацоўкі рэальнага перспектыўнага плана выпуску мемуарнай літаратуры. У 1971 г. толькі ў рэдакцыі мемуарнай і ваенна-патрыятычнай літаратуры выдавецтва "Беларусь" быў у наяўнасці 81 рукапіс успамінаў. Па дамоўленасці з выдавецтвам яшчэ 40 аўтараў працавалі над сваімі творамі. Партфель рэдакцыі быў багаты і ў наступныя гады. У 1982 г. ён налічваў 78 рукапісаў, іх планавалася выдаць да канца 1980-х гг. Праведзеная работа дазволіла значна павялічыць выпуск мемуараў. Калі з 1948 г. па 1969 г. (22 гады) іх налічваецца 134 назвы, дык за 10 наступных год — з 1970 г. па 1980 г. — 173. Палепшылася іх якасць па змесце, мастацкім афармленні, паліграфічным выкананні. Пераважная іх колькасць атрымала станоўчую ацэнку чытачоў.

Адным са сродкаў павышэння навуковага ўзроўню ўспамінаў з'явілася выданне зборнікаў дакументаў і матэрыялаў па ўсіх важнейшых перыядах, падзеях гісторыі Беларусі XX ст., некаторых даведачных матэрыялаў — спачатку ў перыядычным друку, зборніках, а пасля ў выглядзе самастойных даведачных выданняў, у тым ліку выданняў аб арганізацыі, структуры, складзе ў гады вайны падпольных партыйных (1975 г.), камсамольскіх (1976 г.) органаў і партызанскіх фарміраванняў (1983 г.), падрыхтаваных Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ, выданняў музеяў і архіваў. Іх выкарыстанне дапамагае мемуарыстам пазбегнуць недакладнасцей у асвятленні сапраўднага ходу падзей, праверыць верагоднасць фактаў і інш.

Паляпшэнню якасці мемуараў садзейнічала сумесная праца выдавецтваў і навукова-даследчых устаноў па адборы, ацэнцы, рэцэнзаванні і рэдагаванні рукапісаў партызанскіх мемуараў. Франтавыя ўспаміны адсылаліся на рэцэнзаванне ў Інстытут гісторыі Вялікай Айчыннай вайны СССР. Якасць рэцэнзій значна палепшылася пасля таго, як прозвішчы іх аўтараў сталі

друкавацца ў выданнях. Практыкаваліся абмеркаванне і ацэнка рукапісаў непасрэднымі ўдзельнікамі апісваемых падзей. Па ўжо выдадзеных кнігах рэдакцыі выдавецтваў сумесна з Рэспубліканскім таварыствам кнігалюбаў, бібліятэкамі, школамі, музеямі праводзілі чытацкія канферэнцыі, сустрэчы з аўтарамі. Мемуары знаходзілі шырокі водгук на старонках перыядычнага друку.

Паступова аўтарам успамінаў, якія мелі патрэбу ў літаратурнай апрацоўцы свайго твора, наладжвалася дапамога з боку журналістаў, пісьменнікаў, вучоных. З 1969 г. па 1972 г. было выпушчана 20 кніг з удзелам Н.Гілевіча, Р.Няхая А.Кейзарава, А.Міронава, А.Петрашкевіча і інш. Узбагаціўся даведачны апарат мемуараў за кошт геаграфічных дапаможных паказальнікаў, паказальнікаў імёнаў і інш.

У 2-й палове 1980-х гг. пачынае згортвацца работа грамадскіх, а пасля і навуковых структур па зборы і сістэматызацыі ўспамінаў і іншых дакументаў у сувязі са зменамі ў палітычным і эканамічным жыцці рэспублікі. У 1986 г. перастаў існаваць спецыялізаваны сектар Інстытута гісторыі АН БССР. У 1991 г. была скасавана група рэцэнзентаў, яе функцыі стаў выконваць аддзел ваеннай гісторыі. Перастаў існаваць Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Рэдакцыя мемуарнай і ваенна-патрыятычнай літаратуры выдавецтва "Беларусь", якую доўгі час узначальваў П.Шчадроў, спецыяліст высокага класа, улюбёны ў сваю справу, была перайменавана ў рэдакцыю ваенна-гістарычнай літаратуры, а пасля ўлілася ў склад рэдакцыі грамадска-палітычнай літаратуры. Выданнем мемуараў сёння могуць займацца ўсе дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы, але ад гэтага колькасць першых не павялічваецца, бо гэта вельмі складаная і адказная справа. Найбольш кваліфікаваныя кадры і адпаведны вопыт маюць па-ранейшаму выдавецтвы "Беларусь" і "Мастацкая літаратура".

З 1918 г. па 1990 г. 494 назвы мемуараў, 445 з іх убачылі свет пасля Вялікай Айчыннай вайны. З іх 373 (пасляваенныя выданні) здзейснілі выдавецтва "Беларусь", 54 —"Мастацкая

літаратура", 9 — "Навука і тэхніка", 3 — "Юнацтва", 2 — выдавецтва ЦК КПБ. Па адным выданні прыпадае на выдавецтвы "Ураджай", "Полымя", "Народная асвета", "Універсітэцкае". 344 творы з`яўляюцца монавыданнямі, астатнія ж 101 — тэматычнымі зборнікамі. З усіх выданняў 412 — арыгінальныя творы, а да вайны іх было толькі крыху больш за палову; 318 мемуараў надрукаваны на рускай і 127 на беларускай мовах. Да 1941 г. гэтая статыстыка была на карысць беларускамоўных выданняў: 36 з 49 твораў. Сярод мемуараў значную колькасць склалі перавыданні. Са 101 зборніка іх налічваецца 28. Зборнік "Ніколі не забудзем" выходзіў 9 разоў, "Гераічная абарона" — 4, "Буг у агні", "Слаўная дачка беларускага народа", "У фашысцкіх засценках" — па 3 разы і г.д. Найбольш часта выдаваемымі мемуарамі з`явіліся сумна вядомыя ўспаміны Л.Брэжнева —10 разоў, успаміны В.Казлова — 8, Д.Цябута — 7. Самымі вялікімі тыражамі выйшлі творы Л.Брэжнева і склалі 860 тыс. экз., В.Казлова —384 тыс., П.Калініна, А.Васілеўскага — па 300 тыс., Д.Цябута — 265 тыс., С.Бабронка — 210 тыс., А.Дзенісевіча — 200 тыс. Тыраж зборніка "Гераічная абарона" склаў 275 тыс., "Буг у агні" — 270 тыс. экз. Як паказвае аналіз, перавыданні і памеры тыражоў не заўсёды адпавядалі патрэбам чытачоў.

Тэматычны склад выдадзеных з 1918 г. мемуараў даволі разнастайны. Па колькасці першае месца на 1990 г. займалі ваенныя мемуары. Іх налічвалася 316 назваў, што склала 63,9% ад усіх выданняў, 245 з іх — партызанскія мемуары. Яны склалі 49,5% ад усіх выданняў і 77,5% — ад ваенных мемуараў. Паспяховае развіццё партызанскай мемуарыстыкі звязана з шырокім размахам барацьбы насельніцтва Беларусі з ворагам, з аднаго боку, і з асаблівымі ўмовамі для іх напісання: пастаяннай увагай з боку кіраўніцтва рэспублікі, магчымасцю шырокага выкарыстання архіўных матэрыялаў, дапамогай выдавецтваў, навуковых устаноў, творчых саюзаў — з другога. Параўнальна невялікая колькасць франтавых мемуараў — 71 выданне — звязана з тым, што іх пісаць цяжэй за партызанскія,

з-за абцяжаранага доступу да архіваў, вялікай зменлівасці асабовага складу вайсковых фарміраванняў у часы грамадзянскай, Вялікай Айчыннай войнаў, замежнай інтэрвенцыі і пасля іх, складанасці пошуку аўтараў, арганізацыі рэцэнзавання, якое здзяйснялася ў Інстытуце ваеннай гісторыі Міністэрства абароны СССР у Маскве. Франтавыя, як і партызанскія, мемуары пісалі розныя паводле маштабаў дзейнасці людзі. Сярод мемуараў у 1990 г. упершыню з'явіліся ўспаміны пра вайну ў Афганістане. Сярод франтавых мемуараў, у адрозненне ад партызанскіх, больш перакладных выданняў.

Другое месца па колькасці займаюць літаратурныя мемуары, якія пачалі выходзіць з 1952 г. і налічваюць 56 выданняў: 35 мона- і 21 зборнік.

Успаміны аб развіцці народнай гаспадаркі, аб мірнай працы ў розныя перыяды гісторыі Беларусі пасля Айчыннай вайны выходзілі 44 разы і займаюць трэцяе месца. Упершыню ў 1989 г. убачылі свет успаміны аб рэпрэсіях у гады сталінізму. З 44 мемуараў 9 з'яўляюцца перакладнымі і паводле зместу не тычацца Беларусі.

З 1962 г. пачынаюць выходзіць успаміны дзеячаў культуры, мастацтва, артыстаў — усяго 17 выданняў.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны працягвалі выходзіць гісторыка-рэвалюцыйныя ўспаміны, якія склалі 21 выданне. З іх 16 прысвячаліся дзяржаўным і палітычным дзеячам, 5 зборнікаў выйшлі да юбілеяў.

Такім чынам, выдавецтвамі шмат зроблена для аптымізацыі тэматычнай структуры мемуарнай літаратуры ў рэспубліцы. Значна павялічылася яе колькасць, асабліва франтавых, літаратурных, мемуараў па мастацтве, сталі распрацоўвацца тэмы, успаміны па якіх раней зусім адсутнічалі. Выданне мемуараў прымае стабільны і рэгулярны характар і ў апошнія 20 гадоў склала ў сярэднім па 15 выданняў штогод.

Аднак недастаткова выдаецца ўспамінаў аб развіцці навукі, асветы, культуры, аховы здароўя, гаспадаркі ў розныя перыяды гісторыі дзяржавы, успамінаў тых, хто не падтрымліваў існуючую сістэму і чыя дзейнасць не была лаяльнай да яе, хто

быў незаслужана ці наўмысна забыты, хто пацярпеў ад улад, тых, хто павінен быў пакінуць сваю Радзіму, аб жыцці і лёсе беларускай дыяспары і асобных, найбольш яскравых, яе прадстаўнікоў за мяжой, аб удзеле беларусаў у афганскай вайне і інш.

Важнай праблемай для даследчыкаў з'яўляецца вывучэнне праўдзівасці выдадзеных мемуараў, бо, як вядома, у даследуемы час практыкавалася ўмяшанне не толькі ў выдавецкія планы, але і ў змест мемуараў. Выдаўцоў жа сёння павінна турбаваць не столькі колькасць выданняў, колькі іх якасць.

**Шайкоў Ю.Л.,** *супрацоўнік гісторыка-культурнага запаведніка "Заслаўе"*

## КНІГІ ПА АСТРАНОМІІ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

— Ці праўда, што наша Зямля — гэта кавалак масы, адарванай ад цэлага Сонца, а наш Месяц — таксама кавалак, адарваны ад цела нашай Зямлі?

— Няпраўда. Зямля наша ўтварылася не ад Сонца, паходзіць яна з парназоркавай, у пары з Марсам, сістэмы, якая знаходзілася калісьці дзесь у нябесных прасторах, зусім незалежна ад Сонца, аж пакуль Сонца, вандруючы ў нябесным прасторы, не спаткалася на шляху сваёй вандроўкі з гэтай парназоркавай сістэмай ды не разлучыла іх, палонячы ў сваю сям'ю.

Такімі словамі пачынае сваю кнігу "Дзе мы і хто мы. Бяседы аб утварэнні свету. Небазнаўства" Язэп Нарцызавіч Драздовіч. Ён напісаў яе на 97 старонках блакнота ў 1937 г., вандруючы па вёсках Дзісеншчыны (Віцебская вобл.). Але гэта была не першая кніга "аматара тэарэтычнай астраноміі", як называе сябе аўтар.

Неверагодна, але сёння імя Язэпа Драздовіча ўспрымаецца намі перш за ўсё як імя мастака, "волата беларускага

мастацтва", археолага і збіральніка духоўнай спадчыны свайго народа, выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння, але не як даследчыка зорнага неба, не як аўтара і кнігавыдаўца першай на беларускай мове кнігі па астраноміі.

Вялікая колькасць прац напісана Язэпам Драздовічам за яго шматпакутнае вандроўнае жыццё па "небазнаўстве", або касмалогіі. Яго безупынная творчая праца на ніве адраджэння беларускай справы не толькі "абудзіла заспаную душу народа", але і данесла да сучаснікаў невычэрпныя магчымасці мастацкай творчасці, занядбаныя скарбы душы беларускай... Яна, ператвораная ў асобу Язэпа Нарцызавіча, адраджала для беларусаў гістарычную памяць і вымушала іх зазірнуць у патаемныя, невядомыя глыбіні сваёй душы, каб нарадзіць у ёй новае — касмічнае —светаўяўленне". За "шчаслівую і вольную" Беларусь усё сваё жыццё змагаўся, "як адважны і непакорны воін, з апошніх сіл", "дзядзька Язэп", у якога часам "і хлеба не было ў роце".

Цікавасць да астраноміі з'явілася ў Я.Драздовіча яшчэ ў дзяцінстве, асабліва ў часе вучобы ў Віленскай школе мастацтва (1906—1910 гг.). Пасля заняткаў ён спяшаўся ў бібліятэку, дзе знаходзіў кнігі, атласы па астраноміі, геаграфіі і з цікавасцю іх вывучаў. Але вайна, якую ён назваў "вялікім зладзействам, піхаючым цэлыя мільёны людзей на забойства ... на душэнне жывых істот...", адарвала яго ад "небазнаўства" і прывяла разам з рэвалюцыйнымі падзеямі толькі "праз дваццаць гадоў у спольшчаную Вільню", дзе ён апынуўся ўжо беспрацоўным. Тут ён набывае за апошнія грошы пакой на вуліцы Ліпаўца, дзе пачынае "ўпарадкаванне розных выкрасаў аб стане нябесных планет" і робіць "аблічэнні", піша, малюе "небазнаўчага зместу абразы" ("Абсерваторыя на планеце Сатурн", "Горад мастацтва Artapolis", "Argentonia") і адгэтуль выпускае ў свет свае "Нябесныя бегі" (1931 год).

Я.Н.Драздовіч нарадзіўся 1 кастрычніка 1888 года ў засценку Пунькі Дзісенскага павета ў сям'і беззямельнага шляхціца. Пасля смерці бацькі ў 1890 г. сям'я Драздовіча,

якая складалася з маткі Юзэфы, энергічнай, гаспадарлівай жанчыны, і чатырох братоў, шмат вандравала па Дзісеншчыне, бо не мела не толькі зямлі, але і ўласнага дома. Менавіта ў дзіцячым асяроддзі хлопчык упершыню пачуў цікавыя апавяданні пра нябёсы. Таму сваю першую кнігу ён прысвячае "ўсім ахвярна працуючым дзеля навукі на добрае карыстанне, а бацькам маім — Нарцызу, што пры жыцці сваім любіў гутаркі аб планетах, і матцы Юзэфе, ад каторай не раз даводзілася чуць: "Вучыся і спазнай нябесныя бегі",— на светлую памятку іх заахвяроўваю".

У кнізе на беларускай мове папулярна выкладаюцца навуковыя звесткі пра "цэнтрацяжны і адлегласцевзаемацяжны прыцяг паміж нябесных цел", ролю, якую "іграюць у існаванні нябесных цел іхнія паверхняна-цэнтрацяжныя броні". Другая частка кнігі прысвечана вывучэнню "суцэльна цэлых абручоў Сатурна", дзе аўтар разглядае "магчымасці жыцця на бакавіцах суцэльна цэлых абручоў у кружніку Сатурна", а таксама адказвае на пытанне Чэмберса (з кнігі "Сонечная сістэма"): "Чаму ў часе раўнадзенства на Сатурне ... становяцца відочнымі неадначасна акрайцы кружніка Сатурна?" Асаблівую каштоўнасць надаюць кнізе 15 лінарытаў (малюнкаў), зробленых аўтарам для тлумачэння астранамічных паняццяў.

Акрамя кнігі "Нябесныя бегі", Язэп Драздовіч напісаў працы "Паходжанне планет Сонечнай сістэмы і іхняга самакручвання", "Гармонія планет". Рукапісы гэтых прац ён адаслаў у бібліятэку АН БССР, а рэшту рукапісаў здаў на захаванне ў Віленскі беларускі музей. На жаль, з гэтых прац захаваліся толькі тыя, якія былі здадзены ў музей. Працы гэтыя маюць мастацка-публіцыстычны характар, бо адлюстроўваюць жыццё на Месяцы, планетах Сатурн, Марс, Венера, якое Язэп Драздовіч назіраў падчас сваіх самнамбулічных сноў, на якія яго арганізм быў надзвычай здольны. Тэмы, распачатыя ў ягоных "Паходжанні планет Сонечнай сістэмы...", "Гармоніі планет", мы знойдзем і ў "Бяседах па небазнаўстве, або Нябеснай механіцы" (1937 г.), як называў гэты твор сам аўтар.

“Небазнаўчыя бяседы” маюць часам безумоўна фантасмагарычны змест, але за гэтым неверагодным “адзеннем” заўсёды прасочваецца — нібыта з вышыні касмічнага сумлення — асабістае чалавечае адчуванне жыцця. Апошняе павінна існаваць там, дзе яшчэ не быў чалавек з Зямлі, бо, магчыма, ён жыў калісьці там (на Месяцы, напрыклад, у горадзе Трывеж). Гэтае адчуванне здаецца нават рэальным, бо яно падрабязна апісваецца ў шматлікіх сцэнах жыцця на Марсе ці на Месяцы, дапоўнена шматлікімі гіпотэзамі аўтара аб утварэнні Сонечнай сістэмы, парадамі наконт таго, “што павінны ўзяць з сабой зямныя турысты на Месяц”. Тут разам з апісаннем “касмічнай тарпеды” і яе чарцяжа ёсць дакладная карціна “лунная фаўны” — “земнаводных скакуноў”, “галаскурых заўрыдаў”. Падобныя на іх істоты жылі “калісьці ў дапатопныя часы і ў нас на Зямлі, ды вымерлі”. На пытанне аўтара самому сабе: “Адкуль я ўсё гэта ведаю?” — ён адказвае, што “з-за таго, што пішу тут не для аднаго і не для некалькіх у аднолькавай ведзе і перакананнях, а для невядомых мне ўсіх — мушу змоўчаць. Хай судзяць аба мне, як каму падабаецца. А сваё цвярджу і прадаўжаю. Прыйдуць часы, і знойдуцца людзі, якія змогуць усё гэта — напісанае мною — спраўдзіць, праверыць, ды напішуць: “А ўсё ж праўду ён пісаў, так і ёсць...” Я.Драздовіч верыў, што “існуе вышэйшая, разумная сіла, якая кіруе гармоніяй руху планет”.

Сваю галоўную кнігу “Тэорыя рухаў у касмалагічным значэнні” Язэп Драздовіч пачаў пісаць у 1948 годзе на Дзісеншчыне. Яна складалася з 6-ці кніг і павінна была выйсці ў свет “у найспрошчанай форме, для людзей, якія імкнуцца да ведаў”. На сённяшні дзень захаваліся толькі чатыры кнігі і некалькі глаў з пятай (ці шостай?) кнігі. “Тэорыя рухаў ...” падводзіць своеасаблівы вынік астранамічным даследаванням беларускага “небазнаўца” і дае нам, сучаснікам 90-х гадоў XX стагоддзя, адчуць той занядбаны пласт нашай культуры, каторы да сённяшняга дня не трапіў яшчэ ў скарбонку духоўнай спадчыны беларусаў.

У сваёй прадмове да "Тэорыі рухаў ..." Я.Драздовіч пералічвае 16 "навін" (адкрыццяў), якія ён зрабіў у гэтай працы дзеля навукі (астраноміі). На працягу сваёй працы аўтар паступова падыходзіць да сцвярджэння гіпотэзы аб тым, што "першапачаткова Сонечная сістэма складалася толькі з адных планет несамакрутных, лунападобных. А самакрутныя планеты з`явіліся пазней з парназоркавых сістэм, як разлучоныя ды і ўвайшоўшыя ў склад Сонечнай сістэмы, як запалоненыя Сонцам на яго, сонечным, шляху".

Да "разлучоных пар з парназоркавай сістэмы" Я.Драздовіч залічае нашу Зямлю з Марсам, Юпітэр з Сатурнам, "мяркуючы па іхнім аднолькавым нахілам восяў, а самае галоўнае — па іхняму аднолькаваму самакручванню па сваёй восі, менавіта па даўжыні іхніх сутак, якія засталіся за імі, як унутранамасавая разгонная сіла ад моманту іхняга выхаду з прывязі ў кругабежным руху парназоркавай сістэмы, у якой яны, счапіўшыся ўзаемным прыцягам, праробляліі кругі навокал пустуючага цэнтра ...". Раз'яднала ж планеты з парназоркавых сістэм "праходжанне іх (сістэм) праз ператваральныя зоны". Ператваральныя зоны, па словах аўтара, — гэта "безэфірныя зоны, у якіх адсутнічае закон сусветнага прыцягнення". Гэтыя ператваральныя зоны "не толькі рассістэматызоўваюць і перагрупоўваюць уляцеўшыя ў заняты імі прастор зорныя сістэмы, але і пераўтвараюць самасветныя зоркі, са старэючых і пагасаючых, у адладжаныя ярка свецячыя "новыя зоркі".

Разважаючы аб фізічнай прыродзе ўтварэння Сонечнай сістэмы, аўтар падкрэслівае, што "Сонечная сістэма — рэч зборная, рознаэпохавая; працэс утварэння Сонечнай сістэмы яшчэ не скончаны". Шмат месца займаюць у кнізе пытанні аб "геалагічным стане Зямлі, аб залежнасці землятрусаў ад прычын касмічных, аб залежнасці цячэння Гальфстрым ад нахілу зямной восі, аб магчымым газападобным стане зямнога ядра".

Для таго, каб выпусціць у свет сваю кнігу, Я.Драздовічу патрэбна была на яе рэцэнзія з выдавецтва. Таму ён звяртаецца да дэкана фізіка-матэматычнага факультэта БДУ імя Леніна

прафесара Пахуты і адсылае яму кароткі агляд сваіх тэорый "Паходжанне планет Сонечнай сістэмы" з дабаўленнем главы "Аб пераўтваральных зонах". Але прафесар Пахута няўважліва прачытаў ліст Язэпа Драздовіча і пераблытаў слова "самовертящиеся" (планеты) са словам "самосветящиеся", што, безумоўна, змяняе ўвесь сэнс працы "любителя теоретической астрономии".

Адчуваючы свае немаладыя гады, Язэп Нарцызавіч звяртаецца да віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук БССР Якуба Коласа са сваімі клопатамі, выказваючы пажаданне: "Я хачу толькі аднаго: каб мая даўгалетняя праца дарма не змарнавалася, не згінула ад пажараў вайны і ад незахавання праз "захоўшчыкаў-расцяпаў"... Адукацыя мая Гершалеўская. Астраном Гершаль (адкрывальнік планеты Уран, падвойных зорак і г.д.) быў музыкант, а я мастак... Доўга пражыць, пры маім вандроўным жыцці, не спадзяюся. Можа, для Акадэміі навук я і "не падыходжу", але няхай...".

Бясслоўнае шматкроп'е... Часам яно кажа нам болей, чым усе працы, болей, чым нават само жыццё чалавека, які жыў сярод нас і аб якім мы амаль нічога не ведалі. Так, нават прачытаўшы ягоны "Дзённік" (адзіны твор, які быў надрукаваны ў часопісе "Маладосць" у 1991 г., на жаль, у скарочаным выглядзе), відаць, не кожны чытач звярнуў увагу на словы, якія прадбачаць будучы лёс чалавецтва. Словы, якія напісаны ў 1933 годзе, але да асэнсавання каторых мы яшчэ не гатовы сёння. "Прыйдуць часы, калі бальшыня жыхароў нашай планеты адмовіцца ад учасця ў войнах... . І ўсю тэхніку з навукай абернуць не на паслугі гэтаму зладзейству, а на добрае дзела... усе тыя затраты, якія ішлі на вядзенне вайны, пойдуць на заваёву нявыкарыстаных сіл прыроды... а побач з гэтым і на заваёўванне пазаатмасфернага міжпланетнага прастору, які нас падзяляе хоць і з надта старым, але яшчэ жывым светам — ясным Месяцам. Месяц — гэта такі самы жывы свет, як і наша зямелька-планета, на якой мы жывём. Хіба з той розніцаю, што мы, зямляне, як астраўляне, жывём на ўзвышшах, якія у

нас называюцца сушамі, а яны, месячане-луніды,— там, дзе вада трымаецца не долаў, а ўзвышшаў (у скрышталізаваным выглядзе, як снег на гарах), жывуць у далінах".

Нас уражваюць аптымізм, упэўненасць Язэпа Драздовіча ў тым, што яго праца будзе патрэбная людзям нават тады, калі ён адчуваў сябе адзінокім і непатрэбным беларускаму грамадству: "Я адзін, я кругом адзін, адзінокі. Я не маю каму пакінуць гэтую працу пад апеку, дзеля выпуску ў свет. Дык дзеля чаго і каго я ўсё гэта пішу? А пішу... Не, я не адзінокі. Са мной думкі і сіла любові да творчай гармоніі Сусвету...".

Такімі словамі скончыў сваю кнігу "Небазнаўства" ў 1938 годзе Язэп Драздовіч. І з такіх жа слоў хацелася б пачаць збор твораў Язэпа Драздовіча — прац па небазнаўстве, гісторыі, мастацка-публіцыстычных твораў. Усе яны павінны быць выдадзены ў Беларусі.

**Самайлюк Т.А.,** *загадчык аддзела рэдкай кнігі Беларускага універсітэта культуры*

## ДА ВЫЗНАЧЭННЯ ПАНЯЦЦЯ "РЭЛІГІЙНАЯ КНІГА"

Рэлігійная кніга як феномен духоўнай культуры да сённяшняга дня спецыяльна не вывучалася. Яна не была вылучана з патоку рукапіснай і друкаванай кніжнай спадчыны як літаратура, што абслугоўвала сферу рэлігійнага жыцця грамадства. Рэлігійная кніга як артэфакт сацыяльнай рэчаіснасці, сродак трансляцыі сакральных ведаў мае старажытную традыцыю. З цягам часу гэта традыцыя трансфармавалася, напаўнялася новымі сэнсам і значэннем пры захаванні традыцыйных веравызнальных дагматаў.

У свеце існуе свяшчэнны і свецкі вопыт жыцця, ён прымаецца чалавекам на працягу гісторыі. Чалавек традыцыйных грамадстваў — гэта, зразумела, homo religiosus. Для людзей, якія валодаюць рэлігійным вопытам, уся Прырода

ўяўляецца касмічнай свяшчэннай прасторай. Космас ва ўсёй яго паўнаце прадстае як іерафанія (г.зн. як праяўленне свяшчэннага). Светаўспрыняцце свяшчэннай прасторы дазваляе знайсці "кропку адліку", зарыентавацца ў хаатычнай аднароднасці, "стварыць Свет" і жыць у ім рэальна [Элиаде М. La sacre et le prafane = Священное и мирское.— М.,1994.— С.19]. У эпоху Асветніцтва, на жаль, адбываліся страта свяшчэннасці, дэградацыя і дэсакралізацыя рэлігійных каштоўнасцей і рэлігійных паводзін чалавека. Сучасны чалавек адчувае цяжкасці ў разуменні маштабаў быцця, каштоўнасцей рэлігійнага чалавека традыцыйных грамадстваў. Але ў сферы дзейнасці чалавечай свядомасці і па сённяшні дзень захоўваецца рэлігійны светапогляд. Акрамя рэлігійнага светапогляду, у сферу духоўнай дзейнасці чалавека ўваходзяць: навуковы светапогляд, грамадскае жыццё, філасофскае сузіранне, мастацтва. Яны развіваюцца ў цеснай сувязі і ўзаемадзеянні адно з другім. У.Вернадскі пісаў, што "уничтожение или прекращение одной какой-либо деятельности человеческого сознания сказывается угнетающим образом на другой. Прекращение деятельности человека в области ли искусства, религии, философии или общественной жизни не может не отразиться болезненным, может быть, подавляющим образом в науке. В общем мы не знаем науки, а следовательно, и научного мировоззрения вне одновременного существования всех сфер человеческой деятельности; и поскольку мы можем судить из наблюдения над развитием и ростом науки, все эти стороны человеческой души необходимы для ее развития, являются той питательной средой, откуда она черпает жизненные силы, той атмосферой, в которой идет научная деятельность" [Вернадский В.И. Избранные труды по истории науки.М.,1981.— С.50—51]. Рэлігійны светапогляд мае такія характэрныя рысы, як: спецыфічная форма адлюстравання свету; узнёсласць ідэалізаванага пачуцця і містычнае сузіранне; традыцыйная форма выяўлення містычнага настрою; прысутнасць нацыянальных традыцый; абавязковая цэнасная арыентацыя

пры адсутнасці альтэрнатыў духоўных цэннасцей; устойлівы рэлігійны дагмат; уздзеянне на разнастайныя групы сацыяльнай арганізацыі жыцця, г.зн. выхад за рамкі царкоўна-рэлігійнай практыкі.

Адлюстраванне рэлігійнага светапогляду ў прасторы і часе адбываецца і ў рэлігійнай кнізе, вытокі якой у сярэднявеччы. Паспрабуем вызначыць паняцце "рэлігійная кніга". Паняцце "кніга" тут мы разумеем як адну з формаў існавання інфармацыі ў грамадстве, як асаблівага роду крыніцу для разумення свету і чалавека.

Пад рэлігійнай кнігай мы разумеем такую кнігу, змест якой выяўляе светапоглядныя ўстаноўкі індывідуума ці калектыўнага суб'екта, заснаваныя на спасціжэнні пэўнага містычнага рэлігійнага вопыту, які выходзіць у сферу трансцэндэнтальнага, і адлюстраванне гэтага зместу ва ўсведамленні суб'ектаў, што падзяляюць ці не падзяляюць духоўна-практычныя каштоўнасці аўтараў.

З пункту гледжання формы і зместу рэлігійныя кнігі могуць мець адметную сімволіку ментальнага поля культуры той эпохі, у якой яны былі створаны.

Нам цяжка сёння зразумець сэнс сімволікі рэлігійнай кнігі, яе сакральнасць без звароту да крыніц хрысціянскага вучэння, на аснове якога фарміраваўся асноўны корпус багаслоўскіх і набажэнскіх кніг.

Рэлігійныя кнігі хрысціянства ўзнікаюць па меры фарміравання асноўных крыніц хрысціянскага вучэння, якімі з'яўляюцца Адкрыццё, Царкоўнае Паданне і Святое Пісанне. Адкрыццё з пункту гледжання культуралагічнага падыходу вызначаецца як сакральная форма праяўлення свяшчэнных рэальнасцей. Хрысціянская веравызнальная традыцыя гаворыць, што невымоўны і недаступны Бог адкрыўся людзям праз Святы Дух і Ісуса Хрыста. Тое, што было дадзена ў Адкрыцці, перададзена і захавана Царкоўным Паданнем. Царкоўнае Паданне ёсць рытуальная пабудова свяшчэннай прасторы і формаў яе ўспрымання. У хрысціянскім веравызнальным

успрыняцці Царкоўнае Паданне ёсць вучэнне святых Айцоў, вучыцеляў Царквы, пастановы ўсяленскіх сáбораў, гэта значыць, у поўным сэнсе тварэнне сімволікі, дагматыкі, літургікі, рытуалаў, інстытутаў царкоўных і інш. Асобным вобразам боскае Адкрыццё было ўвасоблена на старонках Святога Пісання, напісаных па натхненні Святога Духа, а значыць, у іх выказана боская ісціна. З пункту гледжання культуралогіі Святое Пісанне ёсць пісьмовая форма захавання іерафаній (праяў свяшчэннага).

На падставе крыніц хрысціянскага вучэння фарміраваўся асноўны корпус багаслоўскіх і набажэнскіх кніг. Для кожнай з хрысціянскіх канфесій на працягу тысячагоддзяў складваецца і свая сістэма кніг з уласцівай ёй сімволікай і вызначанай дамінантай. У якасці дамінанты выступаюць дагматы царквы, ідэалы, царкоўная літургіка; у якасці сімволікі — мова, графіка шрыфту, аздабленне і інш.

Асноўным крытэрыем тыпалагічнай характарыстыкі рэлігійных кніг па канфесійнай прыналежнасці з'яўляецца веравызнальная дактрына.

## АЛФАВІТНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## ЗМЕСТ

*Навуковае выданне*

**КІРЫЛА-МЯФОДЗІЕЎСКІЯ НАВУКОВЫЯ ЧЫТАННІ, ПРЫСВЕЧАНЫЯ МІЖНАРОДНАМУ ДНЮ СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ**

*Матэрыялы чытанняў (Мінск, 23 мая 1997 г.)*

**Рэдактары** С.Б. Сачанка, Л.Ц. Спірыдонава
**Карэктары** С.Б. Сачанка, Л.Ц. Спірыдонава
**Камп'ютэрны набор і вёрстка** В.В.Вядзернікавай

Падп. да друку 16.10.98. г. Фармат 60х84 1/16.
Друк глыбокі. Папера пісчая № 2. Ум. друк. арк.11,5.
Ул.-выд. арк.10,2. Тыраж 100 экз. Заказ 52.

*Ліцэнзія ЛВ № 283. Беларускі універсітэт культуры*
*2220001, Мінск, вул. Рабкораўская, 17.*

*Рызограф Беларускага універсітэта культуры*
*2220001, Мінск, вул.Рабкораўская, 17*